УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)-5
Ф32

*Серыя заснавана ў 1999 годзе*

Укладальнік *Віктар Гардзей*



*Выпуск выдання ажыццёўлены па заказу і пры фінансавай падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь*

**ISBN 978-985-02-1060-9**

## БАЛАДА ПРА БУСЛОЎ

*А. Т. Каўко*

Ад пажару
аблокі,
як сцены,
крышыліся.

Я стаяў нерухома
на чорным дзядзінцы...
Прыляталі буслы —
і бяссільна кружыліся
над маім трохгадовым
пякельным дзяцінствам.

Прыляталі буслы...
Я — нібы ў ліхаманцы —
падаў,
зноў падымаўся
і зноў падаў вобзем...

Хто сказаў,
хто сказаў:
«Калі бусел на хаце,
значыць —
хату
ніякае гора
не возьме»?

Тут —
вайна сорак першага,
страшнага года;
я —
апошні ў сям'і
і адзіны мужчына...

Хто сказаў,
што мінае
бусліны край
гора?

Бацька мёртвы...
Трываць немагчыма...
І раней,
і пасля,

колькі помню я выраяў,
вырай той —
самы жудасны вырай...
Мы жылі у зямлянках,
мы ў Бога не верылі,
мы насілі кашулі навырост.
І цяпер,
калі моўчкі стаю
на дарозе,
нада мной
белы бусел
нястомна лунае...
Ці не бацьку майго
ува мне,
у дарослым,
ён жадае пазнаць,
ён убачыць жадае?

* * *

У нашым лесе
дрэў нямала,
а мне радней усіх
бяроза...

Бяроза крык мой сунімала,
бяроза стрымлівала слёзы,
у дні блакады
боль лячыла,
паіла жыватворным сокам,
служыла ў цемнаце лучынай,
пакуль не засвяціла сонца.

## НАВАЛЬНІЦА

І вербы,
і зялёныя бярозы
схілялі ветла вецце
перад ветрам.
Адзін высокі дуб,
як дзікі волат,
на неба раўнадушна пазіраў.
Яго нішто,
здаецца,
не кранала:
ні востры подых блізкай навальніцы,
ні яркія праменні,
што блішчалі
ў густой
і волкай
ранішняй траве.
Было ніякавата
і нязвыкла
стаяць
пад безмяцежна ціхім дубам...
І штосьці таямніча-трапяткое
ў дрымотнай кроне дуба начавала.
Хісталася агромністая хмара,
агромленая сотнямі маланак...
А вербы
і зялёныя бярозы
схілялі ветла вецце
перад ветрам.
І я маўчаў,
чакаючы...
І раптам
сярод шалёнай
велічнай стыхіі
пачуў тваё трывожнае дыханне
і песню паслухмяных валасоў.
Я прашаптаў тры словы —
і заплакаў;

балюча абдымаючы,
адчуў я,
што ў пацалунку ярасным
зліліся
і вера,
і надзея,
і любоў...
Не ведаю —
ці вечнасць,
ці імгненне —
я плакаў так
ад слодычы
і шчасця...
Ты хуценька нагнулася —
пяшчотна
трымала ты
на пальцах
птушаня.
Нямоглая
і кволая істота,
ахвяра першай летняй навальніцы,
ляжала на абветранай далоні...
І не было трагедыі страшней.
Я паглядзеў у вочы баязліва —
і столькі мацярынства там убачыў,
што адступіў на крок...
Але збліжэння
прадухіліць было ўжо немагчыма.

* * *

Прачыналася рэчка Ясельда
і цякла
у старажытны бор...
Павандрую —
і зноўку я сюды
прынясу маёй страты боль.
Не сунімецца боль
ад дотыку
хвалі ціхай —
нібы сляза...
Пачыналася песня
з досвітку
ў барадатых,
сівых лясах.
О дачка задуменнай вернасці —
Ясяльдзянка з касой-красой,
я не веру,
што ты
не вернешся
ў гэта мудрае хараство.
А паверу —
дык песняй раненай
на гарачы ўпаду абрус...
Захвалюецца рэчкай ранішняй
у вачах маіх
Беларусь.

## БАЛАДА ПРА ХАТУ

*У. Паўлаву*

Хату
будаваць
збіраўся тата,
каб не знацца болей
з буданамі.
А вайна
для бацькі майго
хату
без дзвярэй,
без вокан
збудавала.
Мы тады намёрзліся удосталь —
навісала неба
коўдрай белай.
Я ішоў з маленства
у даросласць
па снягах
між соснаў карабельных.
У бары,
ля ціхае дарогі,
я з дзядзькамі добрымі сустрэўся:
хто з сякерай,
хто з пілою доўгай,
некаторыя —
са стрэльбамі.
— Ай, хлапец,—
мужчыны спачувалі.
— Ну герой...
Да вогнішча паклікалі.
Накармілі,
напаілі чаем,
распыталі
пра бяду вялікую.
Палажыў далоні
мне
на плечы
дзядзька з пугачоўскай барадой:

— Будзеш,
хлопча,
грэцца каля печы —
я з брыгадай пабудую дом.
...Вечарамі з дзядзькам Мітрафанам
планаваў я нашу вёску новую.
А вясна прыйшла неспадзявана —
зазвінела стружкамі сасновымі.
Гаманілі цеслі-лесарубы.
Урачыста,
быццам на вяселле,
з імі
крочыў я
штодня
да зруба
і спраўляў у думках наваселле.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Глянь,
Міколка!..
Вокліч брыгадзіра
разбудзіў
нарэшце
ўсё навокала...
Выплывала хата
брыганцінай
з чыстымі,
як вочы,
вокнамі.

* * *

Ад каляровых сноў,
ад халастога тлуму
паеду на Палессе,
у лясы,
дзе —
ні хвалы,
ні зайздрасці,
ні суму,
дзе
брату брат я,
а матулі —
сын.
Пастаўлю хату цёплую
ля гаю,
на беразе Гарыні
ці Дняпра,
вясковую дзяўчынку пакахаю —
дзіця Высакародства
і Дабра.
Так буду жыць.
Ні славы,
ні праклёнаў.
Да скону верны жонцы
і пяру,
Да скону у Радзіму улюбёны.
Быць можа,
я ніколі не памру.

## ПЕСНЯ КАСЫ

Касі, каса, пакуль раса
кругом ляжыць-блішчыць.
Звіні, каса,
спявай, каса:
«Жу—ж-жых,
жу — ж-жых,
жу — ж-жых...»

Касі, каса, пакуль раса!
Касі і без расы.
Адпачывай, мая каса,
на дзень па тры разы.
Навокала —
трава-краса:
ні краю,
ні мяжы...
Звіні, каса,
спявай, каса:
«Жу — ж-жых,
жу — ж-жых,
жу — ж-жых».

## ТРЫЯЛЕТ

Нарач-возера —
Нарач-мора:
гулкі бераг,
нямое дно...
Параўнанне ў мяне адно:
Нарач-возера —
Нарач-мора.
Гляну зверху —
наскрозь відно,
колькі радасці,
колькі гора...
Нарач-возера —
Нарач-мора:
гулкі бераг,
нямое дно.

## УВЕКАВЕЧ, ФАТОГРАФ...

Самае дзіўнае, што
Ўсіх захапляла ў сяле,
Гэта быў фон, на якім
Знятыя ўсе мы былі...

*М. Танк*

Увекавеч мяне,
увекавеч,
фатограф,
на фоне роднай хаты
ў тры акны.
Старая хата
век свой
дажывае.
На гэтым месцы
я збудую дом.

Не для сябе,
быць можа,
а збудую
высокі,
светлы,
неабсяжны дом
і звонкі —
быццам шклянка,
што на стол
матуля ставіць
ў дзень майго прыезду.
Увекавеч,
увекавеч,
фатограф,
драўляную сцяну,
з якой
талеркі вокнаў
дзень і ноч
глядзяць
удалячынь,
не могучы сустрэцца.
Увекавеч,
фатограф,
і парог,
які гасцям няпрошаным заглядвае
пад крысе,
нібы запрашае
адбіць паклон.
Увекавеч і дзверы,
што руку
табе,
як дружбаку майму,
працягваюць...
Увекавеч,
фатограф,
развітанне
з першай
калыханкаю сваёй.

## НАБОРШЧЫК

Бяру ў руку
вярстатку
звыкла.
Набраць мне песню
неабходна.
Ляжаць шрыфты,
пакуль
не літары,
нібыта клавішы,
халодныя...
Пакуль маўклівыя,
нясмелыя...
А дакрануся —
і мелодыяй
радкі звычайныя засвецяцца,
радкі жывыя,
не халодныя.
І цішыня ўздыхне
спрасоння...
Прачнуцца цёплыя пачуцці...
Лаўлю,
сартую гукі
сёння,
каб заўтра
людзі ўсе
пачулі.

* * *

Парой
я чую голас чалавека,
ў якім
няма
амаль нічога чалавечага...
Парой
вакол сябе
я бачу
толькі люстры,
ў якіх
не падобны на сябе...
Парой жыву
на самым дне адчаю...
Але заўжды я помню пра цябе.
Мая Айчына,
ты —
душа
маёй душы,
што абрастае сумам
па табе,
пакуль я —
за даламі,
за лясамі...
О Бацькаўшчыны шчодрая зямля,
ты —
сэрца
майго сэрца,
што ўвабрала
гром бубнаў
ўсіх вяселляў
на Палессі...
Радзіма!
Твае вочы,
як дзве думы,
глыбокія і ясныя дзве думы,
глядзяць трывожна
на мяне.

* * *

Ведаеш,
падчас
бывае трудна...
У сухую,
рыжую канаву
выкінулі пчолы трутня.
Ён ляжыць,
ад голаду канае...
Сіла расцякаецца зямная
па лугах,
па нівах,
па барах...
Памірае труцень
і не знае,
як даўно
пачаў ён паміраць.
Песняю узнёслай,
маладою
пчолы славяць
нараджэнне дня.
Сонца,
як ліповая мядоўня,
музыкай прасвечана
да дна.
І я ўжо не думаю
пра трутня.
Але ж чую:
цяжка
хтосьсапе...
Ведаеш,
парой
бывае трудна,
а часцей —
мне страшна
за сябе.

* * *

Гарачыня —
хоць на лусты
рэж яе,
гарачыня —
аж дыміць паветра...
Мы,
ад поту
і пылу рыжыя,
лічым крокамі кіламетры.
Раз-два,
раз-два...
Салдаты зморакы.
Ногі ныюць —
спачыну просяць.
Я прыгадваю край азёрны —
сенажаці
і нівы росныя —
і матулю
з вачамі,
поўнымі
неспакою,
тугі аб сыне...
Я прыгадваю бацьку-воіна,
пахаванага на чужыне.
А бярозы,
дубы
і клёны
шэпчуць
нешта сваё
на ўзлессі...
Я іду...
А за мной — калона.
І, як сцяг,
над калонай —
песня.

## «КАМПАНЭЛА»

Ад хады
імклівай
і бясконцай
галаве
пад шапкай
цесна.
Вёска сустракала нас,
вайскоўцаў,
пахам малака і цеста.
З крайняй хаты —
першы гук загадкавы...
У грудзях —
пяшчотная вібрацыя.
Старшына спытаў,
а не загадваў:
— Перакурым, брація?
— Перакурым!
Хлопцы шчыравалі...
...Недакураны цыгаркі.
Старшына стаяў зачараваны:
— О, цэ гарно!
Цішыня,
духмяная
і цёплая,
птушанём
згарнулася за пазухай.
Дзесяцігадовы хлопчык Сцёпка
скрыпку працягнуў —
як казку.
Старшына узяў яе,
таксама
як найдаражэйшую каштоўнасць.
Старшына трымаў экзамен
перад скрыпачом
ў кароткіх штоніках.
Ён спярша смычком пагладзіў
па струне
па кожнай
паасобку.

З маршальскай сур'ёзнасцю
у паглядзе
пазіраў
на старшыну
Сцёпка.
Гук,
гарэзны,
звонкі
і вясёлы,
збег па струнах,
як хлапчук
па лесвіцы.
Ранішняй
паўднёваю вясною
дыхала вясна палеская.
Пунсавела неба
хусткай вымытай.
І была далёка спёка дзесьці.
— «Кампанэла!» —
Сцёпка вымавіў.
— «Кампанэла...» —
паўтарылі дзеці.

* * *

Водпуск салдату —
што дождж ык
для руні...
Спяваюць,
нібыта гармонікі,
боты.
Да рэчкі,
на выган трымаю кірунак —
туды,
дзе сонца ў хвалях
боўтаецца.
О, каб не форма мая
вайсковая,
о, каб не мой зухаваты выгляд,—
не беглі б так
хлапчукі вясковыя
за мной —
да рэчкі,
за мной —
на выган.
Абступілі,
нібы Гагарына.
Паспрабуй
адкажы
на ўсе пытанні!
Цікаўнасцю,
радасцю
свецяцца тварыкі
Міколкавы,
Таніны...
Хлопчык
маленства зусім не трывожнага,
пяцігадовы сусед Міхаська,
на эмблемы паказвае:
— Дзядзька,
можна
пакратаць танкі?
— Ну што ж,
калі ласка...

* * *

*Л. З.*

Па маўклівых слядах,
што застылі ў снягах,
я ішоў у твой сад
малады...
А цябе не спаткаў,
бо разлука —
сцяна,
даўжынёю
ў чатыры гады.
Над табой —
сінява,
срэбны спеў салаўя...
Да цябе —
паўхвіліны хады.
Сустракаемся ў снах,
бо разлука —
сцяна
шырынёю
ў чатыры гады.
А навокал —
слата...
А навокал —
смуга,
як дрымотны,
нізрынуты дым...
Не хапае святла,
бо між намі —
сцяна
вышынёю ў чатыры гады.

* * *

Святлела неба
усё вышай,
вышай...
За лесам
вохкала навальніца.
Дзяўчына
з возера
ціха выйшла —
і травы
ў ногі ёй
палі ніцма.
Глядзеў,
глядзеў я —
і кожным нервам,
і кожнай жылкай адчуў,
як лёгка
ў маю істоту
ўвайшла Венера
сваёй цнатлівасцю басаногай.
Хацеў усклікнуць —
як зноў народжаны,
але маўчаў,
бо не мог паверыць...
Як замарожвала —
заварожвала
маю ўтрапёнасць
мая Венера.
Я апрытомнеў,
калі па возеры
назад дзяўчына плыла —
бы ў вечнасць.
Яна адвозіла
ў ціхім позірку
цяпло пачуццяў маіх адвечных.
Мінула многа спякотных маяў...
Як толькі ж выскачыць бліскавіца —

бягу да возера
і чакаю:
а мо
    на бераг
        дзяўчына выйдзе.

## БАЦІМА

Колькі дзён,
    колькі год
        выглядала!
На калючым,
    крутым скразняку
абдымала,
да слёз цалавала
і шчаслівыя слёзы раняла
у закутую лёдам раку.
Паплылі разарваныя гурбы,
і крануўся узрушаны лёд...
Цалаваў абыякава,
груба
і раскосыя вочы,
і губы,
і раскошныя косы ўразлёт...
Адшумела вясна,
    адшугала.
На зямлі і на сэрцы зіма.
Баціма!
Ці знайшла,
    што шукала?
Ці жывы ён,
    каго ты кахала?
Ці няма?
Баціма...
Баціма...

* * *

О, як вы надакучылі,
салісты, —
салісты,
што няўцямна пераналі
і галасы птушыныя,
і песні,
і чалавечай мовы не чуваць...

О, як вы надакучылі,
партрэты,
дакладныя да зморшчынкі драбнюткай,
падобныя ва ўсім да арыгіналаў,
а чалавечых твараў не відаць...

О, як вы надакучылі,
паэмы,
дзе славяцца ракеты і ракеткі,
нейтрон і пазітрон
і нават робат,
а чалавечай споведзі няма...
Дыхання чалавечага няма...

* * *

Не магу без цябе...
Але ўсё ж
не пагасла
мая вера,
хоць дзень пацямнеў...
Не партрэт,
а скразная,
як воблака,
пасма,
непакорная пасма
плыве
па сцяне.

Ні вачэй,
да усмешкі нявіннае прагных...
І ні вуснаў...
Як хутка яны адцвілі!
Толькі пасма,
як воблака,
ціха
і плаўна
аддаляецца ў дымную даль
ад зямлі.

О, няўжо застануся і заўтра,
як сёння,
ў неспакойным пакоі
сам-насам, адзін,
з незагойнай тугой
па высокаму сонцу,
па залётнаму звону
зялёных калін?

Без цябе... не магу...
Буду ж вечна маліцца
за таго —
за другога,
якога
без слоў
паланіш ты знянацку
густой навальніцай
неабдымна-ўтрапёных,
крутых валасоў.

* * *

Ты глядзела на неба.
Здавалася мне,
што
за сабою вяла ты
мяне,
як малога,
у празрыстую вечнасць,
у бясхмарную млечнасць,
дзе няма засмучэння,
дзе радасці многа.
Я цябе абдымаў —
і здавалася мне,
што
летуценні мае
неабдымнасць
гублялі...
Захмялелы пяшчотай,
я шаптаў табе нешта
пра любоў сваю
нібы чужымі губамі.
А пасля я маўчаў.
Я маўчаў, анямеўшы...
І цела
само
напаўнялася гукамі.
І здавалася мне,
і здавалася мне,
што
сэрца,
сэрца тваё
у грудзях маіх
грукае.

* * *

Вясной,
калі неспадзявана-нечакана
маю душу
агорне
ціхі смутак,
я ў яблыневую квецень
выйду,
і белы сад
мяне развесяліць.
У летні поўдзень,
калі стане млосна
ад успамінаў горкіх
і дрымотных,
пайду я ў сад зялёны,
ён суцешыць
мяне
сваёй гаючай прахалодай.
А восенню,
калі ў пустой кватэры
пасля натхнёнай
і цяжкой работы
я раптам не знайду
і лусты хлеба,
я ў сад пайду —
і сад мяне накорміць.
Зімой жа
сад
я не ссяку
на дровы...
Зімою
я вярнуся на радзіму.
Там рукі анямелыя сагрэю,
там велічную песню напішу.

## ЗАРУЧЫНЫ

Без бацькоў,
без сватоў
заручыны
мы адзначылі
майскай раніцай.
Нечакана
былі разлучаны
мы з табою,
мая абранніца.
Грукаў я
па дарогах верасня,
слухаў лютаўскія мелодыі...
Па арбіце ўзаемнай вернасці
да цябе
мае пісьмы лёталі.
Ад чакання
нямелі губы.
Напісала ж ты,
што не верыш...
І яшчэ папрасіла:
«Любы,
напішы
пра каханне вершык...»
А пакуль я знаходзіў рыфмы,
ты паведаміла тады:
«Выбачай,
выбачай...
Дарыў мне
сваё сэрца
другі...
Не ты...»
Вершы піша ён ці не піша —
я ў пісьме прачытаць не змог.
Толькі зваць яго —
быццам Міша,
жартам
Бога
паваліць з ног.

Хай твой Міша паваліць чорта —
мне ад гэтага не лягчэй...
Вось
        я ўбачыў дзяўчыну ўчора —
і не мог апусціць вачэй.
Скласці верш
                яна не прасіла.
Не паверыш ты...
Што ж, не вер!
А дадому
            мы йшлі шчаслівыя —
я і верш.

## ПОЎДЗЕНЬ

Па-за пушчаю,
                пад небам душным,
лугавіна жнівеньская смягне...
На траве
        ў цяньку,
                як на падушцы,
я лягу,
        глытаю мёд са смакам.
Ля ракі
        ў салодкай прахалодзе
спяць чаромхі —
                да пляча
                        плячо.
Сэрцы ўсхваляваных параходаў
б'юцца заклапочанасцю пчол.
Слухаючы песні параходаў
у святле мелодыі чароўнай,
думаю:
чаромха пахне мёдам
ці гаючы мёд прапах чаромхай?

* * *

Цыганка варажыла,
варажыла —
бажылася,
што доўга буду жыць.
Цыганка успаміны варушыла,
старалася душу разварушыць.
Вясёлая
няшчасная цыганка
працягвала прыгожую руку.
А я —
смаліў цыгарку за цыгаркай,
а я —
глядзеў маўкліва на раку.
Я разумеў:
лухту нясла цыганка,
я сам не горш умею варажыць...
Але было балюча
і складана
мне
гэты вечар
аднаму пражыць.
Было ў трывожным свеце
гэтак многа
любві і здрады,
праўды і хлусні,
што мне
была патрэбна дапамога,
каб разабрацца
да канца
ва ўсім.
Ізноў цыганка карты разлажыла.
Я зноў глядзеў маўкліва на раку.
Цыганка варажыла-варажыла...
Мне столькі варажылі на вяку!
Пасля я прачытаў цыганцы вершы
пра першую жанчыну на Зямлі...

Цыганка запытала:
— Значыць,
верыш?..
Я верыў...
Я цыгаркі ўсё смаліў.

* * *

Пагляджу у вочы,
а там —
ростань:
сніцца табе
іншая зямля...
Я зраблюся
лугавінай роснай,
каб прайсці ты міма не змагла.
Рассцялюся
роўнай сцежыною —
буду слухаць
дотык ног тваіх.
Толькі б —
не за шэраю сцяною,
толькі б —
радасць,
смутак —
на дваіх.
Калі ж ты
не пажадаеш слухаць,
калі мне
не будзе што сказаць,—
утаплю у спелых росах скруху,
стану песняй,
чыстай, як сляза.

* * *

Прабач,
але я зноў
пра адзіноту...
Я знаю,
што такое адзінота.
У цішыні бывае гэтак боязна,
як не бывае боязна
ў грымоты;
і сэрца,
у якім
любові цесна,
вось-вось гатова выбухнуць...
Але
я ўспамінаю
вёску на радзіме,
цябе,
мая высокая смуглянка,
і нежанатых колішніх сяброў.
Я паднімаю стомленыя вейкі,
якія ад бяссонніцы палаюць
шалёным,
развярэджаным агнём...
Я паднімаю стомленыя вейкі
і чую,
як звіняць яны ўтрапёна
ў напружанай,
трывожнай цішыні.
Я падыходжу да сцяны,
дзе ты
з партрэта,
нібы з экрана,
моўчкі пазіраеш
кудысьці ўбок,
кудысьці ўдалячынь.

* * *

Без ног,
без рук,
без вуснаў,
а бяжыць
ля ног маіх
і ногі абдымае,
далоні агрубелыя
цалуе
і шэпча штосьпяшчотнае...
Лісток барвяны падае,
не тоне...
Рака майго жыцця бяжыць,
бяжыць...
Каханая!
Ёсць ногі у цябе —
ты не прыходзіш.
Ёсць рукі у цябе —
сваёй рукою
ні разу
ты мяне не прывітала.
Ёсць вусны,
але ты маўчыш,
маўчыш...
Лісток барвяны падае,
не тоне...

* * *

Неба зоркамі вышыта густа.
Неба мне нагадвае хустку,
хустку ў крапінку,
хустку матчыну...
Кожнай знічкай чыйсь лёс адзначаны.
Пад хусцінай той фіялетавай
ахоўваю планету я.
Выплыў месяц,
вісіць над хвояй.
Відна так —
                    хоць пішы пісьмо.
Знічка ўпала...
Няўжо,
          няўжо я
кагосьці зберагчы не змог?..

## СЭРЦА РЫХАРДА ЗОРГЕ

Калі ціха наўкол
і на небе ні зоркі,
размаўляе са мной
сэрца доктара Зорге:

«Суайчыннік і друг,
мой далёкі таварыш,
ад чаго у цябе
сум і роспач на твары?

Ад чаго, ад чаго
ты маўчыш так пакутна:
ці сябры падвялі,
ці ад ворагаў трудна?..

Ад чаго, ад чаго
апускаеш ты вочы —
можа быць, незнарок
памыліўся аднойчы?

Раскажы, [redacted] калісь
памыліўся таксама...
Я з табой гавару
з казэмата Сугама.

Ёсць такая турма
у такійскім квартале,
там хавалі мяне,
там мяне катавалі...

Жандармерыі шэф
і агенты «кэмпейтай»
вартавалі мяне
з небывалым імпэтам.

І дапытваліся
то лісліва, то строга:
— Хто вы, хто вы, Рамзай?
— Хто вы, гер доктар Зорге?!

І не верце, сябры,
вы, нашчадкі, не верце,
што семнаццаць хвілін
я пражыў пасля смерці...

Покуль крыкі гучаць
у напружаным змроку,—
не памрэ, не памрэ
сэрца Рыхарда Зорге».

* * *

Дзень лета — пераменліва-марудны,
надвор'е — наравісты конь-агонь:
як спыніцца — скрануць угору трудна,
як загрыміць з разгону — пад адхон!

І кружыць, кружыць, быццам авадзень,
стамляюча-бясконцы летні дзень...

Дні восені! — о, як да вас далёка.
Як ву-унь да тых, над возерам, аблокаў...

І вось яна, чаканая пара,—
натхнення патаемная часіна:
ліст ясеня трапеча ў небе сінім
і падае ў ваду сярод двара;
мой ціхі цень у лужыне дрыжыць,
шчабеча засяроджанае птаства...
Яснота ў садзе, светла на душы,
ва ўсім — спакой, развага, пастаянства.
І лета дні у гэткую хвіліну —
як мілыя, кароткія ўспаміны.

* * *

Калісьці тут, на хутары,
буяў гарод
і яблыні,
і вішні
зелянелі,
у кронах
пчолы і чмялі
звінелі;
цяпер —
няўрод,
каторы год —
няўрод...

Каторы год
не кланяецца мне
майго маленства сад асірацелы;
нібы з душой разлучанае цела,—
ён угару
сухое голле мкне...
Я,
мусіць,
ад чужых турбот адвык —
вунь ка́ня
па-над выганам
канае;
але мяне
чамусьці не кранае
жалобнай ка́ні
неўтаймоўны крык.
Напэўна,
я пераступіў парог —
святы парог,
акрэслены прыродай,
перад якой
мой ваяўнічы продак
схіляў калені,
шанаваў,
бярог...

## БАЛАДА ПРА АГОНЬ

*Віктару Поляку*

У камень закаваны
і забыты,
на змрок гадоў,
што збеглі пад адхон,
як вораг,
як суддзя
з нутра нябыту,
нізрынута глядзеў нямы агонь.
Агонь ад вольных песень адлучылі,
загналі песні ў глыб глухой зямлі
і, хоць спяваць уголас адвучылі,
утаймаваць гарэнне не змаглі.
А рукі цемры пхалі іх да плахі,
а злыя душы
слепа,
як краты,
зграбалі камяні —
і з дзікім страхам
шпурлялі ў непрытомныя раты.
Ды камяні знутры палалі самі,
паўсталі перад нашымі вачамі
і разбудзілі ў іх агонь —
і мы
пайшлі адкрыта
на прарыў зімы...
Каменні выбухалі,
як гранаты,
і вось прыціх
і быццам бы заглох
суладны хор гарластых супастатаў,
што балявалі на плячах эпох.
Агонь
па жылах
зашугаў высока
і ўзняўся ў растрывожаную сінь,
як летуценна-утрапёны сокал,
як сімвал непагаснай чысціні...

І ўслед за ім
мы цягнемся рукамі
з адной пякучай думай —
аб агні,
і сонца яркае,
нібыта камень,
вісіць над намі
ў млоснай вышыні.

## ФРАНТАВІКІ

Сюды пасля вячэрняй змены
збіраецца рабочы люд:
хто на гадзіну, хто на меней
знаходзіць адпачынак тут...

За кухлем пеніста-іскрыстым
і машыніст і качагар
сядзяць — нібы парашутысты
ў чаканні новага скачка...

Сляды пажарышчаў далёкіх
я заўважаю ў іх вачах,
на іх зразораных далонях,
на іх захмараных ілбах.

Пра край, агнём апераваны,
пра апалчэнскія палкі
апавядаюць партызаны,
расказваюць франтавікі...

І ў нешматслоўнай той размове,
што не датычыцца мяне,
знячэўку і амаль няўлоўна
бацькоўскі клопат прамільгне...

## ЖЫВЫЯ ЦЕНІ

Яны прыйшлі, яны прыйшлі аднойчы,
прыйшлі і сталі ля маіх дзвярэй,
агні і цені іх апошняй ночы,
жывыя цені спаленых людзей.

За імі ўслед
задушлівы і горкі
паўзе куродым...
Той, былой, вайны —
перада мной —
траншэі і пагоркі,
агні і цені,
цені і званы!

Ішлі ка мне то сцежкай, то гасцінцам
бацькі і дзеці, сёстры і браты —
усе, хто не схіліўся прад чужынцам,
хто ў прысаку застаўся наўсягды...

І вось яны, нявінныя ахвяры,
спыніліся натоўпам у дзвярах...
Як гнеўна ззяюць попельныя твары!
Які праклён ў абвугленых вачах!

«Сынок, адпомсці», — шэпча дзед распяты.
«Адпомсці, брат!..» — крычыць ягоны сын.
...О, дзе, якая мера той расплаты,
што іхнія заглушыць галасы?!

Які патрэбен грозны суд над тымі,
хто іх паліў,
які патрэбен час,
калі агні каменнае Хатыні,
званы Хатыні сёння будзяць нас!

## ДА БРАТА СЛАВІКА

Я вінаваты, вінаваты,
што два гады ад роду меў,
што не было ў нас цёплай хаты,
што ўмелі гаварыць гарматы,
а я, бязбацькавіч, не ўмеў...
Я вінаваты, што матуля
так рана пачала сівець,
калі фашысцкай масці куля
ёй засланіла белы свет.
І ты сказаў тады, мой браце,—
мы ў хаце ўдвух былі тады:
— Пара за розум, Коля, брацца,
у нашай мамы —
я ды ты...
Успомні, як у дождж па дровы
брылі з пякельнай цемнаты
апошнія салдаткі-ўдовы,
за імі следам дыбаў ты...
Хоць галава й хадзіла кругам,
але ніхто не загавеў;
адно таму, што болю скрутак
палаў неміласэрнай скрухай
на міласэрнай галаве.
Паслухай, брат... Тых дзён пялёсткі
не ўсе зляцелі ў рыжы роў,
не ўсе, не ўсе душы усплёскі
засмужаны — як сінь над вёскай
журботнай песняй жураўоў...

* * *

«Спярша зрабі,
пасля ўжо гавары»,—
мяне сурова змалку навучалі.
Яшчэ й цяпер мне чуецца начамі:
«Спярша зрабі...
Пасля ўжо гавары».

* * *

Ёсць суровая, горкая праўда,
што наводмашны вецер мацней
ломіць голле агромністых сосен,
чым кусты прыдарожных лазін...

Ёсць вялікая, сумная праўда,
што ў нізінах арлы не жывуць,
што маланкі часцей удараюць
у вяршыні няскораных гор...

* * *

Дамоў! Дамоў! Высока над зямлёй
я адчуваю сэрцам і крывёю,
як меншае адлегласць паміж мной
і сонцам каранованай травою.

І вось матор ужо душу не рве...
Акрай спакойнай селавой дарогі
у прахалоднай маладой траве
купаю навярэджаныя ногі.

* * *

Наш быт і харч
былі нішчымнымі —
жылі ў адным пакоі ўсе...
Сваім малодшым сынам ён лічыў мяне
і аба мне,
як бацька,
непакоіўся.
Аднолькава
і ў маразы і ў ліўні
тугу па родных нівах
і палях
мы,
як глыток вады,
як хлеб,
дзялілі —
напалам...
Пакуль ён пасцігаў законы
незразумелай
і чужой зямлі,
на Бацькаўшчыне вогненна-зялёнай
ягоны след
завеі замялі...
І не пытайцеся,
чаму сурова
глядзіць
на сад салдат немалады.
...Зрываюцца
з ягоных вуснаў словы —
як пераспелыя плады.

## ПІСЬМО З ГОРАДА Н.

У горад Н.,
сталіцу сноў мажорных
і казачных,
блакітных летуценняў,
нарэшце трапіў я...
О, як мяне здзівіла!
Спачатку я убачыў
амаль тое ж,
што і ва ўсіх звычайных гарадах...
Жанчыны апранаюцца прыгожа,
мужчыны захапляюцца футболам,
дзяўчаты носяць плацці-караценькі,
а юнакі, бязвуса-барадатыя,
на неба пазіраюць...

Не ведаю чаму,
але адразу
засумаваў я па вясковай хаце,
па саматканым белым ручніку...

Як на бяду —
спыніўся мой гадзіннік.
(А можа, і на шчасце?)
Справа ў тым
(аб гэтым я даведаўся пад вечар),
што горад Н.
не адчувае часу...
І гэта анікога не бянтэжыць.
(Гадзіннікаў не бачыў я нідзе.)
Спачатку разгубіўся я
і доўга —
як невідушчы —
не знаходзіў месца...
І тут ужо,
асвойтаўшыся трохі
(гавораць:
да ўсяго прывыкнуць можна),
я уздыхнуў —
як скінуў камень з плеч.

Цудоўны горад,
вось ты чым адметны:
усе жывуць тут мірна і суладна —
ні лаянкі,
ні здрады —
анічога...
Нібыта на якой другой планеце.
Я вокамгненна агаліў аловак,
каб першае здзіўленне ўвекавечыць,
але мяне лагодна папрасілі:
«Шаноўны дружа,
будзь на ўзроўні часу,
схавай аловак.
Нам не трэба вершаў,
у нас ад нараджэння ўсе паэты...»

* * *

Мяне паклікаў жураўліны вырай
у вёску,
на радзіму...
Там — вясна!
Там навальніцай хмара прарасла,
каб красавалі нівы яравыя.
Ад бессані,
ад звону гарадскога
у край буслоў,
калін і медуніц,
да яснавокіх русых маладзіц
мяне вяртае самы юны спогад.
Іду з людзьмі туды,
дзе на прыволлі
маім зярнятам суджана ўзрасці...
Жыццё пражыць —
не поле перайсці?
Пражыць жыццё —
не разлучыцца з полем!

## МІЛАВІЦА

Шкада, шкада! —
не ўсім хапіла месца
у зоралёце,
што каторы год
без гібельных здарэнняў,
без прыгод,
як метэор палаючы,
нясецца...
У бездані Галактыкі бясконцай
наш карабель —
загадка для планет:
быць можа,
іншай эры пасланец,
быць можа,
новы спадарожнік сонца?..
За межамі зямнога прыцягнення
і галасы і немата —
званчэй.
Здаецца —
міг,
здаецца —
паўімгнення
і —
назаўсёды
знікне свет
з вачэй...
Але —
пакуль
нам дораг водар глебы,
смак хлеба
і паветра родны пах —
ракетна-шматступеньчатае неба
трымае нас
трывала
на плячах.
Цудоўна!
Нам сягоння давялося
ў палёце на касмічным караблі

адчуць залежнасць асабістых лёсаў
ад лёсу нашай любае Зямлі.

І праз гады мы ўбачым,
нам прысніцца,
як апантана цягнуцца да нас
суседка наша —
зорка Мілавіца
і наш сусед —
непастаянны Марс.

## ЛЕТА

Сена, сена — да стомы пахучае...
Сонца, сонца — такая сухмень:
камянее паветра пякучае,
пад падэшвамі курчыцца цень.

Поўдзень, поўдзень!.. Збавенне адзінае —
прахалода бяроз і кляноў...
На змярканні ракой бела-сіняю
праплываюць аблокі ля ног.

Навальніца! У бляску і грукаце
уздымаюць нябесны шацёр
ручаёў галінастыя рукі,
неаглядныя плечы азёр...

## МАГНІТ ЗЯМЛІ

*Юрасю Свірку*

Ах, травень — ліпень!
Пяты дзень на стозе,
як на Парнасе,
з віламі стаю.
Мой паслухмяны,
мой старанны кося
аж узмакрэў —
з выжарын
сена возіць,
я —
галавой аблокі дастаю.
У водарную,
сонечную цішу,
здаецца,
паляціш —
толькі ўзмахні...
Ахапак да ахапка —
вышай,
вышай...
Мой сябар
знізу
падае́ увішна,
жартуе:
«Не варонь!
Зямля —
магніт...»
Магніт Зямлі...
Я на зямлі пацею,
высільваюся
аж да хрусту жыл.
Не прывыкаць да мулкага падзення.
Я устрывожан іншаю падзеяй:
на захадзе цямнее небасхіл...
Не будзе буры —
пераспліо на сене.
Прысніцца горад,
буры, як мядзведзь...

Прысніцца,
як па вуліцы асенняй
траў палыновых
спелае насенне
гуллівы вецер
дзень і ноч
мяце...
На досвітку,
расплюшчу вочы ледзьве,
убачу дзве далоні,
а на іх —
лясной малінай
палымнее лета,
грымлівае,
маланкавае лета —
пара надзей
і клопатаў маіх.

* * *

Што гэта лётае без крылаў,
гуляе вольна па ўсім свеце?
Вецер...

А што без ног насустрач крочыць
так грозна і самаахвярна?
Хмара...

Што без агню гарыць-палае,
ліе святло ў маё аконца?
Сонца...

А што баліць-шчыміць без раны,
жадаючы з табой сустрэцца?
Сэрца...

## МАЙМУ ТАВАРЫШУ

Гэй, Валодзя,
бяры гармонік
ды за вёску —
акрай аўсоў!
...Бор з аблокамі загамоніць,
і ўзляцяць ураганы-коні
з-пад грывастых, густых басоў.
Асядланыя навальніцы
бліскавіцамі пpaзвіняць...
I, дальбог,
што камусь прысніцца
ў гэту ноч
зарапад сунічны,
жураўліная сенажаць.
Ну а нам з табой
да світання
на ўскапычаны шлях глядзець...
Пра чаканне
ды пра спатканне,
пра нялёгкае развітанне
будуць доўга басы гудзець.

## МЕЛОДЫЯ ЗІМЫ

Вастрэе зрок,
гучнее крок,
калі сціхае
цвыркат вераб'іны.
І паступова наплывае змрок
на белы аркуш
снегавой раўніны.
І дыхаю,
і думаю
лягчэй,
хоць спакваля знікаюць святлацені.
Прыходзіць час
уражлівых вачэй,
нястрымных рухаў,
смелых летуценняў.
Ці пачуццё пакліча за парог,
ці раптам думка вырвецца наперад...
Нібы мурашка,
бегае пяро —
туды-сюды —
па роўнядзі паперы.
Вось лініі напружаных радкоў
у ранішняй прасторы павісаюць,—
як струны тэлеграфных правадоў,
звіняць высока
ўсцяж дарогі саннай.
А літары
за гукамі —
ледзь-ледзь...
І сум —
як тайна песні жураўлінай...
І наступае беластвольны лес
на сіні аркуш
снегавой раўніны.

* * *

Навошта сустракацца нам, калі
часовая разлука непазбежна —
як непазбежна полымя калін
у гэтай цішыні ўрачыста-снежнай?
Навошта спагадаць і суцяшаць
усмешкаю паблажліва-бадзёрай,
калі паблякла наша сенажаць
і паглыбелі нашыя азёры?
Навошта, ну навошта столькі слоў?..
Міне зіма — і новыя зязюлі
разбудзяць тых нявінных салаўёў,
што пад тваімі кронамі заснулі.
Ну а пакуль я не ў палоне сноў,
пакуль я з цішынёю не звянчаўся,—
я бласлаўляю і турбую зноў
цябе, маё бязлітаснае шчасце...

* * *

Так, да канца яшчэ далёка:
адно імгненне — сто гадзін...
Твой высакосны лёс — як вока —
адчайна ў вочы мне глядзіць.
У непазбежнасці нядрэмнай
я адчуваю першы раз,
што выпадковасць недарэмна
злучыла нас...
Нашто мне знаць: так не бывае?
Нашто мне знаць: сон ці не сон?..
У імені тваім палае
зара маіх завейных дзён!
Нашто мне знаць, якія хвалі
твае прымалі берагі,
ці хвалявалі, ці кахалі?..
Галоўнае — што збераглі!
Цяпер напеў адзін злучае
і сум і радасць... Час бяжыць...
Так, час бяжыць... Бывай!.. Чакаю...
Чакаю — значыць, буду жыць.

* * *

I год,
і два
не ведалі мы самі,
ці з намі наша песня,
ці не з намі —
нам хораша было без музыкі, без слоў...
А сілы,
          развярэджаныя снамі,
прасілі маладымі галасамі
вярнуць іх да жыцця былога зноў.
I сон — жыццё!
                    Хіба не праў філосаф?
Мне жыць у снах з табою давялося.
Цябе няма —
                я не знаходжу месца...
А нашу песню,
                як дзяўчыну, песціць
прыгожы і цвярозы чалавек...
Я жыў у снах
                і дзень,
                    і два,
                        і месяц,
каб хоць на міг твой вобраз
                        уваскрэсіць
і каб запомніць вобраз твой навек.

* * *

Вятры,
вятры...
Ізноў вятры
шалеюць над шляхамі.
Свабоднай ад грымот вярсты
шукай —
не адшукаеш...

Дажджы,
дажджы...
Ізноў дажджы
па спелай ніве ходзяць.
І ніва спелая дрыжыць —
вымольвае пагоды...

Снягі,
снягі...
Ізноў снягі
запаланілі далеч.
Нябёсаў сінія агні
ў сутонні прападаюць...

Шумяць снягі, вятры, дажджы
на ўсёй зямной прасторы,
каб у тваёй начной душы
мае не гаслі зоры.

## ШЫПШЫНА

Я верыў,
я баяўся памыліцца...
Здалёку
у край разбуджаных балот
вярнуўся,
каб ашчадна пакланіцца
ўсяму,
што сем гадоў назад было.
...Травее двор.
Вусцішная сцяжына.
Але на цёмны і бяссонны сад
калючая
і палкая шыпшына
ўжо не глядзіць —
як сем гадоў назад.
Спыняюся,
пакорлівы, азяблы;
тут —
узбярэжжа ўсіх маіх трывог.
Я чую,
як апошні ў садзе яблык
зрываецца
і падае да ног...
Ніштo не вечна пад адкрытым небам.
Даруй мне,
здагадацца я не змог,
чаму твая шыпшына гэтак нема
палала ў тую ноч перад зімой.
Уздрыгвала сузор'е спелай гронкай
над зарывам разбуджаных балот...
Усё-усё,
апроч шыпшыны горкай —
як сем гадоў назад,—
усё было...

* * *

Каханне ці не каханне —
да першае дрогкай дарогі,
пакуль мы ў лес па суніцы
бегалі разам?..

Каханне ці не каханне —
да першае шчырай размовы,
пакуль мы вачамі
адзін аднаго вывучалі?..

Каханне ці не каханне —
да першага дотыку пальцаў,
пакуль нашы рукі палалі
няўтольнаю прагай збліжэння?..

Каханне ці не каханне —
да першага пацалунка,
да першай разлукі, якая
апошняй сустрэчай стала?..

* * *

Чаму так атрымалася — няўцям:
былі мы разам, сёння кожны — сам...

У нашых дзівасілавых лясах —
густая, непралазная лаза.

Дзе пекна выгіналася рака —
шамрэе нелюдзіма асака.

І гарызонта алая мяжэнь
ужо не раздзяляе ноч і дзень.

* * *

Каб быць шчаслівым,
шчасце аддаю —
табе!..
Твая любоў —
на ўзроўні сэрца...
Тут —
бачу постаць стройную тваю,
там —
чую,
голас твой ка мне нясецца.
Сумую,
радуюся,
гавару —
ва ўсім
тваё шукаю падабенства...
Лячу з гары,—
здаецца,—
на гару,
ўгару іду —
лячу,
здаецца,—
ў бездань.
Што космас,
што зямля —
гармонія адна!..
Сціскаюся ў кулак,
брыду дахаты...
Стаю —
як снежны дэман —
ля акна,
дзе замарожана тваё дыханне...

* * *

Дзяўчыне летуценна-таямнічай,
з бязмежнай дабрынёю у вачах,
прыснілася начная навальніца
ў маіх густых
някошаных лугах.

Дзяўчыне,
цемнакосай і раскосай,
чыё імя —
высокае,
як стэп,

прысніўся бор
у першародных росах,
у ранішнім
спакойным харастве.
Дзяўчына Беларусь маю прысніла...
Ды рукі зноў працягвае туды,
дзе снег —
ад небасхілу
к небасхілу,

дзе —
як імгненні —
юныя гады!

## У БАЛЬНІЦЫ

Запаволена кружыцца ґолаў,
і ад белі балюча вачам...
Мне тлумачаць:
«Тут нельга уголас...»
Нельга ўголас ні мне, ні ўрачам...

Цішыня, разумею, карысна...
Але — хоць бы паўслова сказаць!..
А між тым за мастом — як наўмысна —
захлынаецца свістам вакзал.

Нікуды не баюся спазніцца,
я спазніўся і так на гады...
Ад вакзала майго да бальніцы —
дзве хвіліны таропкай хады.

Да канца невядомасці душнай
я павінен здаля назіраць
на акно,
дзе пажарнаю птушкай
б'ецца новай трывогі зара.

* * *

Пераблытаны ўсе каляндарныя даты.
Між табою і мной — навальніц паласа.
Я жыву на адмоўным,
а ты на дадатным...
Мы на розных жывём палюсах.

Убаку ад сяброў, і яршыстых і мілых,
убаку ад шумлівых і звонкіх дарог
я блукаю па вуліцах нашых памылак,
ты — па вуліцах нашых трывог.

Разбрыліся па свеце і будні і святы...
І не знаю — на шчасце сваё ці бяду —
я ўвесь час адмаўляю тваю вінаватасць,
ты сцвярджаеш маю правату.

І, напэўна, таму, што мы помнім пра страты
і не можам успомніць, што нам лёс паслаў,
я жыву на адмоўным,
а ты — на дадатным...
Мы на розных жывём палюсах.

## ІМГНЕННЕ

1

Да свята,
да ўрачыстасці нядзельнай,
у трох прыпынках
да крутой вярсты,
чакала безназоўна і з надзеяй,
кахала акаянна і наўзрыд...
Успамінаю голас твой,
смуглянка,—
як неабсяжна стэпавы матыў;
ён на імгненне выхаплен маланкай
з гарачай,
навальнічнай нематы...

2

А ты ўсё тая ж,
усё тая ж:
недасягальная, святая,
мая і восень і вясна...
І залатая золь на дрэвах,
і звон трысця ў ціхве нядрэмнай,
і ўсплёск вясельнага вясла...
І плач,
і вокліч акрылёны,
і блаславенне,
і праклёны,
ва ўсім —
нізрынуты кантраст.
Саюз вады і першых промняў
і далячынь —
я так запомніў
той міг,
што ўвекавечыў нас.
Неспадзяваная заўсёды
ў непастаянны час усходу

ускалыхнула —
як арган...
І я адкрыў —
якое шчасце! —
у кожнай хвілі
водбліск часу,
у кожнай хвалі
ураган.

* * *

І ціша валасоў —
як сон глыбокі,
і стома пальцаў,
што на схіле дня,—
як промні
ў запаволеных аблоках —
знямела заравеюць давідна;
і спёка пекных
вечаровых вуснаў,
і ўзлёт шчымлівай лёгкасці ў руках —
усё табой канчаецца,
як вусцем
канчаецца рака...

## ДЗВЕ ЗАРЫ

Праменны, ясны дзень.
Як дзень —
жаданы твар.
Святочна-яркая ірдзень
і — я, змагар.

З далёкай далечы прыйшоў,
прынёс абрус:
надзорны, вышываны шоўк —
твой, Беларусь!..

Пакліч, шаноўная, гасцей,
у рог зайграй!
З усіх начэй — мая гусцей,
зырчэй зара.

Ёсць дзве зары.
Адна зара,—
калі мой гнеў
мяне, твайго валадара,
дадолу гне...

Ёсць дзве зары.
Мая зара,—
калі твой твар,
як ясны дзень,
зноў — у дзвярах...
Зноў я — змагар!
Мая зара пачне стухаць,
палаць тваёй:
там,
у захмараных стагах,—
над галавой.

* * *

Неўпрыкмет заблудзіць сярод вуліц,
прытаміцца і моўчкі сачыць,
як сталіца галубіць і туліць
люд святочны — да позняй начы;

пазнаваць у натоўпе па тварах,
па аблiччах рухавых плячэй,
хто нясе запаветныя мары
да маіх нетутэйшых вачэй;

і спыніцца, калі прад агнямі
чыйсьці позірк, як промень, мільгне:
ці не брат мой мяне даганяе,
ці не сын мой мінае мяне...

* * *

Цяжкую
шапаткую пазалоту
кляны
ў ваду
раняюць пакрысе...
Над паплавамі —
касякі гусей
у прадчуванні блізкага адлёту.
Да будучага сонечнага лета
бывай,
птушыны яснапёры грай.
Бывай,
мурожны,
сінязорны край
вясёлкава-зялёная планета!
Свавольныя вятры
дуброве строгай
расчэсваюць рудую бараду...
У горад
на змярканні
я брыду,
як Млечным Шляхам,
восеньскай дарогай.
І, разагрэты шпаркаю хадою
па слоце каламутных каляін,
шапчу...
рыфмую з шолахам ялін
смак цыгарэт
і водар сырадою...

## СУСТРЭЧА

*А. Ф. Купрыянавай*

У зале — цішыня.
Нібы прад боем...
Тры сотні сэрцаў
тахкаюць суладна.
Да гэтай цішыні бесперабойнай,
дзе шчыры позірк
кожнага салдата
струменіўся
працягам гімна-песні,
яна прыйшла —
як сонца апаўночы:
«Я раскажу,
сыночкі,
вам пра Пецьку,
пра самага малодшага сыночка...»
Бабуля,
маці,
удава-салдатка...
Той дзень для нас —
чысцейшы за расу.
Мы адчувалі боль, і горыч страты,
і велічнага подзвігу красу...
Мы пра героя слухалі —
і бачылі,
як прад зарой
вялікасна-крывавай
ён падае
на снег пералапачаны
і нас
жыццём
ад смерці закрывае.

## ЖАНЧЫНА

Быў май, жаночы голас плакаў
і, як па промню, плыў удаль,
удаль, дзе ззяе мора макаў
пад небам чыстым — бы крышталь.

Я чуў, як плакала жанчына...
Уздоўж Вайны, усцяж Зямлі
яна штогод ідзе да сына —
туды, дзе макі расцвілі...

Кіёк, а за плячыма — клунак.
Брыдзе матуля ў белы свет...
Як бежанцы — натоўпы думак,
яна за імі, след у след.

Пагляд ад спёкі заімглёны,
спіна стамлёная смыліць...
Адно ёй сонца — над зямлёю,
другое сонца — у зямлі.

* * *

Не магу забыць,
як у прастуджанай хаце
мы засталіся ўдвух:
дзядзька Іван
і я, трохгадовы...
Я паказваў яму
на сцяну,
якая патрэскалася ад выбухаў.
Але дзядзька Іван
не мог яе бачыць:
ён паміраў —
і цяжкое дыханне,
як шоргат іржавай пілы,
у ягоных пакутных грудзях
затухала...

А кубак і вядро
прымерзлі да лаўкі.

## ЯСНАЯ ПАЛЯНА

Над Палянай Яснай —
хмары, дым...
Над Палянай Яснай
вецер стогне...
І фашысцкі ўрач,
як мыш,
руды,
заваліўся
ў ложак Льва Талстога!

Стол,
дзе ён пісаў «Вайну і мір»,
бы крывёй,
густым вінам заліты.
За сталом тым
(непамысны міг!)
афіцэр разлёгся —
як забіты...

Варварству
і тут
няма мяжы!..
Нашых войск
грукоча навальніца!
Але вораг,
перш чым пабяжыць,
над сялібай
хоча наглуміцца.

«Падпаліць!» —
чужынец загадаў.
Твар яго
ад страху
быццам з воску...
Дол дрыжыць,
світальна ззяе даль —
нашы войскі
вызваляюць вёску!

Над Палянай Яснай —
ясны дзень:

назаўжды —
ні скрухі,
ні трывогі;
і слядоў варожых —
анідзе...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Чырвань арабін —
усцяж дарогі...

## ПРАЎДА

Ёсць суровая праўда,
што раз'юшаны вецер часцей
ломіць голле агромністых сосен,
чым кусты прыдарожных лазін...

Ёсць высокая праўда,
што ў нізінах арлы не жывуць,
што маланкі часцей удараюць
у вяршыні няскораных гор...

Ёсць тужлівая праўда,
што сутулімся,
горбімся мы
ад каменняў,
якія,
бывае,
не на спінах,
а ў сэрцах нясём.

## ЧУЖАЯ МАГІЛА

У глухамані бэзавых кустоў,
паблізу ад дзяржаўнае граніцы,
не бачна статка,
не чуваць касцоў,
не празвініць залётная сініца.
Спакой і ціша —
як пасля дажджу,
грымотна-нечаканага,
начнога.
Нібы ў прыроды вынялі душу,
нібы не існуе нічога...
Маўчыць перастаялая трава,
маўчыць сухое жнівеньскае неба...
Спакой і ціша...
Цяжка утрываць,
каб не ўспомніць раптам голас немы...
Вось тут,
вось тут,
дзе курчыцца быльнёг,
спустошанае селішча было!
А там,
вунь там,
дзе млее курасле̇п,
дыміўся
чорны чужаземцаў след.
Спакой і ціша
і — нібыта сон —
цень даўгалыгі...
выбух!..
енк гартанны...
Прыглушаны, канае стогн...
Канае стогн —
працяжны,
як рыданне!..
Ні помніка.
Ні ўзгорка.
Ні крыжа.

Сустрэўшы справядлівую адплату,
тут неабудна
з той вайны ляжаць
захопнікі салдаты.
Вось тут,
вось тут
яны адкрылі бой.
А там,
вунь там —
у жвір упалі ніцма...
Спакой і ціша...
Ціша і спакой —
паблізу ад дзяржаўнае граніцы.

* * *

*Памяці В. Сіманенкі*

У расстанні сэрца забалела —
і ў спякоту ледзянее кроў...
Купалам бясконца ярка-белым
над табою неба зззяе зноў.

Ды не ўсцешаць нас ужо спатканні...
Нас яднае дрэва — лістабой.
Цень яго з сябрамі — на світанні,
на змярканні — цень яго з табой!

І жанчына — тая ці другая? —
чую, устрывожана пяе:
«Толькі там,
дзе цень той дагарае,
кожным ранкам
сонейка ўстае...»

## ФРАНТАВІК

**Эскіз да партрэта**

Занавешаны дымам,
ён сядзіць на груваcткім
высокім услоне —
спіной да дзвярэй,
што расчынены насцеж...
Мыліца,
якая замяняе яму нагу,
стаіць побач...
Няўклюдна-жвавым,
я сказаў бы,
нервовым жэстам
адзінай левай рукі
ён прапаноўвае мне выпіць...

Ён трымае чарку так —
быццам напоўнена яна
не салодкім, духмяным віном —
чырвоным віном Перамогі,
а яго ным маўчаннем,
горкім —
нібы палын...

## РАСП

Да цябе прыйшоў я на спатканне,
дзе пад звон кайданаў і дратоў
прадзед мой,
задоўга да Світання,
перагледзеў многа шчасных сноў...

І калі ў краіне абвясцілі,
што паўстаў зняволены народ,—
дзед мой
за Савецкую Расію
арасіў крывёй кранштацкі лёд.

Ці на дол,
здранцвелы пад сумётам,
ці на збур'янелым дзірване,—
бацька ўпаў
перад варожым дзотам...
За Расію — значыць, за мяне.

Вось ён, родны,—
высечан з граніту;
вуснаў шэпт,
што подых навальніц:
«Я стаяў салдатам на граніцы,
каб на свеце не было граніц...»

Калі ж мне віхура гляне ў вочы,
калі бацькаў лёс не абміне,—
будзе сын мой —
яснавокі хлопчык —
за Расію жыць
і за мяне.

* * *

Калі ласка,
выключыце радыёлу —
я і так амаль аглушаны
громам тэрмаядзерных навальніц.

Калі ласка,
выключыце рэнтген —
я і так наскрозь прасвечаны
бліскавіцамі ваенных канфліктаў.

Калі ласка,
выключыце ацяпленне —
я і так задыхаюся
ад куродыму папялішчаў...

Калі ласка,
падключыце,
падключыце мой голас
да вашых галасоў —
супраць жорсткай
і здрадлівай гульні
ў прыстойнасць.

## ВАГОН

Я памылкова сеў не ў той вагон,
не ў той вагон
і не на тым паўстанку...
Ляціць вагон:
агні — з усіх акон,
і гік, і смех, і ляск —
бесперастанку.
І не абстрактны нейкі там «герой»,
а мой равеснік,
малады сучаснік,
акружаны прыяцельскай гурмой,
штось канькае
пра страчанае шчасце...
А ў тым канцы вагона,
дзе чуцён
шалёны свіст,
не моўкнучы падоўгу,—
святочна-бесклапотнае дзяўчо
нагой грукоча ў гулкую падлогу...
Дзяўчынка —
у вачах начны паўзмрок —
вакол сябе не бачыць нічагуткі...
(Чаму яе турботы незнарок
супалі з роўнай лініяй чыгункі?)

Я выпадкова сеў не ў той вагон.
Ды і назад вярнуцца немагчыма.
Ляціць вагон за часам наўздагон,
мільгае электрычнымі вачыма.

А рэйкі ад напругі аж гудуць!
І нехта паўтарае безупынку,
што я павінен скокнуць на хаду,
а не чакаць наступнага прыпынку...

## КАНТРАСТЫ

Прымяненне машын і аўтаматыкі
прыніжае значэнне асабістага ўкладу
чалавека ў выконваемую работу
і знішчае пачуццё ўласнай годнасці.

*М. Борн*

Вясна,
вясна!..
Ды марная турбота
на помач клікаць луг ці вадаём,
калі смяртэльна цяжкая работа
загнала іх у гэты шумны дом.

Ім ад бяспраўнай працы не ачуцца,
бо ў іхніх сэрцах пасяліўся страх;
і тлумны свет прыгнечаных пачуццяў
ёсць свет найбольшых чалавечых страт.

І будзе прыгінаць ім плечы стома
і рваць душу надрыўны гул машын,
пакуль забойцы з імпартных «фантомаў»
расстрэльваюць дзяцей, старых, жанчын...

Надзённую праблему ўсходняй нафты,
эканамічны крызіс і вайну —
усё яны,
грашовыя магнаты,
паставілі рабочым у віну.

Ім, багацеям,—
слава, грошы, радасць,
іх цешаць салаўі,
іх лечыць бор...

Пры чым тут «аўтаматыкі шарады»? —
ці ведаў ён,
вялікі фізік Борн?..

## ВІКТАР ХАРА

### I

Пасля перавароту яго арыштавалі адным з першых. Прывезлі на стадыён «Насьаналь», ператвораны ў канцлагер, разам з яго неразлучнай гітарай...

За ім сачылі, яго вучылі
перад народам сваім маўчаць...
Сваёй пакутнай айчыне — Чылі —
ён песні мужнасці прысвячаў.

Яго схапілі салдаты-каты,
штурхнулі дзіка ў натоўп людзей,
што шанавалі яго — як брата,
не пакідалі нідзе ў бядзе...

І Віктар Хара з журбой на твары
сказаў спакойна: «Спяваць змагу».
Іграй, гітара! Звіні, гітара!
У тваім стогне — набату гул.

Паўзе на бераг пясчаны хмара,
грыміць трывожна марскі прыбой...
Ах, Віктар Хара, нязломны Хара,
аблокі чорныя — над табой!

### II

Каты раструшчылі яму пальцы, каб ён не мог перабіраць струны гітары. Яны перабілі яму рукі, каб ён не мог трымаць гітару. Яны прыкладам выбілі яму зубы, каб ён не мог спяваць...

Штыком распораты ранак шэры.
Спявак знявечаны ўпаў на брук...
Свабоды песню на крылах веры
уверх паднялі абрубкі рук.

Яго, азоранага...— ды вобзем!
Яго, узнёслага...— ды ва ўпор!
Ніхто не прыйдзе, яго не возьме,
не пахавае між родных гор...

Сябры прыйшлі б, каб яго схаваці,
ды ўсе у турмах сябры сядзяць...
У шлях апошні — не бацька з маці —
яго праводзіў фашыст-салдат.

III

Так загінуў Віктар Хара.

Паўзе на бераг пустэльны хмара...
Смугой ахутаны стадыён...
І пасля смерці спявае Хара,
чылійцаў кліча на помсту ён!

І вечна будзе чуваць на свеце,
як пра гітару — яго сястру —
усёй планеце спявае вецер
на сухажыллі парваных струн.

## ВЕЖА

Маскоўскаю ноччу ў бяссонні
я чуў, як далёка плылі
рыканне жалезных бізонаў
і гул скамянелай зямлі...

І вось у блакітным бязмежжы
прад сонцам, што рана ўзышло,
гляджу — узвышаецца вежа,
адзетая ў камень і шкло.

Стварэнне адважнае мары,
купаецца ў хвалях зары;
яе субяседнікі — хмары,
грамы і маланкі — сябры.

І вечарам майскім, і ў снежань
убачыш, калі ні зірні:
на сценах Астанкінскай вежы
гараць незямныя агні.

## СЛАЎГАРАДСКІ СНЕГ

*М. Стральцову*

Тут —
самы белы,
самы чысты снег,
паўдзённы снег
тваіх зямных далоняў;
блакітны вецер
мроіць аб вясне,
жальбу травы
гайдаючы на ўлонні...

Тут —
свіст і звон,
рыпенне палазоў
па люстраной раўніне
рэчкі Проні:
на месцы коней —
тройка маразоў,
замест ляйчыны —
сонечныя промні!

А там,
за дружным тупатам падкоў,
дзе новы ранак
будзіць наваколле,—
ад снегу гнецца,
быццам ад пладоў,
тваіх садоў
агромленае голле...

А там,
дзе аб'яднала берагі
мяцеліцай раскутая дарога,
над галавой —
зялёныя кругі
тваёй любві,
маланкавай і строгай.

...Пасля
мы будзем
па трысці брысці
і думаць,
як нам
пад узвейным гулам
у неба
гарадамі прарасці,
каб грозная стыхія не сагнула...

І калі моўчкі ўспомнім,
як сябры
аднойчы ратавалі нас
ад згубы,—
вады крынічнай
трапяткая брынь
зямною песняй
нам астудзіць губы.

## ШЧАСЦЕ ПРАЗАРЭННЯ

Да цемры
дзесяць год назад —
як да сцяны —
ён быў прыкуты...

А сёння...
Сёння ўбачыў сад,
што мкне галіны ўвышыню.
І сына.
Сына! Упершыню...

Я ўпершыню сустрэў пагляд,
Не затуманены пакутай.

* * *

Мне Блок прысніўся.
Ён ішоў адзін.
Адзін —
сярод вялікага натоўпу,
захутаны ў іскрысты лёд
і холад
прадвесніх пецярбургскіх тумаоў.
Быў сакавік...
Але ў яго вачах
Блок бачыў
толькі восеньскія слёзы —
Расіі слёзы...

Мне прысніўся Блок.
Ён быў адзін.
Адзін — сярод натоўпу,
цяжарнага уласнай смерцю...

Паэт стаміўся.
Адпачынак свой
ён прысвяціў пакутнаму змаганню
за права дыхаць
смела і свабодна
там,
дзе было ўжо дыхаць немагчыма.

Ён
ад імя галодных, безгалосых
з натоўпам сытых зданяў гаварыў,
заўсёды помнячы,
што свет — цудоўны...

## ДА ПАЭТА

Не адкрывай сваіх няўдач, паэт,
зласліўцу, што прыкінуўся халопам;
усё адно асудзіць — не сакрэт,
хоць і на словах твой раздзеліць клопат.

Тады й прадэманструе свой імпэт
энтузіяст пакорнага натоўпу...

Не распінайся, мой двайнік — паэт,
не прысвячай радкоў сваіх халопу!

Будзь пастаянным, творца,
ты — ўладар
уласных спраў,
ты — сын свайго народа.
Іначай —
пагасі ў душы пажар
і назаўжды забудзь пра ўзнагароду.

## ПА ДАРОЗЕ ДАМОЎ

**Вясковы эцюд**

Курэе рэчка.
Вецер пахне кошанкай...
Усеўшыся на плоце перакошаным,
гарлае певень —
мусіць, дапазна...
Спыніўся хлопчык
з поўным ягад кошыкам.
Па-змоўніцку ўсміхаецца.
Пазнаў!

* * *

Я не ідэаліст.
Але, дарэчы,
любоў да слова,
вольнага —
бы птах,
дапамагала мне
забыць аб рэчах,
аб многіх рэчах,
што ўсялялі страх...

Так,
я сабе аднойчы запярэчыў!
Але й дагэтуль сніцца той састаў,
які усе апрыклыя мне рэчы
памчаў кудысь у ноч,
і я адстаў...

Ды не гарую!..
Нездарма завецца
світальным
край,
дзе мой пачаўся шлях,
дзе неспакойна,
весела жывецца
усім-усім,
хто вольны,
быццам птах.

## УСПАМІН

Спякотны дзень. Спакойны цень.
Шырокая духмяная паляна.
Бзумчыць над статкам нудны авадзень,
а статак наш пасецца паслухмяна.

За борам надрывае горла драч,
у сітняку чамусь варона крача...
І млосна так, і вусцішна — хоць плач,
але ніхто з нас, пастушкоў, не плача.

Хто робіць кій, хто ловіць птушанят...
Ляжаць у стозе чэрвеньскія травы...
У нас пакуль што клопатаў няшмат,
галоўнае — каб не было патравы.

І ў прадчуванні нейкіх змен-падзей
успомнім разам (кожны рад старацца),
што заўтра — першы вераснёўскі дзень
і нам у школу ўпершыню збірацца...

* * *

Я дакараў сябе і дакараю,
палёгкі мне ад споведзі няма:
гляджу на маці,
як абняць — не знаю...
О, як даўно яе не абдымаў!

Стаіць яна —
няўтульная, старая,
ціхмяная у роздуме сівым —
пад яблынькай,
якую так старанна
абсвістваюць настыры-салаўі.

«Адзіны мой!..
Вярнуўся...
Гэтак вырас...
І кашляе...
Не страшна, падлячу...»
Шчаслівая!
Не ведае,
што ў вырай,
у новы вырай заўтра палячу.

За тое й дакараю сябе зноўку,
што ўсё прадбачыў,
толькі не ўявіў,
як над маёй матуляй адзінокай
вясной
зацята
свішчуць салаўі.

## ПТУШЫНАЕ ДРЭВА

*Памяці брата*

Ляжаць нерухома і кветкі і стужкі,
адкрыты для ўсіх апусцелы твой дом.
Дзве птушкі начныя, жалобныя птушкі,
павекі твае атулілі крылом...

Не прыйдзеш дамоў супачыць, як звычайна.
Няўжо назаўсёды твой позірк пагас?
Я слухаю сёння зямное маўчанне...
Але ж не маўчанне з'ядноўвае нас!

Злучылі нас думкі, пачуцці, імкненні,
адзіная справа, спадзея адна...
Я слухаю — ткуць дажджавыя струмені
сувой суравога, як лён, палатна.

Пакінуў ты нас, каб застацца нядрэмна
ў нязрушным саюзе з травой маладой;
світальная крона птушынага дрэва
ўзыходзіць штодня над тваёй галавой.

* * *

*Сыну*

Віецца сцежка стужкай...
Імчы, хлапчук, імчы,
пакуль начная птушка
ў гняздзе сваім маўчыць.

Бяжы, пакуль матуля,
насуперак бядзе,
прылашчыць і затуліць,
як раптам упадзеш...

Бяжы, не знай ляноты —
не перашкода снег...
А вырасцеш — турботы
прыпыняць шпаркі бег...

Ты зразумееш потым,
упэўнішся як след:
хто вырас бесклапотна,
таму чужы наш свет!..

Каб не дружыць са скрухай,
спазнаеш сам, хто друг;
хай будзе першым кругам
сяброў надзейны круг.

...Вясна!
На кожнай гронцы
іскрацца капяжы...
Бяжы, хлапчук, да сонца,
упэўнена бяжы!

* * *

Бачыш, колас ляжыць...
Паднімі і пахукай,
колас можна цяплом акрыліць...
Немагчыма забыць
тыя пахі і гукі,
што з маленства —
у нашай крыві.

Я зямлёй намагнічан,
як сонцам паветра,
на далонях маіх мазалі.
Не ад бур-навальніц,
не ад золкага ветру
нахіляюся я да зямлі...

* * *

І глухамань,
і запаведны лес,
духмяныя бруснічныя імшары,
і той мураш,
што мне ў кішэнь залез,
і спёка
над бязмежнасцю выжарын;
і ночы салаўіныя ў гаях,
і снег,
і прэсны ці салёны вецер,
і рэха навальнічнае ў гарах,
і крохкае крушынавае вецце;
і той палац кахання,
што ўзвялі
мы дзеля узаемнае патрэбы,—
усё-усё пачата на зямлі
ад пацалунка сонечнага неба.

## АПРАЎДАННЕ

*Пімену Панчанку*

Не апраўдваемся...—
апраўдваем
кожным крокам свайго жыцця
заручонасць
з людскою праўдаю,
праўдай сейбіта і байца.

Верым шчыра ў цвярозасць свету,
ненавідзім таго найбольш,
хто,
наносячы боль суседу,
лямантуе пра ўласны боль.

Не апраўдваем хціўца-хвата,
хто на словах —
герой падзей,
хто у нашу святліцу-хату
падкалоднай змяёй паўзе.

Любім стрымана,
запаветна
сінь нябёсаў,
ільну,
вады...
Так, Зямля наша —
запаведнік,
самы велічны і святы.

Каб планета
ад росных красак
ззяла раніцай і ўначы,
найвялікшы наш абавязак —
шанаваць яе,
берагчы!

Каб з сягонняшнім днём заўсёды
быў з'яднаны наступны дзень,
дзелім разам,
з усім народам,
горыч страт
і святло надзей.

## СПЯШАЙЦЕСЯ...

Хто да лугоў і да бароў
ідзе з пашанаю,—
спяшайцеся рабіць дабро,
спяшайцеся...

Каму ў адданасці сяброў
хоць раз пашчасціла,—
спяшайцеся рабіць дабро,
спяшайцеся...

З вялікіх і малых дарог
дамоў вяртайцеся,—
рабіць дабро, адно дабро
спяшайцеся...

Няхай вачмі з-пад гнеўных броў
зласлівец шастае,—
спяшайцеся рабіць дабро,
спяшайцеся...

З няпраўдай словам і пяром
спрачайцеся,—
спяшайцеся рабіць дабро,
спяшайцеся...

* * *

Паволі коціцца з ракі
світальны бубен сонца.
Выходзяць на двары дзядзькі
і пазяхаюць сонна.

На двор, дзе гнуцца касачы,
бялявы хлопчык выбег...
Такая ціша — закрычы:
пачуеш неба выбух.

Плывуць аблокі над зямлёй,
пад сіняй абалонай...
Зямля — жанчына з немаўлём
на стомленых далонях.

Гром не грукоча ў вышыні,
не падаюць ранеты...
Спяць пад крылом у цішыні
ўсе клопаты планеты.

* * *

Стыла поўня
плямаю васковай
на пунсовым ручніку зары...
У бязмежжа раніцы вясковай
мы, касцы,
прыходзім — як сябры.

Спіны разамлелыя сагнуўшы,
клеплем мы «васьмёрачкі» свае...
Пчолаў урачыстыя сугуччы
кружацца ў дрыготкай сіняве.

Ля ракі
ў салодкай прахалодзе
спяць чаромхі —
да пляча плячо.
Сэрцы ўсхваляваных параходаў
б'юцца заклапочанасцю пчол.

Слухаючы песні параходаў,
што плывуць мелодыяй чароўнай,
думаю:
чаромха пахне мёдам
ці гаючы мёд
прапах чаромхай?..

## ВОСЕНЬ

Тапелісты,
свінцова-шызы дождж —
як з рукава:
ні грому,
ні маланак...
На беразе вячыстай рэчкі Сож
чарнее дуб,
віхураю зламаны.

Хмызняк заліт паводкаю зары,
дыміцца неабдымная даліна...
Світанне золкай восеньскай пары —
журботліва-шчымлівая часіна!

Люблю такой часінай сустракаць
сяброў,
з якімі ў непагадзь заручан.
Люблю такой часінай пакідаць
бязлюдны дом,
які мне надакучыў.

Калі,
бывае,
«горка!» ўсе крычаць —
люблю падняць
такой часінай
чарку...
Такой часінай
толькі ўсё канчаць
і —
пачынаць усё спачатку.

* * *

Кастрычнік столькі запаліў кастроў!
Вятрыска дзьме —
спрабуе пагасіць іх...
Парыў,
яшчэ парыў! —
і хараство
шугае па сцяжынках і гасцінцах.

У полі дуб сівее.
Ён здаля
нагадвае самотнага старога...
Вось так бацькі задумліва стаяць,
калі сыны збіраюцца ў дарогу.

* * *

Перасіліць сябе я не здолеў —
і прайграў той рашаючы бой...
Хто я? — ў попеле іскра, не болей,
іскра з полымя славы тваёй.

Пах шыпшыны і яблыкаў спелых,
расяністы жытнёвы разлог
і ў гаях салаўіныя спевы
палюбіць без цябе я не змог.

Дык навошта мне гром без маланкі —
віншавання запознены гром,
мора сіняй зары за фіранкай,
гэты дом з нерухомым дабром...

І парывы няўтольнага сэрца,
і напружаны вулічны шторм,
і смяротэльная прага бяссмерця
без твайго благаславення — нішто.

## МАЛАДЗІК

Дзед-вартаўнік
з адной палескай вёскі
мне гаварыў,
што маладзік над полем
падобен
да запыленага грузчыка,
які сагнуўся
ад нялёгкай ношы.
Пастух Цярэнці,
седзячы на лаўцы,
уставіў слова:
«Месячык агністы
блішчыць,
як быццам капытовы след...»
А мой сусед —
васьмігадовы Паўлік —
глядзеў замілавана,
любаваўся,
як за акном,
нібыта ў хвалях човен,—
то паяўляўся месяц,
то знікаў...
А любая...
Хіба каму вядома,
з чым можа параўнаць дзяўчына
ў шчаслівы час кахання
маладзік...

Са мной, магчыма,
бо сядзеў я побач,
ці з тым вянком,
што недзе ў хвалях знік.

* * *

Я ў поле выйшаў не адзін.
Звінела справа, злева,
аж да прынёманскіх нізін
вясны тваёй залева.

Я ў лес вярнуўся не адзін.
Маўчала злева, справа,
хвіліны цэдзячы з гадзін,
твайго узлёту слава.

Я вышыню браў не адзін.
Напружваючы сілы,
са мной дзялілі неба сінь
твайго кахання крылы.

А прызямліўся я адзін...
Вакол мяне ляжалі
палі, якімі я хадзіў,
агромністыя далі...

* * *

Ты скардзішся:
цябе не заўважаю
і сябраваць ніхто з табой не хоча...
І поўняцца ненатуральным жалем
ільдзінкі-вочы.

У доме тым правёў я не гадзіну —
даказваў,
непакоіўся,
пярэчыў...
А развітаўся —
нібы з магазінам,
дзе прадаюць уцэненыя рэчы.

* * *

На астраўку узвышанай надзеі
мы гадавалі каліва любві,
мы верылі ў бясхмарна доўгі дзень...

Упала кропля рэўнасці панурай —
і забуяла ўчэпіста і буйна
адчужанасці нашай пустазелле.

Я не стаяў ніколі на каленях.
Я ціха апусціўся на калені,
каб выратаваць парастак любові.

За хвіляй — хвіля... Так бы і згібеў я
на астраўку узвышанай надзеі...
Падняў мяне з каленяў твой пагляд.

...Брыдзе па скверах, вуліцах і плошчах
імжысты вечар несканчонай восені,
ахутаны плашчом нямой журбы.

Да стомленай, маўклівай адзіноты
я прывыкаў, як да зубнога болю,
а ад цябе паволі адвыкаў.

Чужыя і бязладныя напевы,
бы пацукі, праз шчыліны і дзіркі
імкнуліся пралезці ў мой пакой.

Але пакуль я дыхаю — не трапіць
у мой пакой ніводная істота,
якая хоча прычыніць мне боль...

Да сённяшняга дня я прагнуў славы.
Яна ішла, хісталася, скакала
то спераду, то ззаду — быццам цень.

...Вось я адзін. Грукоча нехта ў дзверы.
Раней бы я ускрыкнуў: «О, нарэшце!»
Цяпер гляджу спакойна і маўчу.

* * *

Яшчэ не збудавала,
а руйнуеш,
яшчэ не пакахала,
а раўнуеш —
на тваіх вуснах
вінаград звініць...
Была ты дзеўчанё,
ды неўзабаве
адчула,
што каханне — не забава
(узяць няцяжка,
цяжка адплаціць).

Замужняя
таемная жанчына,
заможная прыгожымі вачыма:
і стрыманасць,
і ўлада,
і туга,—
заручаная з ціхамірнай доляй,
узвышаная прагай неадольнай
згубіцца
ў спелых
жнівеньскіх лугах...

За радасцю імгненнай насалоды —
глухія годы
суму і нязгоды...
Жыццё —
няўжо мінулася,
як дым?
Мне мімаволі бачыцца
за дымкай
гадоў —
ты вырываешся з абдымкаў...
Чыіх абдымкаў?
Ад каго?
Куды?

* * *

У прыродзе
нешта зноў парушана:
снег — на квецень,
а дажджы — зімой...
За акном
уздрыгвае ігрушына,
стукае па шкле
маркотна-ўзрушана —
быццам скаргай дзеліцца са мной.

Сад майго юнацтва яснакрылага!
Сёння
не ўздыхай так цяжка,
сад...
І ў мяне,
раней заўжды шчаслівага,
сёлета было зашмат дажджлівага —
не сышоўся з небам далягляд...

Ах, прырода!..
Ці ж не гэтак
з далечы
да мяне каханая прыйшла...
«Назаўжды...» —
шаптала,
абдымаючы.

«Невыносна!» —
уцякла,
рыдаючы,
і назад дарогі не знайшла.

У прыродзе
зноўку штосьці наблытана...
Мы сам-насам з ёю —
і маўчым.

Углядаюся
у сляды размытыя
і ўваходжу ў шэры сад —
нібыта я
саду чым змагу дапамагчы...

* * *

Ля нашае хаты,
у садзе рабінавым,
вецер асеннюю песню развучвае...
Глянь,
паважаная,
што нарабілі мы:
гордасць на гордасць —
і рукі разлучаны.
Хто вінаваты:
любоў мая ціхая?
Рэўнасць,
да вострага промня падобная?..
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Толькі чуваць,
як адлучана цінькае,
бы птушаня,
наша мара
пад вокнамі.
Цяпер яна крыльцамі
ў шыбіну
стукае,
цяпер яна плача...
Раней так не плакала!
Хто яе бачыць?
Хто яе слухае?
Гордасць на гордасць...
Як перад плахаю.

* * *

Прыйшоў не папракаць, не наракаць:
так лёгка разлюбіла, знелюбіла
і ранкам галубіным, бы на крылах,
прачнулася ў другога на руках.

Прыйшоў не дамагацца, не маліць...
Няхай, няхай, не знаючы падману,
як век назад — звініць струна ў тумане,
як тысячу гадоў — душа смыліць...

Не, не, я не прыйшоў, каб даць зарок,
што ўсё-усё мінулае забуду
і што рыдаць, як той дзікун, не буду
адзін сярод маўклівых незнарок.

Прыйшоў не развянчаць, не абвянчаць.
Пачуцці забінтую — быццам раны...
Цябе сустрэў так непапраўна рана,
таму й жальба — на вуснах і ў вачах.

* * *

Кім быць,
кім быць? —
я ў дваццаць летуценіў,
па бальшаку з сяброўкай ідучы.
Святочныя вясёлкі ўсіх адценняў
над намі расцвіталі уначы.

Высокі месяц
воблакі люлялі
ў зачаравана-велічнай ціхве.
Кружыліся мы ў марах
і не зналі,
што ўзыдзе сонца
і міраж сплыве...

Цяпер я стаў
так званым непаседам,
зацятым зберагальнікам красы...
Выходжу на бальшак,
а следам, следам —
як успамін,
былыя галасы.

Кім быць,
кім быць?! —
крычу лясам і рэкам,

гляджу,
як гнуцца долу каласы...
З кім быць?..
З кім быць?..—
глухім
працяжным рэхам
адказваюць мне
рэкі і лясы.

* * *

Ад дробязных турбот
і гарадскога тлуму
ўцякла
да простых і зямных уцех —
і ў шэрым,
ціхім павуцінні суму
заблытаўся
твой юны голас,
смех...
Хацела быць
бліжэй да ясных зорак
і дыхаць тым,
чым дыхае сяло...
Дый тут адна!..
Выходзіш на падворак.
Гарыць ліхтар...
Пасіўнае святло!
Прыгожая
цнатлівая дзяўчына!
Пішу,
хоць, можа, іншым і няўцям:
«Дзе наш выток
і радасці айчына,—
там разумеюць нас,
там вераць нам».

* * *

Прасветлена-ліловыя аблокі
і зелянява-сіняя вада
сустрэліся...
І — як акінуць вокам —
памчалі ўдалеч...
Краю не відаць!

Такая рань,
такая рунь буяла!
Такое красаванне тут было!..
Вясковы двор
з вярбой і вераб'ямі
здаваўся мне надзорным караблём.

Ізноў я тут...
І зноў рука ўзлятае...
Але — не падтрымаеш ты яе...
Адно,
што Прыпяць гулка-залатая,
як і раней,
у левы бераг б'е.

* * *

На лясной паляне дрэмле ціш,
спеюць на маіх далонях росы...
Ты насустрач паміж дрэў ляціш,
паліто блакітнае — наросхрыст!

Знаю, будзеш нешта зноў казаць
і вініць сябе за безразважнасць...
Зноў твая чарнявая каса
успамінам рукі перавяжа.

Але ж ты — адна, пакуль адна!..
Голасам ласкавым запалоніш
і працягнеш рукі — я адняць,
не змагу адняць свае далоні.

Зноў насустрач паміж дрэў ляціш,
суцяшэння ўсёй істотай просіш...
Я ж прашу: спыніся... Дрэмле ціш...
Хай даспеюць на паляне росы!

## НА КУРСКІМ ВАКЗАЛЕ Ў МАСКВЕ

Палоняць радасць
і трывога ўвішная,
як толькі на перон прыйду...
Але ж:
«А што,
калі ты думаеш па-іншаму?
А што,
калі па-іншаму жывеш?..»

Ад зыркага святла
плашчом затулены,
гляджу туды,
дзе ўсход запалавеў...
Такі ж.
як я,—
узрушана-ссутулены,
спыняецца паблізу чалавек.

Яму,
відаць,
гарчэй цыгаркі горкае
чакаць
і непакоіцца вось так...
— Сюды прыходзіць з Горкага?
— Так, з Горкага.
— У восем роўна?
— Што?
— У восем?..
— Так!
Палоняць радасць
і трывога ўвішная,
калі ты насустрэчу мне ідзеш...
А што,
калі ты думаеш
па-іншаму?
А што —
калі па-іншаму жывеш?..

* * *

Я не хачу,
каб наступіў той час,
калі сябры,
якія нас любілі,
знялюбяць
і узненавідзяць нас
і закляймуюць ганьбай да магілы.

Я не хачу,
каб наступіў той час,
калі ў вачах,
даўно ўжо не вяльможных,
я адлюструюся апошні раз
перад тваім апошнім падарожжам.

Я не хачу,
каб наступіў той час,
калі пад яснай зоркай Мілавіцай
на скрыжаванні невядомых трас
я на цябе адзін буду маліцца...

* * *

Падкасіла знячэўная сіла...
Як цяпер да світання дажыць?
Там, дзе ніва мая ўскаласіла,
слупянеюць касыя дажджы.

Ад разлукі — нібы ад разрухі —
ты мяне, як магла, берагла...
Ды твае пералётныя рукі
дбалі ўжо аб другіх берагах.

О жанчына суровага веку,
заклінаю цябе і малю:
мне, шчасліваму чалавеку,
адпусці ўсёмагутнасць маю.

Адпусці вышыні — колькі можаш —
на планеце прыгожых надзей,
каб не стаў для кахання апошнім
яго першы і радасны дзень!..

* * *

Ва ўсім —
свае законы і прычыны...
Ды хто мне скажа,
па чыёй віне
цень таямнічай
і чужой жанчыны
усё часцей наведвае мяне?

Хто скажа мне
за гаманкім сталом,
чаму яе пагляд —
нямы,
патухшы,
нібыта ўзмах знясіленым крылом
загнанай у няволю гордай птушкі?

І я пытацца буду зноў і зноў
сябе і вас,
пакуль не зразумею,
чаму я чую навальнічны звон
у шуме вечаровае завеі...

* * *

Сонца рух супыніла,
і паўзуць халады.
Нарабіў я памылак,
а сутулішся ты.

Гэты снег не апошні,
ён павінен сысці.
Ды вагонам парожнім
дзень праляскаў і сціх...

Боль душу вымярае
ад відна да відна;
а душа вымярзае,
быццам студня,— да дна...

Снег жа — вышай і вышай...
І плывуць міражы...
Навальнічная ціша
у сумётах ляжыць.

* * *

Не перажыць самому скруху...
Цябе ж не адшукаць нідзе.
Я расказаў пра скруху другу.
Друг не ідзе...

О, крык той рэўнасці адкрытай!
Як выбух, аглушыў цябе.
Бы ля разбітага карыта
маўчу цяпер.

Цяпер ніхто не патрабуе
чакаць, трывожыцца, цярпець...
Не пазаве, не патурбуе
ніхто цяпер!

Я ненавіджу адзіноту
і той пракляты, змрочны шум,
што, як няўцямную работу,
ў грудзях нашу...

Таму што нельга жыць без веры
паміж людзей, сярод надзей,
уважліва гляджу на дзверы
ўначы і ўдзень.

* * *

Туга мая бяссонная злятае
няўмольнай цішай
на глухі парог.
Каго чакаю —
той не завітае,
чым даражыў я —
тое не збярог.

А спадзявацца ўсё ж не перастану,
сагрэюся надзеяй
і пайду
на безназоўны,
досвітны паўстанак,
адкуль вятрыска спогадам падзьмуў.

Паверу, што зямля
ў зялёным звоне,
памаладзеўшы,
зноўку расцвіце,
калі ты выйдзеш
з душнага вагона
на той апошняй
ветранай вярсце.

* * *

Ці з-пад Ковеля,
ці з-пад Янава,
невядома — адкуль, куды...—
выпадкова-неспадзяваная,
у вагон заглянула ты...

Валасы — ўразлёт,
рукі белыя,
малады загарэлы твар;
вочы стомлена-спахмурнелыя
адцянялі яго загар...

Поезд рушыў...
Услед за поездам
доўга бег ён,
было відно...

I сказала ты:
«Нешта боязна,
вельмі боязна мне адной...»

Ах, трымценне чыгункі роўнае,
звонка-струнныя галасы,
для каго —
забыццё вандроўнае,
для цябе —
не стрымаць слязы...

Каб пачуцці твае шчымлівыя
не трывожыў дарожны спеў,—
незнаёмка,
дажджы грымлівыя,
чуеш,
думаюць пра цябе!

Скоры поезд
шуміць паўстанкамі,
нас аднолькава ўдалеч мкне...

Бачыш,
скача агонь маланкавы
сіняй трэшчынай
на акне!

* * *

Я доўга па тваіх слядах блукаў,
пакуль знайшоў
нарэшце
шлях дадому.
Той дзень — як перапоўнены бакал —
усё ніжэй, усё бліжэй да долу...

Той белы дзень...
Вось ён прылёг на луг —
і паплыло,
і пенна разлілося,
зарой запаланіўшы ўсё наўкруг,
тваіх садоў
густое шматгалоссе.

Той неспакойна-звонкарэхі дзень!..
І сёння,
звычку помнячы старую,
я заўважаю промні на вадзе...
Тваім абліччам
возера люструе!

І сёння чую,
як на схіле дня,
зарой запаланіўшы ўсё наўкола,
крылатая спявае цішыня,
спявае твой зачараваны голас.

* * *

У розны час па-рознаму мяне
ты сустракала словам ці паглядам,
якія адгукаліся мне ў сне
птушыным граем,
гулкім вадаспадам...

А сёння твар хаваеш у далонях...

Дык хай жа будзе блаславён той міг,
калі твае ўспаміны
сны палоняць,
калі я вызваляюся ад іх.

* * *

Васількова-бэзавае неба!
Лугавая, ільняная шыр!..
Я іду, у кайстры — луста хлеба,
мы з дарогай польнай — спарышы.

І калі былых сяброў спаткаю,—
з імі завітаю да ракі,
дзе з лілей і васількоў сплятае
Валя кучаравыя вянкі...

Валянціна!
Як на звонкіх гуслях,
голас твой гучыць за тры вярсты...
Аб тваіх заўжды вясновых вуснах
мрояць белакрылыя вятры.

Зоры над палямі, бы арэхі,
Млечны Шлях — бы хто пазалаціў...
Я, каб мог, усе ля Пінска рэкі
з песняй Валянціны заручыў!

* * *

Падхопіць, загайдае плынь ракі...
І ўбачу я тваё аблічча новае,—
дзе пад сузор'ем Белае Рукі
струменіцца святло маладзіковае.

У калыханні белакронных дрэў,
у гуках і дыханні ночы белае
адчуем мы, што свет памаладзеў,
што зніклі ўсе пачуцці агрубелыя...

* * *

Па шэрай,
вострай
вечаровай пожні,
па травах,
што ў чаканні акалелі,
вярнуся я
у спогад твой апошні —
схілюся,
ды не стану на калені.

Не прыніжэнне —
позняе прашэнне:
спыні мае памылкі,
супакой...
Маё вяртанне —
не, не паражэнне,
а толькі перамога
над сабой.

* * *

Твой позірк, як глыток віна,
цячэ мне ў кроў шчымліва:
дзе слова праўды, дзе мана,—
душа не бачыць, бо яна
жыве табой, шчаслівай!..

* * *

Імгненне, прыпыніся...
*Гётэ*

Працягвайся,
працягвайся,
імгненне!
Кружы,
маёй любові матылёк,
пакуль блукае ў цемры аганёк,
што ўваскрасіў высокае імкненне...
Аддайся апантанаму ўтрапенню
ў змаганні з развярэджаным агнём;
згары дашчэнту ў полымі альбо
ўтаймуй непаслухмянае праменне.
Усё альбо нічога —
твой дэвіз,
а гэта значыць:
ці уверх,
ці ўніз...
Не дазваляй,
каханая,
спыніць
дзівосны танец —
танец прыцягнення...

Пакуль звініць,
трымціць зблiжэння ніць,
працягвайся,
працягвайся,
імгненне!

## ПЕРШАПРАХОДЦА

Беларускі пісьменнік і вучоны,
ураджэнец Рэчыцкага раёна
М. А. Грамыка браў удзел у
пошуках нафты на Палессі.

Хіліла з поўдня...
Дзень стаяў пагодны.
Па лузе
крочыў хлопчык-грыбавік.
За ім высока воблак плыў,
падобны
на попельна-блакітны ледавік.
Акрай сцяжыны,
дзе раслі брусніцы,
як маманты, ляжалі валуны.
Для хлопчыка вялікай таямніцай
былі яны...
Міхаська кніжак прачытаў нямала,
і ўсе амаль —
пра выкапні зямлі.
Прырода ад людзей іх так схавала —
стагоддзямі знайсці іх не маглі.
Хадзіў Міхась па выгане і лесе,
спыняўся там,
дзе травастой пасох:
«Няўжо так мала скарбаў на Палессі?
Руда і гліна...
Гравій і пясок...»

І вось аднойчы ён пачуў ад дзеда
(была здагадка ў дзедавых вачах):
«Зямлю сваю павінен кожны ведаць.
Любі яе, унучак... Вывучай!»
Як запавет
для ўнука тыя словы...
Хлапца ў Маскву дарогі завялі...
Вярнуўся ў Мінск,
каб выкладаць асновы
навукі пра гісторыю Зямлі.
Узрушыў важкім,
звонкарэхім словам
айчыннай геалогіі пласты,
калі зрабіў з Мікітам Кавалёвым
разведку крышталічнай паласы...
Рунець палям
і выспяваць зярнятам! —
праз сорак сонцаў
рэчыцкі юнак,
унук Грамыкі,
заручыўся з нафтай,
жыла ў дрымотных сховішчах яна...
Мне даспадобы:
з гонарам вялікім
нафтавікі паказваюць партрэт:
— Міхайла Аляксандравіч Грамыка —
калега наш, вучоны і паэт!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Мы памаўчым...
Няхай яму прысніцца
ў той далечы маўкліва-баравой:
на росным лузе,
дзе цвітуць брусніцы,
стамлёна крочаць хлопцы з буравой.

## АЙЧЫНЕ

Не скажу ні слова пра любоў сваю —
ведаеш мяне ты без размоў,
ведаеш, бы маці,—
голага і босага,
што ад слёз гарачых не размок...

Што ні зайздрасць і ні рэўнасць лютая
не звалілі з ног, не паланілі...
Дай руку, Айчына! —
слухай рэвалюцыю
у грудзях, у левай палавіне.

Твае ўсе трывогі, хваляванні
ў трапяткім кавалачку сабраны.
Маё сэрца —
вышыня, заваяваная
пахаванымі на вышыні сябрамі!

## ЦВІЦЕ ЧАБОР

*П. У. Броўку*

Радкі паэм і кінастужкі
вяртаюць зноў у тыя дні,
што разляцеліся — бы птушкі,
што прамільгнулі — як агні.

Гавораць зноў па-маладому
прызнання словы ў светлы міг
дажджу цымбалы, бубны грому
і спеў жалейкі паміж іх.

Жытное поле...
Грае-свеціць
у небе жаўра сіні звон...
Чырвоны сцяг над сельсаветам
відзён з тых векапомных дзён.

Больш за паўвека...
Збыцца марам,
ды не спыняць нідзе хады! —
і крочаць разам з камісарам
суровай памяці гады.

Імпэт гарачых, бурных сходак,
абрэз кулацкі з-за спіны,
і покліч першых пяцігодак,
і грукат жудаснай вайны;

пякельны боль ад горкай страты
(сыноўняй горычы — найперш),
і ручаі, і вадаспады —
усё ўмясціў агністы верш.

Нам сёння сонца шчодра свеціць.
На рэках — звонкарэхі рум...
Удзень, і ўноч, і на дасвецці
красуе зерне чыстых дум.

Вятрам эпохі — насцеж вокны!
А дні ідуць — гукае бор...
І сонца тчэ свае валокны:
цвіце чабор... Цвіце чабор!

## АРМЕЙСКІ ВЕРШ

Тут, у войску,
жывём па-свойску,
цукар славы не дзелім, не!
І не з горада мы,
не з вёскі,
нарадзіліся —
на вайне.

Нездарма шынялі надзелі
мы,
равеснікі і сябры...
Сцены Брэсцкае цытадэлі —
нашы першыя буквары.
Прад бацькамі схіліць калені
мы прыходзім сюды,
сыны
векапомнага пакалення,
незагойных гадоў вайны.
Зоркі мужнасці —
прад вачыма,
зоры сталасці —
на плячах.
Нам давераны лёс Айчыны —
наш пачатак
і наш працяг.

## НА ПОЎНЫ РОСТ

*Памяці камсамольца*
*Міхаіла Мароза*

Маўчалі збур'янела дзірваны,
дзе прагула варожая навала.
Не рэха ненажэрнае вайны —
у баразне
сама вайна ляжала.

І вось у паядынку —
смерць і ён,
равеснік твой,
да подзвігу гатовы,
устаў на поўны рост —
здалёк відзён —
навекі
васемнаццацігадовы.

Сівога поля сцелецца сувой,
на ім
слядоў крыві нічым не сцерці...
Два крокі —
у будзённасці сваёй,
ні слова, ні паўслова —
у бяссмерці.

Упаў дрыготкі промень
на сцяну,
светлагаловы хлопчык
з хаты выбег,
калі паветра выбух скалануў,
той непазбежны выбух...

Апаленыя крылы...
Цень пяра
лёг попелам
на поплаў верасьнёвы,

і ўздрыгнула —
ад Буга да Дняпра —
ўся Беларусь
на досвітку кляновым...

* * *

Сумуе дзед...
Пачуе голас трактара —
святлее,
быццам вымыты расой...
Ён
мо не раз
планету па экватары
аперазаў сваёю баразной.

За вёску дзед ідзе...
Яму без поля,
як без паветра,
немагчыма жыць.
О, поле! —
векапомнае да болю,
яно ў чаканні
стомлена ляжыць.

Глядзіць стары,
як цеплынёй —
бы рошчынай —
духмяна пахне,
дыхае ралля...
Унук яго
ў расхрыстанай сарочцы
прывычна
цягне рукі
да руля.

## ВЁСКА ГУТАВА

Вёску Гутава ў снег захуталі
давідна свежакі вятры.
Сустракае нас вёска Гутава
крыкам пеўняў, сталёвым грукатам...
Вёска Гутава — тры вярсты!

Замятуха-завея сцелецца
за аўтобусам наўздагон...
Людна, гоманна за аселіцай —
хлебаробнае ўсё насельніцтва
ў прадчуванні адліжных дзён.

З неба дожджык лагодны капае,
з поўдня хмары плывуць гусцей...
Старшыня Уладзімір Карпавіч
задуменна дыміць цыгаркаю,
пазіраючы на гасцей:

— Малайцы, што праведалі.
Доўга ехалі? Ці абедалі?..

Эх, як рэзалі — як зарэзалі,
як смалілі мы вепрука!
У суседа Міхала — хрэсьбіны,
у дзяўчат — галасы гарэзныя...
Завітаем да земляка!

Хата новая — шклянка-звон,
Свет далёка з акон відзён.

Пахваляецца дзядзька, выпіўшы:
— Чуеш, Косця, што гавару?
Хоць сягоння нарад мне выпішы,
я любую дэталь... звару!

Ну а сват і сватаў зяць
хочуць жартам дзядзьку ўзяць:

— Хведар — токар і манцёр
ды, як Зміцер той, хіцёр.
Але й самі мы з вусамі,
выхадзі — станцуеш з намі!

Гэй, вус налева,
вус направа —
закруціўся кучарава!
Не раскучаравіцца —
хоць скачы да раніцы...
Вус направа,
вус налева,
танцуй з намі, каралева!

Каралева — цётка Клава,
сват — налева, Хведар — справа.

Як пераначуеш,—
стомы не пачуеш...

А ўгары,
цішынёй ахутаны,
цьмяны месяц
ледзь-ледзь ліпіць...
Блаславёная вёска Гутава,
мне з табою спяваць, і гутарыць,
і заўсёды цябе любіць.

## АРАТЫ

Красавік адкрасуе — і травень
не ўтрывае, напомніць аб справе,
загадае на золку: пара!
Чым бы ты ні займаўся заўзята,
ёсць адзін неадкладны занятак —
веснавую зямельку араць...

Бачу постаць суседа Міхала,
ён з двара мне рукою махае:
«Запрагай! Трэба сёння паспець».
І сягоння, як змалку,— араты,
я выходжу, паснедаўшы, з хаты,
паспяшаю спакойна ў асець...

...Вось і ворыва!
Луста за лустай —
пад нарогам паблісквае тлуста
наш палескі духмян чарназём.
Дзе залетась буяла балота,
там друкуецца след мой ад ботаў
між вільготных густых баразён.

Пчолы зводдаля кружацца роем,
пахне грушавым кветам, травою,
кучаравіцца пара-дымок...
Недарма, што знямелі далоні
ды крыху прытаміліся коні —
я і сам, шчыра кажучы, ўзмок.

— Но-о, гнядыя! — наструньваю лейцы.
Конь старэйшы ідзе як улегцы,
маладзейшы — нібыта аглух...
Самы час на пагорку прылегчы —
размінаю закляклыя плечы
і адпрэчваю коней на луг.

Для мяне асалода і гонар —
крочыць моўчкі па цёплым загоне,

даланёй выціраючы лоб...
Спаконвечны мужчынскі занятак —
дні будзённыя
славіць, бы свята,
я — араты,
мой чын — хлебароб.

## КОЛЕРЫ

Мне на родных лугах, палях
не было забароннай зоны,
мне аздобіў у горад шлях
колер краю майго — зялёны...

Я ішоў — не ступаў у след,
што пакінуў бажок грашовы;
зачароўваў і вёў у свет
колер казак і сноў — ружовы.

Жыць — не вобмацкам варажыць:
вецер часу халодзіць скроні;
кліча ўдалеч,
зарой дрыжыць
сутны колер жыцця — чырвоны!

## БЕЛЫ БУСЕЛ

Гучы, пачуццё маладое,
у звыклай пяшчотнасці слоў!..
Высокае неба Малдовы
праводзіць у вырай буслоў.

Трымціць развітальным акордам
цыб'ё вінаградвай лазы...
Бывайце, зялёныя Кодры!
Бывайце, лугі і лясы!

Ды з ранішнім ветрам
вярнуўся
дадому
адзін
белы бусел...

Той птах ці не з даўняй легенды
ў малдаўскае неба ўзляцеў?

...Стаяла спякотнае лета —
палетак ад сонца самлеў,
знямогліся людзі ў бясхлеб'і...
І вось у гарачае неба
бацян белакрылы ўзляцеў!

Людское няшчасце звысоку
заўважыў раскрылены птах —
рассыпаў бусліны свой клёкат
на дахі сялян і ў палях...

І з гронак зярнятамі зоры
ірдзеюць ужо на зямлі;

збавенне ад згубы і зморы
ў тых ягадах людзі знайшлі.

Я чуў, як у песнях шчаслівых
малдаўскіх жанок і дзяўчат

гучыць цудадзейная сіла —
на вуснах звініць вінаград!

І ўжо не легенда, а ява:
падцягваем іх галасам —
сяброўка шаноўная — справа,
а злева, вясёлы,— я сам.

І каб за гасцінным абрусам
было весялей,— пакрысе
нальём з той вінаркі, дзе бусел
іскрыстую гронку нясе!..

* * *

Мінае год — усюды ён
свой пакідае след.
На дрэве новы круг відзён,
сад пасадзіў сусед...

Што адслужыла — ўсё на злом
мінулы год паслаў,
арбітай новай, бы вязьмом,
Зямлю апаразаў.

Нібы апоўначы трамвай,
звініць мінулы год...
Шкада, яго не затрымаць,
не абмінуць яго!

* * *

Да маладосці ў адведкі
новай вясною ідзеш.
Сінія, белыя кветкі,
першыя кветкі нясеш.

Зелена, цёпла, празрыста.
Хочаш — бяжы басанож!
Сцежка прастуе на прыстань...
Прыстань, зажураны Сож...

Спынішся — памяць заные:
нерушна пахнуць сады,
гукі лясныя, зямныя,
шал жыццядайнай вады.

Возьмеш у дзядзькі дашчанік
і пашыбуеш наўзгад,—
дзе маладымі вачамі
высвечаны далягляд,
дзе аб'ядналі паданні
гэты і той берагі...

Голас трывожны і даўні
кліча на бераг другі!

Яблыкам скоціцца сонца,
ціха прыляжа набок,—
там, дзе выскубвае сонна
цень свой стрыгун-жарабок.

## ПРАДВЕСНЕ

На выгане,
як бачыць вока,
снег адступае пакрысе,
і ўжо за бліжняй хатай вольха
цвіце ў засмужанай красе.

Гагочуць гусі на сугрэве,
сакочуць куры на двары...
Сусед у садзе чысціць дрэвы —
бінтуе ранкі на кары.

Кот-ласунец прыжмурыў вейкі,
паважна ходзяць галубы,
і ў лужыне два верабейкі
свае ўскудлачылі чубы.

А з пушчы,
млявы і салодкі,
духмян у твар адлігай тхне;
успырхваюць сініц чародкі,
у гулкі бубен дзяцел б'е.

Над паплавамі і палямі
(глядзі — не ўбачыш з-пад рукі)
спрадвечнай песняй
разам з намі
вясну вітаюць жаўрукі.

Ліловы дым плыве над вёскай,
пераліваецца ўгары;
каля майстэрні —
звон і лёскат,
гудуць спакойна трактары.

Не заўтра — сёння сок бярозны
ўжо цягне хмелем з-за ракі,
і на бліскучыя барозны
ляцяць вароны і гракі...

## ВЕРНАСЦЬ

Цішыня — мая,
                    ноч — садовая,
ды за пазухай — салаўчо!
Пачынаецца песня новая:
па-вясноваму — ясянёвая,
ледзь асветленая свячой...

Прачынаецца песня раніцай,
абраселая з ног да плеч!
Дзе ж была ты,
                    мая абранніца,
з кім бы мог я раней параіцца,
каб не мець выпадковых стрэч?..

Вось таму і свіганьнай тайнаю
цень ад хмаркі халодзіць лоб...

Не люблю я выццё гартаннае
пад уздрыгі струны гітарнае,
што паскубвае сыты сноб!

Не лагодаю абвалоквае
цішыню легкадумны дым...
Добра хоць — сыты сноб валодае
толькі знешняю пазалотаю,
а не голасам залатым!

Даланя мая —
                    ніва жніўная.
Покуль сіла і воля ёсць,—
хай лунае заўжды наіўная,
салаўіная і нявінная
наша спеўная маладосць!..

Не агледзіны, дык заручыны!
Мы вяртацца ўсё ж пачалі
да нязмушаных, незавучаных
спаконвечных «ку-ку» зязюльчыных,
чыстых песень сваёй зямлі.

## ПРА СЦІПЛАСЦЬ

Самалюбства чынушы, слава,
махляроў кіраўнічы сверб
вас чамусьці трывожаць слаба:
«Ах, не трэба!.. Не наша справа...»
Тыя ж лезуць нахабна ўверх.

Забаўляюць жартоўным глупствам,
мякка ляпаюць па плячы...
«Самалюбства не самагубства,
слава іхняя — не распуста»,—
вы як быццам тут ні пры чым...

А лаўкач-балбатун асіплы
і лагодненькі кар'ерыст
драбязою навокал сыплюць;
вы ж — рахманыя,
вы — за сціпласць,
вам — хоць сціплая, ды карысць!

Хіжакі наступаюць дружна,
нажываюцца пакрысе...
Ваша сціпласць —
сястра двурушнасці,
той жа самае раўнадушнасці,
костку ўдачы чужой грызе.

Вораг вытне знянацку ў спіну,
здраднік можа прадаць за грош...
Ну а сціпласць,
якою слынны
баязлівец з душой мышынай,
ненавіджу ўсё больш і больш!

## ГОРЫ

Я ў паўднёвым быў краі —
там, дзе зоры ў гарах,
бы на нітцы каралі,
бурштынова гарaць...

«Горы, снежныя горы,
вы — краса для вачэй,
у нягоду і ў горы
вы за ўсіх найвышэй.

Да вяршыняў вачамі
не дасягнеш з-за хмар,
я мураш перад вамі,
я — нікчэмны камар...»

Адказалі мне горы,
як пачулі той спеў:
«Ты не першы, каторы
прыніжае сябе.
І па знешняй прыкмеце —
не мураш, не камар.
Чалавек! — на планеце
над усім ты ўладар.
І світальнай парою,
і ў засмужаны час
той, хто чысты душою,—
заўжды вышай за нас!»

* * *

Як надакучыць мне ў гасцях,—
вядзі дамоў, гасцінец-шлях!
Бо там, у пушчы і ў бары,
усе звяры — мае сябры:
ласі, рахманыя бабры,
дзікі, алені і зубры...

А вунь — гняздо майструе грак,
сваё «лю-блю» крычыць ляляк,
дудніць удод, маўчыць пугач
ды надрывае горла драч...

Усцяж дарогі — добры знак! —
шуміць падлесак-беразняк.

Здаровы дух! Аблокаў пух
кладзецца вечарам на луг...

Стаяць на лузе два дубы,
нібыта волаты-грыбы.

За мной
з-пад броваў тых дубоў
цікуюць вочы жалудоў...

* * *

І думкам, і жаданням дома
ў дажджлівы дзень — маркотна, цесна.

Я ў лес іду, бо мне вядома:
там пошум дрэў развее стому,
там перальецца сум у песню...

* * *

Ёсць мова ў нас. Яе хацелі
спаліць — бы вёскі, гарады...
Яна мацней за цытадэлі,
яна — спрадвеку, назаўжды!

* * *

Заснуць?.. Забыцца і заснуць?
Не, я жадаю іншай долі —
вярнуцца ў першую вясну
і адкрыццём яе спатоліць!

Зрабіць — што не паспеў зрабіць;
дзень, затуманены слязою,
хачу забыць...
Хачу забыць
усё нікчэмнае і злое!

Не ахвяруючы — забыць
на лёс глухія нараканні.
Дзе ж адкрыццё? Яго здабыць
хачу я ў творчасці, каханні.

Хачу, каб творчае жыццё,
каб салаўіны ўзрост любові
мне сілкавалі адкрыццё
лагодным гукам, чыстым словам.

## ЛЕТАМ

Струменіць з-пад калматых броў
сінечаю барвовай
Дняпровых выспаў-берагоў
світанак чабаровы,
ірдзее ў нерушнай красе
і спеліцца на ўлонні,—
пакуль расу не атрасе
мне вецер на далоні...

Яго чмяліны гул і пах —
аж млосна ад сугуччаў! —
павольна стыне на губах
мелодыяй гаючай.

За ім з аддаленых палян
бруіцца ціхім звонам
багун, сунічнік, дурнап'ян,
шыпшыны ліст зялёны...

Пад баравінаю густой,
у мох схаваны дбайна,
п'е з асалодаю настой
баравічок звычайны...

Я тут таксама — за сялом,
у лес іду — бы ў хорам,
напоўнены яго святлом,
жывым птушыным хорам.

* * *

Жэўжык верабейка,
як зіму зімуеш?
Дзе твая сямейка,
што адзін сумуеш?

Што ніякавата
касавурыш вочы?..
Прылятай у хату —
пэўна ж, есці хочаш...

Што́ — ката на печы
чуеш мурката́нне?
Я і сам, дарэчы,
не дружу з катамі.

Лайдака прагонім,
лежабоку — з печы!..
Пакармлю з далоні
я цябе, малеча.

Ах, баішся ў хату —
пачакай, брат, трошкі!..
Ёсць у нас зярняты,
ёсць і хлеба крошкі.

Ты пасля сняданка
смутак свой забудзеш
і бесперастанку
мне чырыкаць будзеш...

* * *

Неба — чыстае і высокае,
сонца коціцца па пляцу.
Я на двор стрымгалоў выскокваю —
я бягу... Не бягу — лячу!

Сэрца стукае... Нібы дзяцел,
аж заходзіцца — так дзяўбе...
О, часіна спаткання з маці,
благаслаўляю навек цябе!

Тут без боязі, без дазволу —
хочаш — стой, на траве прысядзь,
смейся ўдосталь, жартуй уволю
між вясковых густых прысад...

Благаслаўляю твой хлеб і рукі,
што працягнуты з поўнай місай,
голас, поўны журбы-дакукі:
«Як жывецца, сынок? Стаміўся?..»

Вось і поўня з-за хмары бліскае
аржаным караваем хлеба...

Неба сёння — такое блізкае,
толькі маці бліжэй, чым неба!

* * *

Незабыўнае слова Маці —
як гаючы глыток жыцця
ўпершыню —
на губах дзіцяці,
назаўжды —
на губах байца.

## НА ПЕРАВАЛЕ

*М. Стральцову*

Вятры смыкамі рвалі на прывале
гранёнай цішы
снежны маналіт,—
як апынуўся ты
на перавале,
далёка
ад узвейнае зямлі.

Адсюль відаць,
нібы на цьмяным здымку,
нібы праз дымку,
многа блізкіх рук,
яшчэ заўжды
гатовых да абдымкаў
пасля сустрэч,
а больш —
у час разлук...

О, колькі
слаўных рыцараў сяброўства!
О, колькі аднадумцаў! —
не злічыць...
А ўсё ж
патрэбна
і такая ростань,
каб дзень мінулы
з будучым
злучыць.

Відаць высока
з белагрывай стромы,
дзе нашы коні
спачываюць-спяць;
нам —
працаваць,
не ведаючы стомы,

нам —
«Дзе ж ты, сінявокая?..» —
спяваць!

А хто
завочна
хоча нас сурочыць,—
хай наўздагон
не шле
прарочых слоў;
тут не чуваць
ні балбатні сарочай,
ні іншых
легкадумных галасоў.

Змрок вечаровы
разарве
з размаху
крылом
прадвесняй ластаўкі
прамень,—
на перавале
сунімаем смагу,
далёка
ад будзённых перамен.

* * *

Бывайце, хлопцы! Мне ж — у іншы бок...
Імчы мяне, цягнік, да Парахонска,
дзе ў першую вайну служыў у войску
паэт расійскі Аляксандр Блок.

Пісаў ён маці: тут усе лясы
амаль што з вольхі... Грузнем у балоце...
А ў памяці, бы літары ў блакноце,
жандараў ненавісных галасы...

Той страшны свет ён ненавідзеў горда!
Як ноты — словы, фразы — бы акорды —
хаваў душы ягонай пантэон.

Мажліва, тут, у глыбіні Палесся,
адчуў паэт з'яўленне новай песні —
кастрычніцкай адлігі шум і звон...

* * *

Палявая, лясная дарога —
і трымціць,
і звініць,
бы струна.
Каб устала дарога на ногі,
да нябёсаў дастала б яна.

О, каб мне расказала дарога,
што трымціць,
і звініць,
бы струна,
ля чыйго я спынюся парога,
хто
за мной
назірае з акна!..

## ЛЮСТЭРКА

Бяры, сусед, веласіпед —
успомнім вёсны, леты!..
Ты едзеш першы, я — услед.
Звіняць веласіпеды!

Дрыжыць люстэрка прада мной,
на каляінах скача...
Усё, што за маёй спіной,
у тым люстэрку бачна.

Дарога. Мост. Уздоўж — слупы.
Рачулка перад гаем...
Курыцца мяккі шэры пыл —
аўтобус даганяе!

Смяюцца школьніцы з акон:
«Ну, затрымай каторы!»
Мы адстаём — не той разгон,
не тыя ў нас маторы...

Гляджу ў люстэрка...
Дружа, стой...
Старэем, дружа, значыць.

Нам не дагнаць аўтобус той,
як маладосць не ўбачыць.

## У ДАРОЗЕ

...Ад Ашмян да самае Смаргоні
цераз гай, праз гоні, сенажаць,
быццам уцякаюць ад пагоні,
галяпуюць мае годы-коні,
залатымі грывамі звіняць.

Краявід мой родны, беларускі!
Ясныя паляны, паплавы...
Маладосць мільгае сіняй блузкай,
каснічком чырвоным,
стужкай вузкай,
аблачынкай светлай галавы...

Ад Смаргоні і да Маладзечна
і адтуль — далей,
        на ўсход,
        на ўсход,
скачуць годы-коні
                                без вуздэчак,
ну, а той,
                каторы маладзейшы,—
самы шпаркі,
                        мой бунтоўны год.

* * *

Не зневажайце ў роспачы жанчыну,—
хоць вас
яна
аднойчы ашукала;
няхай суддзёй
між вамі
будзе час,
а вашым сябрам —
мужнасць і цярпенне.

Руку не падымайце на жанчыну,
нават тады,
калі ў руцэ —
не камень,
а кветка самай чыстае любові,
ад якой жанчына адкаснулася...

Не пакідайце ў роспачы жанчыну!
Яна —
сумленне нашай адзіноты,
той адзіноты,
што вянчае Словам
пачуцці нашы,
думкі,
спадзяванні.

* * *

Званок тэлефонны, учора лагодны,
грыміць — бы Везувій.
Якраз напярэдадні Новага года
парушана сувязь...

Цярусіцца зверху то дождж, бы ігліца,
то нейкая сумесь.
Ці светла ад снегу, ці золлю імгліцца...
Парушана сувязь.

Прарэзлівы смех у натоўпе імклівым
і голас: «Ану вас!..»

Хто гэты мужчына — самотна-маўклівы?
Парушана сувязь?..

Твой позірк замроены сіняй смугою —
імпэтна вальсуеш
ты сёння з другім, я — напэўна, з другою...
Парушана сувязь!

Прыгожа жыла, працавала належна,
шчаслівая заснула?..
Не верыцца мне...
І да золку — няўлежна.
Парушана сувязь.

* * *

Колькі раз без цябе, і з табою,
і ў шматлікай людской гамане
заўважаў я анёла з трубою —
ён іграў мне і клікаў мяне.

Як іграў ён, анёлак шчаслівы!..
Не за чарку ці жменю манет —
ён іграў, не шкадуючы сілы,
і глядзеў, бы дзіця, на мяне.

Не паэт і не мудры празорца,
я ад музыкі той па начах
прачынаўся — іскрылася сонца
і хавалася зноўку ў вачах.

Толькі промень адзін не хаваўся —
хваляваўся і млосна звінеў,
нада мной міласэрна схіляўся,
і бянтэжыў, і клікаў мяне!..

А калі між табою і мною
ўстаў адчужанай яснасці дзень,—
не сустрэў я анёла з трубою,
толькі ўбачыў ад воблака цень.

## АСА

На вуснах у цябе — аса!
Такая тонкая і злая,
што аж зыначылася ўся
твая цнатлівая краса —
наўздзіў і неспазнана.

Аса на вуснах у цябе.
Яна бзумчыць так аднастайна,
што кожны думае цяпер:
«Ах, я, напэўна б, не сцярпеў!..»
Аса на вуснах — тайна.

* * *

Так, я таксама не чакаў
ні слоў тваіх,
тым больш — паклону...
Безвынікова іх шукаў
па сцежках, памятных да скону.

Мая віна ці не мая?
Усю тугу па ідэалу
нёс да цябе — як немаўля...
Ты ж размаўляць не пажадала!

Даруй, я не хацеў пісаць —
мой ліст таксама ўсё не змесціць:
цяпер на новым месцы сад,
і дом, і я — на новым месцы.

## ТАПОЛЯ

Кулакі сціскаюцца ад болю:
хіба ж можа,
ну не можа быць,
што ахвярай скрухі і жальбы
стала наша юная таполя!..

Помню двор вясковы.
Дзень вясновы...
Пасадзілі дрэўца мы тады,
каб гучалі звонам маладым
у яго лісці прызнання словы...

Поразь мы...
Ды я парой употай,
слухаючы шум зялёных дрэў,
згадваў дзень, калі цябе сустрэў...

Я прыехаў...
Згінь ты, шэры попел!

Я не веру!
Дзень цяплом надзелен,
сонца промнямі смугу на лусты рэжа.
Прабіваецца праз попел рыжы
парастак —
вячыстая надзея...

* * *

Надакучыла мне
слухаць смех пусты:
што ні слова —
быццам пугай па вадзе.
Адпусці мяне,
на волю адпусці —
хай хто іншы
за руку
цябе вядзе!

Маіх коней
не патрэбна панукаць,
пануканне —
рызыкоўнасці сястра...
Вось міну лаўжы і крушні —
будзе гаць,
ну а потым —
пуцявіна-магістраль!

Капяжы звіняць.
Маўчыць плакун-трава.
Толькі попел, дым —
пасля агню...
Тое сэрца
на аброці не ўтрымаць,
што спазнала
на раздоллі
вышыню!

* * *

Прыйшла — і развярэдзіла ўспаміны,
кранула запаветную струну,
сыграла вальс, пяшчотны і адзіны,
глядзела доўга-доўга на сцяну.

Адна сцяна маўклівая стаяла
паміж дваіх, развенчаных дваіх.
Загаварыла ўрэшце... Колькі жалю
было ў высокім голасе тваім!

Нашто мне знаць: я правы, вінаваты...
Ці ж не сама ты красавіцкім днём
пакінула маю святліцу-хату,
пайшла ў чужы і непрытульны дом?

І клясціся не трэба, што кахала...
Ці ж не сама ты позняю вясной
у кожным стрэчным голасе шукала
другі матыў, але — не мой, не мой!

* * *

О, прыгажосць!
Такі твой лёс —
ад страт пральеш
нямала слёз,
пакуль цвіцеш
і спееш адначасна...

Журботліва-спатоленае шчасце
спазнаеш ты,
як сад,— тады,
калі збярэш гадоў плады.

* * *

«Жыву не там, дзе жыць павінен,
не з тым спрачаюся, дружу —
нібыта хто распалавініў
маю душу...» —

я так пісаў табе ў адчаі,
наш асуджаючы разрыў,
пакуль мой човен не адчаліў
ад той зары...

Да зморы па бязлюдным моры
мяне шпурляў шалёны шквал...
Я архімедаў пункт апоры
не там шукаў...

Але барвовы снег збліжэння
ляціць ужо з груваcткіх хмар:
то б'е пад сэрца з галашэннем,
то хвошча ў твар.

На тым завейным даляглядзе
я абавязан да канца
або з'яўляцца ў час няладдзя,
або знікаць!..

* * *

Я не хацеў зняважыць словам
твой дом,
далёкі ад прыгод...
І раптам:
«Досыць. Не прыходзь»,—
нібы штуршок з вяршыні стромай.

Ды і маўклівым недаверам
я не хацеў цябе зняважыць.
Не здолеў,
не паспеў заўважыць,
дзе той парог,
дзе тыя дзверы...

А выйшаў бы своечасова,
а вынес бы ўвесь боль адразу,—
і недарэчную абразу
не выдалі б
ні жэст,
ні слова...

* * *

Хай бы не сустрэліся — не горш:
зноў мяне дапытліва разглядваеш,
быццам штосьць таемнае загадваеш,
быццам не заручымся ўжо больш...

Божа літасцівы! — Хай бы, хай!
Лепей — без прынукі і дакукі
адпусціць раскрыленыя рукі,
усміхнуцца ветліва: «Бывай».

У краі другія — не лаві! —
паляцелі птушкі дарагія...
Гэта ўсё адно — бы настальгія,
настальгія па тваёй любві.

* * *

Там,
над табою,
сонца не заходзіць,
яно
ў аблоках
велічна плыве...
Клубяцца хмары —
месца не знаходзяць,
а неба
вечнай яснасцю жыве.

А тут,
дзе вецер,
золкі і зялёны,
гайдае бліскавічныя дажджы,—
смугою вечаровай заімглёны
пейзаж маёй суцішанай душы...

* * *

А як жывеш ты,
як жывеш
у тым
бясконца-павярховым
белым горадзе —
сярод трохпакаёвай неметы
і раўнадушнай гордасці?

Шчаслівая?
Не цяжка?
І няўжо
ніхто не кліча?
Нікуды не гоніць
кватэрны сум?..

...Спавітая імжой,
звініць чыгунка
нетутэйшым звонам...

Трывожная дарожная жуда...
І выпадковых пальцаў
дотык зябкі...
Няма вастрэй жадання,
чым жадаць
рукі
неміласэрнай азіяткі!

Якая ёсць —
не думаю пакуль,
якой была —
і думаць не жадаю...
Сястра майго натхнення і пакут,
маўкліва-апантаная, чужая!

* * *

А ўсё ж не ратавалі нас
ні прымхі, ні замовы.
Перад табой — вясновы час,
перада мной — зімовы.

Цвіце, гудзе пасля дажджу
твой сад, трава густая...
Я ў далеч сінюю гляджу,
дзе позірк твой світае.

Цвісці садам, расці траве,
пакуль зямля — пад намі.
Мне памыляцца і гавець,
табе — буяць пладамі!

А ўсё ж — ці зблізку, ці здаля —
я ў сад твой завітаю,
зрываць пладоў не дазваляй:
я — грэшны, ты — святая.

Хвіліну горкую адну
ўспамінамі запоўню,
ліхое слова пракаўтну,
зычлівае — запомню...

Мой шлях завеяй сцёрты,
удалеч распасцёрты!..

* * *

Лютуе студзень.
Як стагі — снягі.
Нагадвае завея сто ваўкоў.
З высокіх гурб не выцягнуць нагі,
цямрота апраметная наўкол...

Знайду цябе!
Тады вось і спяю.
Не пра снягі
і не пра зграю воўчую...
Спяю пра долю вольную сваю
і пра тваю даверлівасць дзявочую.

А пажадаеш —
прыгадаю сон:
бяжыш ка мне
праз досвітак калінавы...
Трапеча плацця сіні парасон,
паблісікваеш, як промнямі, каленямі...

Лютуе студзень.
Круцяцца снягі...
Знікае ў цемры адзінокі след.
Дайду,
цябе ўратую ад тугі,
бо помню ўсё і сэрцам не аслеп.

* * *

Ці прыснілася мне,
ці здалося:
нас ахутала ў садзе смуга,
трапятліва маўчалі бярозы,
і ляжала на сэрцы туга...

Мы былі ўпершыню з табой поруч!
Дык чаму,
запыталася ты,
я прынёс табе ростані горыч
і забыў
пра той дзень залаты,
калі шчырасці мы не хавалі,
кветкі рвалі...
Гваздзік... Красадзён...
І кахання прыгожыя хвалі
загайдалі нарэшце наш сон!..

Што ж рабіць,
я сказаў,
калі розна
жыць нам...
Позна вяртацца назад...
Жыць табе —
дзе красуюць бярозы
і грукоча ігрушамі сад...

Ну а мне, як сугнею,—
дый годзе! —
па завейнай дарозе ісці,
калі-небудзь,
пры лепшай нагодзе,
юны след
у пачуццях знайсці...

Снег апошні, вядома, растане,
і сплывуць ручаямі сляды.

Толькі наша з табою расстанне
веснім часам успомняць сады.

Прыгадаем і мы, як бялёсы
нас і дрэвы ахутваў туман,
як іскрыстую наледзь бярозы
асыпалі на снежны дыван...

## ПРАДЧУВАННЕ

Непрадбачаная хвіліна
нечаканага развітання.
Беражы...
Беражы, дзяўчына...
Беражы сябе.
Да спаткання!
Будзь спакойнай...
Хай скарга колаў
не ўрываецца ў сон дзявочы...
Як збавенне —
твой спеўны голас
супакоіць мяне аднойчы.
Супакоіць — і даль адкрые,
разнасцежаную ў вясну...
Прадчуванню —
разгортваць крылы,
і ўзлятаць на вадзе вяслу!

* * *

Як наўкол завея залютуе,
прыгадай часіну залатую:
ты вянок пляла,
я рваў ажыны,
мы затым у кошык іх злажылі
і пайшлі лясною роснай сцежкай,
дзе шумелі велічна і ўцешна
волаты-дубы...
Маўчалі вольхі...
Спаў туман,
прасветлены і волкі...
Прыгадай часіну залатую,
калі зноў
завея залютуе!

Вочы задуменныя заплюшчы —
паляціш за гарады і пушчы;
побач мы,
і я не заляйцаны
летуценна-шчырым заляцаннем
да дзяўчыны,
голасам падобнай
на цябе,
як ты —
высакароднай...
Заручы высокія аблокі
і мае бязмежныя аблогі!
Паляціш за гарады і пушчы —
толькі вочы думныя заплюшчы!..

Хай жа, хай зламыснікі варожаць —
нам прарочаць ростань і варожасць...
Будзе ім няўлежна і няўцешна
ад любові нашай незалежнай!

Толькі ты, каханая, ніколі
не шукай для шчасця іншай долі...
Ні пад сцюжай,
ні пад навальніцай
не згінайся чарацінкай ніцай!

* * *

Тут — узвейна трапеча асіннік
і лістоты кляновае сцяг...
Там, сярод густакроннае сіні,
спее песні тваёй працяг...

Тут, дзе вецер адзін асенні
долу шорсткія травы гне,
абступаюць працяжна цені
насцярожанага мяне,—
я іду і шукаю вачыма
твой гарача-стамлёны след,
каб мінулае стала магчымым,
каб адкрыўся нанова мне свет!..

Каб сканаў гэты млявы вечар
там, за вогненнай паласой,—
там, дзе плешчацца ранак вешчы
над планетай жывых лясоў...

* * *

Кнігаўкі прыляцелі —
радасны іх прылёт!
Хіліцца долу цела,
бы пераспелы плод.

Стома, ды не ўвярода...
Без мітусні, размоў
лапік свайго гарода
заўтра ўскапаю зноў.

Буду капаць да змогі,
да яравых зарніц,
слухаць — густой аблогай
мой агарод звініць.

Адпачываць і марыць:
добра, каб ты прыйшла,
каб у цябе на твары
усмешка зарой цвіла!

...Прыйдзеш занадта позна —
вусны смуга кране,
велічна і пагрозна
глянеш у вочы мне...

Не адвядзеш рукамі
шлях злыбядзе — бядзе;
бы на жалеза камень,
слова маё ўпадзе.

* * *

Не ганьбіла, не пагарджала,
не гаварыла: «Надакучыў».
Ды голас, колісь так пявучы,
цяпер пякучы стаў, бы джала.

Глядзі ж: плывуць на поўнач крыгі
і першы гром спрабуе голас...
Якія ж думкі тваю голаў
прыгнулі да забытай кнігі?

Глядзі і не хавай здзіўлення:
учора — глуха, сёння —
звонка
гартае шэрыя старонкі
вясновы вецер абнаўлення.

Ідзі — і слухай грай грачыны
і берасцянак шматгалоссе,
узрадуйся, нібыта госцю,
дажджу з высокай аблачыны!

* * *

Дзень вясновага раўнадзенства —
безліч фарбаў на дне вачэй.
Мне нікуды ад іх не дзецца,
я да іх не прывык яшчэ!

Бачу там: то святла мігценне,
то сутонне, бы снег, ляжыць;
на світанні — густыя цені,
днём — іскрыстыя ледзяшы.

О, як боязна, як спакусна
і пакутліва вывучаць
па цнатлівых дзявочых вуснах,
што схавана ў яе вачах!

Ці агонь трапятліва-вёрткі,
ці глухі сакавіцкі лёд?..
Насцярожаныя вавёркі,
не спудзі,— упадуць наўзлёт.

Раптам — вее лагодным ветрам...
Быццам птах узмахнуў крылом...
Развінаюцца насцеж нетры.
Пачынаецца крыгалом!

* * *

Празвінела грымлівай залевай вясна!
Успамінамі тхне прахалода...
Зацвіла, запыліла на сонцы сасна,
уздыхнула рака з асалодай.

На світанні чуваць галасы дзетвары,
рэха коціцца з бору да гаю...
Я і думаць не думаў, што тут, у бары,
хлапчука — твайго брата — спаткаю.

Як ён вырас, змяніўся за некалькі год!
(У натоўпе наўрад ці пазнаю.)
— Дзе ж сястра? —
я спытаў у яго мімаходзь.
Ён уздрыгнуў здзіўлёна:
— Не знаю...

Я не знаю таксама, дзе след твой шукаць.
Прашумела залева над борам!
Ці дадому ісці,
ці сяброў пагукаць,
ці самому свой клопат агораць?

Я і думаць не думаў...
Ды зноўку вясна:
і грыміць, і звініць над краінай...
Нездарма запалала на сонцы сасна
першацветам маіх успамінаў.

## МАКАЎ ЦВЕТ

*Лене*

Няўжо сышоўся клінам свет
над шэрай пожняй?..
Не, палымнее макаў цвет
вясною позняй!

Зарубцаваўся страты след
глухой, апошняй...
Адкрыўся зноўку вольны свет,—
як запалаў мне макаў цвет
вясною позняй.

Я пакахаў — хіба ж сакрэт,
што, выпраўляючыся ў свет,
я чую: голас твой услед
гучыць лагоднай позвай...

Любові нашай
макаў цвет
расцвіў вясною позняй!

## ТВАЁ ІМЯ

Аднойчы ты прыйшла,
сказала:
— Люблю.
«Люблю...» —
сказала ты.

Я ўбачыў ранішняе ззянне
і промень сонца залаты
на дне пагодлівых вачэй...

...І хоць ніхто не знаў яшчэ,
якое нам выпрабаванне
аднойчы лёс наканаваў,
я прывітаў тваё каханне,
бо сам таксама пакахаў.

З тае пары свае пачуцці
я называю тваім імем...

Як зноў засну,—
змагу прачнуцца,
сагрэты вуснамі тваімі.

## ВЯНОК

*Л. Ермаковіч*

Тваё аблічча,
голас за фіранкай —
як таямнічы
велічны матыў,
што на імгненне
выхаплен маланкай
з высокай
навальнічнай нематы.
Святло далёкіх,
непарушных
зорак
і сон,
кароткі —
як узмах павек,
духмян раллі,
звон коласа ў дазоры —
усё з табой,
спрадвеку
і павек!..

І ціша валасоў —
бы снег глыбокі,
і дотык пальцаў,
што на схіле дня —
як промні
ў запаволеных аблоках
знямела
заравеюць давідна;
і спёка вечаровых —
весніх вуснаў,
і ўзлёт
шчымлівай лёгкасці
ў руках —

усё табой
вянчаецца,
як вусцем
вянчаецца
майго жыцця рака.

* * *

Учора ў белым,
сёння ў чорным,
не заручоная яшчэ...
Струменіцца сняжок вячорны
на гарачынь тваіх плячэй;
цячэ... пячэ неміласэрна
няўтольнай прагаю цнаты
паветра, голас мой і сэрца —
да забыцця, да нематы!

Учора ў чорным,
сёння ў белым,
з другім абвенчаная ўжо,
звініш — нібыта яблык спелы,
ляціш у нерушны сняжок...
Неўтаймавана і ўрачыста,
высакародна і няўцерп.
Ад прошласці — не адрачыся,
да прышласці — няма патрэб!

Учора — сёння... Сёння — ўчора...
Гром — у слату, мароз — на квет...
О, беласнежная — у чорным,
ты — мой найпершы запавет!

## ШЧАСЦЕ

Вады азёрнай чысціня
люструе з раніцы вясёлкай...
Сальецца з промнямі яна —
чуваць,
ужо ў зеніце дня
гучыць мелодыяй высокай.

Птушынай песні вышыня
над галавой блакітам блішча;
сутоніцца на схіле дня —
зноў абдымае цішыня
тваё шчаслівае аблічча!..

## МАЯ ВЯСНА

Над маёй палявой,
журавлінай радзімаю
пракацілася ўчора
на золку
вясна.
Зеляняюць лугі заліўныя,
азіміна,
і пралеска за ноч расцвіла,
падрасла!

З падарожжаў заморскіх
вяртаюцца сённячы
да азяблых гняздоўяў
шпакі і буслы...
Звонка граюць
на гуслях наструнена-сонечных
адухоўлены гімн
паплавы і лясы.

Яркі промень
сумёты на выгане вылізаў,
ручаі каламутныя
скрозь пацяклі.
На пясчаныя выдмы
са схованшчаў
вылезлі,
парадніўшыся,
мышы, бабры і зайцы...

Звон густы над канавай!..
Квакухі крыклівыя
там наладзілі
першы ў сезоне канцэрт.
Па дарозе снуюць
мурашы клапатлівыя,
прызямліўся матыль
у мяне на руцэ.

Павуціннe
сцяжыну ў ядловец
завесіла,
пад нагамі шаргочуць сухія лісты.
Я паглядваю зноў
то журліва,
то весела
на сцяжыну,
дзе леташні след мой застыў...

* * *

Вясновы золак малады
вітаюць жаўранкі
над полем —
на ўсе лады, на ўсе лады,
узнёсла, вусцішна і з болем.
Іх, неспакойных і малых,
гайдае поўдня вецер свежы...
Жыццё — не забаўка для іх,
не толькі клопаты аб ежы.
Вось-вось ад шызай
хмары цень
на ўсходзе далягляд скамеча...
Што ім падорыць
гэты дзень,
што прынясе ім новы вечар?
Хіба ўратуюцца не ўсе
ў час навальнічнага пажару?..
І што дзень весні
прынясе
нам на крыле жывога
жаўра?

## КРАСАВІК

Красавік.
Ціха плачуць сумёты.
Гулка пляскаюць капяжы.
Ля сасонак,
сутулых, самотных,
неўгамонны раўчук бяжыць.

Ён, як хлопчык гарэзны,— звонкі,
сінявокі, светлагаловы.
Задуменна глядзяць сасонкі,
уздыхаюць, нібыта ўдовы.

Прыгадалі юнацтва,
пэўна,
вайною знявечанае...
Бесклапотны раўчук упэўнена
пяе з ранку да вечара.

Сосны слухаюць — усміхаюцца,
небасхіл ззяе промнямі.
— З добрай раніцай!
— З мірнай раніцай! —
дрэвы сонцу ківаюць кронамі.

Зіма-бабуля рыпіць, скрыгоча.
Спраўляе красавік заручыны.
Сягоння свята:
ў каравул я крочу —
мне ахоўваць вясну — даручана.

* * *

Кружыцца пялёсткая
замець...
А мне хараством
любавацца
некалі.
Жыццё прад'яўляе
адказны экзамен:
быць Чалавекам.
Працую —
ад стомы
зубамі ляскаю.
Бяссонныя ночы —
зліпаюцца вейкі.
О зразумейце мяне,
калі ласка:
цяжка быць Чалавекам!
Шчокі казыча ветрык
вясновы,
такі ласкавы
і дзіўны нейкі...
Ён шэпча мне
ўсяго два словы:
— Будзь Чалавекам.
Бадзёрыя гімны
з неба
льюцца —
ваюе Сонца са здрадай,
брудам.
Паверце мне,
дарагія людзі:
Я Чалавекам буду!

## ЗВАРОТ ДА ВЁСКІ ГУ́ТАВА

Успамінаць —
адно, што мяць
асфальт, ад спёкі разамлелы...
А я жадаю размаўляць
на мове, небу зразумелай.

Успамінаць —
ісці назад
па рэчышчы знямела высахшым...
А я хачу, каб шумны сад
усцяж маёй дарогі высіўся.

І не вярнуся я ізноў
у гмах над соннымі бярозамі,
бо я нарэшце тут знайшоў
і сінь вясны і барвы восені.

І не шкадую аб гадах,
калі ты побач, Гута-Гу́тава...
Мне па тваіх вачах гадаць,
ці многа мне яшчэ кахаць;
табе ў маіх вачах відаць,
ці доўга нам з зямлёю гутарыць...

* * *

За вёскаю,
аблітай сінім золкам,
сабраліся дзяўчаты,
юнакі...
Зярнятамі,
святлейшымі за золата,
насыпаны да завязак мяхі.
Ступаюць хлопцы
па зямлі ўзаранай,
вуркоча побач новы
«Беларусь»...
Падумаць толькі:
дробныя зярняты —
калі сабраны разам —
гэткі груз!

* * *

Глухімі сцежкамі, па мураве-траве
пайду я ўсцяж туманнага балота.
Ні слова з губ, ні думкі ў галаве,
а толькі ў твар — лагода-прахалода...

Мне хочацца кахаць і вандраваць
па той зямлі, дзе ўсё — належным чынам,
мне сілаў дасць мурожная трава,
пакліча ноч — як верная жанчына...

* * *

Заходжу ў хату я
да хлебароба
не толькі дзеля трапных
рыфмаў...
Яго хвароба —
ёсць мая хвароба,
мой лёс
з ягоным лёсам
непарыўны.
Засохла бульба
ці падмокла сена —
сялянскі клопат,
як і хлеб,
са мной...
Пасею слова —
спелае, як семя,—
нальецца колас
чысцінёй зямной.

## ІМКНЕННЕ

Дзяцел —
працавітая
сціплая птушка.
Не задзіра,
не гарэза ён.
І не з тых,
што бесклапотна
гушкаюцца
на галінках бэзавых.
Дзятла называюць
лясным лекарам.
Вунь паляцеў ён
да дуба-калекі...
Па дрэве лоўка
і хутка лезе
(яго ж
на дапамогу
паклікалі).
...Я так скажу:
дзяцел —
сэрца лесу,
маленькае сэрца
лесу вялікага.
Наша краіна —
неабсяжны сад.
Мы ў ім вырошчваем
шчасця дрэўцы.
Я так імкнуся і жыць,
і пісаць,
каб быць
Радзімы сэрцам.

## СМАГА

У той вады
і колер быў, і пах,
чым больш я піў —
хацелася ўсё болей,
і толькі заставаўся на губах
спякотны прысмак
натуральнай солі.
Гарачыня, сухмень.
Так піць жадаў —
за тры глыткі
апаражняў біклагу;
марская
чужаземная вада
не наталяла смагу...
У жвір спадалі кроплі-капяжы,
і голас быў знаёма-непаўторны,
ён у зямлі прасіў:
«Дай сіл,
каб жыць
і каб любіць цябе
так непатольна!»

## ВАСІЛЬКІ

У сталіцы і ў сёлах
Палесся,
дзе чакаюць мяне
землякі,
я заўсёды прыгадваю
песню
пра жытнёвыя васількі:
«Як зямное прычасце
на гады і вякі,
расцвітаюць для шчасця
васількі, васількі...»

Дзе шамрэе бярэзнік
утульны,
на ўзбярэжжы — да ціхай
ракі
я ў маленстве прыносіў
матулі
васількі, васількі...
Калі ж раптам часінаю
смужнай
наляцелі на край
чужакі,
бацька ўстаў супраць
ворага мужна —
за радзіму і за васількі.

У гарматаў імпэт
ненажэрны,
шлях салдацкі — суровы,
цяжкі...
Бацька ўпаў на мяжы
парыжэлай,
на жытнёвыя васількі.

На пагорак, мурожны
і мяккі,

мы прыносім вясною
вянкі,
лугавыя рамонкі і макі,
васількі, васількі.

Як зямное прычасце
на гады і вякі,—
вырастаюць для шчасця
васількі, васількі...

* * *

Сышліся ў паядынку незнячэўным
пад сонцам крутабокім, як медаль,
святло і цені, веліч і нікчэмнасць,
квітнеючае дрэва і метал.
І ў першы дзень спякотлівага лета
пачуў я голас збажыны, бароў:
«Не на кітах трымаецца планета,
а на тваіх далонях, хлебароб!..»

...Я і цяпер ні перад кім не гнуся,
бо я не госць на матчынай зямлі,
бо на далонях роднай Беларусі
ёсць і мае цяжкія мазалі.

* * *

Называюць мяне паэтам.
Я ж
падобен таму салаўю,
што спявае падчас
з імпэтам...
А вось песні сваёй,
запаветнай,
не прапеў яшчэ
народу свайму.
Хватка ёсць.
На лірычнай пасцелі
я сябе
на лапаткі паклаў.
Мне здавалася:
думкі паспелі...
Ні адной жа —
глыбокай і смелай.
Ні адной —
каб душу апякла.
Не ставала мне
шчырае болі
і шчымлівай сялянскай любві
да суровага,
душнага поля,
да крамянага лета
з прыполам,
поўным яблык,
грыбоў,
журавін...
Не хваліце мяне так густа.
Далібог,
з пахвалы
незнарок
пачынаецца сябелюбства...
Сябелюбства
лічу самагубствам.
Жыць хачу —
зразумець народ.

## ПАЭЗІЯ

Я фанатычна пакахаў паэзію,
не сплю начамі —
ўсё шукаю рыфмы.
Знаходкамі натхнёны
і гарэзны я,
як карабель,
наскокваю на рыфы.
У рэшце рэшт,
знаходзіцца патрэбная...
Такая рыфма —
пальчыкі абліжаш!..
Блішчыць,
пераліваецца —
бы срэбная,
звініць —
нібыта снег пад лыжамі.
...Прыйшло выпрабаванне.
Рыфма звонкая
ператварылася ў ламачча.
Жыццё —
паэзія.
Людзей,
бліскучых звонку,
хацеў бы я
ў барацьбе пабачыць.

## СТАНУ ПЕСНЯЙ

Пагляджу ў вочы,
а ў іх — ростань...
Сніцца табе
іншая зямля.
Я зраблюся лугавінай роснай,
каб прайсці ты міма
не змагла.
Рассцялюся роўнаю сцягою —
буду слухаць
дотык ног тваіх.
Толькі б ты была
не за сцяною,
толькі б радасць,
смутак —
на дваіх.
Калі ж ты не пажадаеш
слухаць,
калі мне
не будзе, што сказаць,
утаплю
у белых росах скруху,
стану песняй
чыстай —
як сляза.

* * *

Поўдзень навісае
небам душным
па-над лугавінаю сасмяглай.
На траве
ў цяньку,
як на падушцы,
я ляжу —
глытаю мёд са смакам.
Ля ракі ў салодкай прахалодзе
спяць чаромхі —
да пляча
плячо...
Сэрцы ўсхваляваных пераходаў
б'юцца заклапочанасцю пчол!
Слухаючы песні параходаў,
у святле мелодыі чароўнай
думаю:
чаромха пахне мёдам
ці гаючы мёд
прапах чаромхай...

* * *

Не выдумляй пачуццяў, вершаруб,
у тлуме не згубі сябе самога,
сябе карай бязлітасна і строга;
будзь падалéй ад густазвонных труб,
спакойна ўзводзь свайго палаца зруб
і не крыўдуй, не наракай на лёс,
што не збіваеш лёгкай славы рос...

Душа, працуй бязлітасна, бо ты —
маё сумленне, суд мой — назаўжды!

* * *

Знікаюць і гукі і цені
пад небам аголеных мар...
У садзе маіх летуценняў —
ні ўспышак, ні грому, ні хмар.

Над кожнай астрыжанай кронай,
над кожным азяблым карчом
бязлікае сонца каронай
акруглена — бы абручом.

Застылі пад леташнім плотам
астылыя гнёзды буслоў...
У мох абгавораў і плётак
маё існаванне ўрасло!

Я лішні, хоць тут нарадзіўся!
Таму і няўцешна да слёз
за боль рахітычных нарцысаў,
за бель нерухомых бяроз.

* * *

О, як бы ні жыў ты цярпліва,—
стамляюцца розум з душой
ад плётак і зайздрасці хціва,
абра́зы — сваёй і чужой...

Чаму ж, калі рвецца на часткі
ад спрэчак наш свет дарагі,
дабрэе адзін у няшчасці,
зласнее ў раскошы другі?

* * *

Мне падабаецца, што ім не падабаецца,
як я маўчу, мінаючы іх дом,
як ненавіджу ўсіх, хто падрабляецца
пад іхні смех, пацягнуты лядком...

Па лёдзе тымі я хадзіў... Здаралася,
і коўзаўся, і падаў — рагатня!
О, як было мне вусцішна! Старалася
пакпіць з мяне так званая радня.

І кожны з іх,— ужо калі здаволіўся
пацехай той,— мне працягнуў далонь...
Я дараваў, але не супакоіўся —
даверлівасць маю спапяліў агонь.

* * *

Зямлі на вернасць прысягалі,
кляліся ў вернасці зямлі.

Не здрадзілі — другія да́лі
нас у палон свой узялі.

Пасля ўздыхаць мы часта будзем
і спавядацца — грэх не грэх,
спяшацца зноў — наросхрыст грудзі —
да родных рэк,
да родных стрэх...

Але былых гадоў сутонне
так прыхавае ўсё наўкол,
што бескарысна плакаць сёння
аб лёсе будучых вякоў.

* * *

Больш не паднімаецца рука —
мы з табой, напэўна, саграшылі:
сонечную песню жаўрука
трактары за лесам заглушылі.

Не пачуем спавядальных слоў,
мы з табой у гэтым вінаваты...
За пагібель прыпяцкіх буслоў
наступае сёння дзень расплаты!

І не трэба размаўляць — маўляў,
не бывае роду без выроду...
Пакаралі мы сябе, зямля,
пакарыўшы родную прыроду.

* * *

Гэй, наперад,— хто любіць удачу,
сарамяжы,— два крокі назад!
Калі нешта Радзіме я значу,
упаду перад ёй і заплачу,
скамянее скупая сляза.

Я не ведаю, добра ці блага —
выпрабоўваць сяброў на разрыў.
Гавару, як прад споведдзю-плахай:
мы адвыклі смяяцца і плакаць —
па-сапраўднаму, шчыра, наўзрыд.

* * *

Відовішчаў шал — казнакрадны!
Адно — бласлаўляй ці кляні,
мільгаюць, нібы кінакадры,
пражытыя хвілі і дні.

Хутчэй жа — за горад, на ўлонне!
Нас кліча па цішы туга...
Ды там, у прыродзе зялёнай,
свой рух і свая мітульга.

Лясы, разгайданыя ветрам,
з апаскай глядзяць на людзей,
буслы і шпакі — у паветры,
самы, шчупакі — у вадзе.

Мільгаюць маланкі і зоры,
усюды змаганне ідзе
за месца ў касмічнай прасторы,
на сушы і ў той жа вадзе.

Аматар найноўшых матораў,
мой друг, не забудзь пра мяне,
калі паміж зор метэорам
Зямля вокамгненна мільгне!..

## ПАЛЁТ

Ён з цэлым Сусветам услых, незалежна
на мове касмічных вышынь размаўляў...
А дзесьці далёка, пад шклом і жалезам,
маўчала ў трывожным чаканні Зямля.

Мільгалі і Вега, і Марс — бы паўстанкі,
узрушаны свет ад здзіўлення блажэў...
Але што ні хвіля — бліжэй да спаткання,
да цёплай сустрэчы з радзімай бліжэй!

І цішу ўзарвала пяшчотнае слова,
калі азірнуўся назад ён... Але
быў колер яе — шынялёва-сталёвы,
траншэі — крыж-накрыж — на журным чале...

І хоць ад выпадку цяпер не залежаў —
застыў на імгненне пад небам сівым
з планетай у сэрцы, за шклом і жалезам,
як выклік вякам узвышэннем сваім.

* * *

Птахі, птахі, ніхто не сагне
пругкасць крылаў у паднябессі...
Застаюся адзін, сугней,
на зямлі, поўнай песень!

Вы мяне ў свой палёт не ўзялі —
там сугнеі ці трэба?

Нараджаецца ўсё на зямлі,
нават песні аб небе.

* * *

Аднойчы на экране тэлескопа
я ўбачыў Марс... Такія ж, як і ў нас,
на ім — раўніны, горы, перакопы
у павуцінні таямнічых трас.

Не можа быць — падумаў з недаверам,
пытаючы ў халоднай цішыні,
чаму маўклівым паласатым зверам
глядзіць на нас ён з цёмнай вышыні.

А потым, не губляючы арбіты,
Марс паказаў свой адваротны бок,
што палымнеў, нібы крывёй абліты,
бы акіян пустэльны, без дарог...

Равеснікі, сучаснікі, зямляне!
Жадаю ўсім, каб не спыніўся час,
каб нашай маладой планеты ззянне
было ў Сусвеце ззяннем мірных трас.

* * *

Заўжды прыгажосць і натхняе і радуе:
то сонцам пральецца яна, то ліўнямі.
Любуемся мы сяміколернай радугай
і адчуваем сябе шчаслівымі...

Сем фарбаў — сем радасцяў дорыць прырода,
яны немаўля і дарослага вабяць...
О, як прыгожа суквецце народа,
дзе тысячы радуг і тысячы фарбаў!

## ЗДЗІЎЛЕННЕ

На шэрым аркушы паперы
шаргоча верша цьмяны цень...
Я раскажу, калі паверыш,
што наступае новы дзень.

Кахання спелая планета
ўзышла — трымціць над галавой
акруглай формаю ранета
ў аблоках сутнасці хмяльной.

Мяне, шчаслівага ў падмане,
ацверазяць не дні — гады.
А што было — сплыве ў тумане,
сплыве ў тумане назаўжды.

Любові шчодрая камета
пакіне апраметны след...
А мне ставала б і паўсвета,
каб заставаўся светлы свет.

Сады і плодныя даліны,
вулканы, пусткі, валуны...
Хапіла б мне і палавіны,
каб не было нідзе вайны.

Ад вострай прагі абнаўлення
ўвайду ў празрыстую ваду,
ды ў дзень сусветнага здзіўлення
я сам, напэўна, упаду...

Аддам жа ўсё на белым свеце,
каб толькі, падаючы ніц,
было відно, што сонца свеціць,
чутно было: трава звініць!

За гэта непадкупна ўдзячны
я кожнай кропелькай крыві
айчыне, створанай для шчасця,
жанчыне, вернай у любві.

* * *

Як многа машын і жанчын
ля іх — з ваяўнічым ухілам!..
Цішэе чало ад маршчын.
Вышэе зямля ад магілаў.

Ад вечных праблем не ўцячы —
эпоха па нервах чаканіць.
Стаміліся рэкі цячы.
Стаіліся рукі ў чаканні.

Не трэба чужых пірагоў!
Народ — гаспадар, а не лёкай.
Што мора мне — без берагоў?
Што неба — адно, без аблокаў?

Як многа бяздомных мужчын,
як многа бяздумных — ля дому!
Ды ўжо не чутно з-за машын
ні сэрца, ні майскага грому.

Далонь ачышчае далонь:
губляем, шукаем, знаходзім...
Каго возьме час, а каго
пакіне ў наступным стагоддзі.

* * *

Я іх расціў рупліва, клапатліва
і палівáў слязамі кагадзе...
Такі фінал:
раструшчаны на мліва
зярняты летуценняў і надзей.

Дачасна,
нечакана і няшчадна!
Прыйшоў млынар, сабраў усё ў хатуль.
Панёс — каму? —
жанчыне і нашчадкам,
прыспешваючы лёгкую хаду.

Мукá як мýка...
Будуць моўчкі есці
той недаспелы хлеб
і кожны дзень
глядзець удалеч —
каласяцца дзесьці
зярняты летуценняў і надзей!

## ГЕРОЯМ

Вас не змаглі і ў чэравах цямніц
ні ў парашок скрышыць,
ні з пылам сцерці...

Жыццё мы не навучымся цаніць,
пакуль не перасілім жудасць смерці.

* * *

Грашым і слёзна каемся
мы ўслых і на паперы,
за правату змагаемся...
Зямля ж усім паверыць!

Парой з-за славы сварымся —
аж водгулле ў эфіры!..
Настане час — састарымся:
зямля усіх памірыць.

Бывае, дзелім долькамі
і плён свой, і надзеі...
Зямля ж усіх аднолькава
у рэшце рэшт надзеліць.

Не колькі горкай выпіта,
не крывячы, лічыце,
а колькі кропляў выліта
ў зямлю...
Яе лячыце!

Як і душу атрутную,
як сон аб лепшай долі,
каб у часіну скрутную
нам не шукаць пакутнае
зямлі, айчыны, волі.

## ДА БЫЛЫХ СЯБРОЎ

Плывуць аблокі,
ім плысці да рання;
клубяцца табунамі туманы...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Перажываю ноч расчаравання
на скрыжаванні праўды і маны.
Перажываю кпіны і насмешкі
спалохана-бязлітасных вачэй...
О, пустазвоны!
Колькі тых узмежкаў,
што я ўзараў,
каб спалі вы ямчэй.
Без пахвалы,
без роспачы,
без жалю
араў і сеяў,
сеяў і араў...
Вы ж — толькі жалі
ды, прабачце, жралі,
а я маўчаў —
нібыта што украў.
Я разгадаў усе вашы сакрэты...
Пара, пара самім сябе караць!
Ёсць роўны стол,
ёсць пачак цыгарэтаў,
паперы аркуш,
даланёй сагрэты...
Араць і сеяць!
Сеяць і араць!

Плывуць аблокі,
ім плысці да рання;
клубяцца табунамі туманы.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Перажываю ноч расчаравання
на скрыжаванні працы і маны.

* * *

Мая любоў — не Бог.
Мая любоў —
эпоха з непакорнымі
вачыма.
Яна мяне паклікала на
бой
і верыць у бяссмерце
навучыла.
Мая любоў —
мой першы трудны бой
за чысціню вялікаснай
ідэі.
Пакуль жыве ідэя —
жыве боль
у сэрцы
самай моцнай цытадэлі.
Мая любоў —
маіх сумненняў боль,
сумненняў,
што народжаны Любоўю...
Без гэтай болі
нават бой не бой,
любоў тым болей не
любоў
без болі.
Мая любоў —
зялёны луг,
і бор,
і хата,
і адзіная жанчына...
Мая любоў — не Бог.
Мая любоў —
ты, Беларусь,—
трывожная Айчына.

* * *

Хай крые бог, каб наступіў той
час,
калі сябры, якія нас любілі,
знялюбяць нас і ўзненавідзяць
нас
і закляймуюць здзекам да
магілы.

Хай крые бог, каб наступіў той
час,
калі ў тваіх вачах яснавяльможных
я адлюструюся апошні раз
перад тваім апошнім падарожжам.

Хай крые бог, каб наступіў той
час,
калі адзін пад зоркай
Мілавіцай
на скрыжаванні невядомых
трас
я на тваё імя буду маліцца...

Але — не, не! Ты ўсіх перажывеш:
ліхіх сяброў, мяне і гэты верш.

## САНЕТ СЯБРОЎ

Зямля чужая, але ўсё ж — зямля:
гагочуць гусі, каласіцца жыта...
Зямля чужая, ды відаць здаля,
што добрымі людзьмі яна абжыта.

Мне радасна, што ў свеце хараства,
у свеце шматгалосся маладога —
тут аб'яднаны пачуццём радства.

І сумна мне, што кожны тут як птах,
што кожнаму зямля радзімы сніцца...
Душа не спадарожніца? — Так, так...
Але душа паэта не вазніца.

Калі шуміць у целе добры хмель,
мая душа — душа усіх зямель.

## * * *

Ад разлукі — нібы ад разрухі —
ты мяне як магла берагла...
А твае пералётныя рукі
дбалі ўжо аб чужых берагах.
О, жанчына суровага веку,
заклінаю цябе і малю:
мне, спакойнаму чалавеку,
адпусці ўсёмагутнасць маю.
Адпусці вышыні —
колькі можаш —
на няўтульнай планеце надзей,
каб не стаў для кахання
апошнім
нараджэння ягонага дзень.

## АДСУТНАСЦЬ

Я тут не быў тры восені зусім!
За нематой высокага парога
мяне ты не прыгадвала... Усім
адказвала: «Не ведаю нічога».

Я з камянёў маланкі выкрасаў,
па бальшаках адгрукатаў нямала,
каб толькі ў цішыні твая краса,
як і раней, пяшчотна красавала.

Я тры гады — не бачыў адкрыцця!..
Дзеля яго, нібыта ў сне, кружыўся
за межамі актыўнага жыцця —
дзеля наступных шчаслівейшых жыццяў!

Спазнаў адно нарэшце адкрыццё —
з табою падзялюся поўнай жменяй:
чым болей я шаную пачуццё,
мяне ты ўспамінаеш меней, меней...

...Асветленыя месячным сяйвом,
сляды наводзяць на трывожны одум:
я зацямніў адсутнасцю сваёй,
захмарыў нашы сонечныя годы.

Дзе нас няма,— травою забыцця
адсутнасць наша буйна каласіцца...

Разбуджаны няўтольнасцю жыцця,
о, пошук, не дазволь мне паўтарыцца!

* * *

Нарэшце апынуліся мы разам!
Я,
  узагрэты радасцю такой,
вясёлыя гісторыі расказваў,
на вусны пазіраючы тайком...
О, як я прагнуў
                    хоць на міг
                                    прыгубіць
тых вуснаў жыватворнага агню,
каб да апошніх дзён
душу галубіць
ўспамінамі пра святую чысціню!
Як я саромеўся свайго жадання...
О, сэрца ашалелае,— цішэй!
Нялёгка ўпершыню адкрыць каханне.
Каханне зберагчы яшчэ цяжэй.

* * *

Вечар быў задумлівы і шэры,
на душы — перададліжны змрок...
Толькі за вакном шматком паперы
мільгануў бліскучы бугарок.

Не пішу табе лістоў пяшчотных,
сёння субяседнік мой — туга
па цнатлівай чырвані на шчоках,
на слухмяна-трапяткіх руках...

Да цябе ў мяне няма пытанняў,
ёсць загадка, ды і то адна:
пра каго пакутліва, патайна
будзеш думаць сёння давідна...

Зноў у сэрцы выспелі завеі
ад чыіх балесных, крыўдных слоў
і каму твае струменяць веі
зорна-прахалоднае святло?

На душы ў пяшчотнай ясельдзянкі —
вусцішны ды ціхі неспакой,
як пасля запозненай маланкі,
як перад заўчаснай нематой.

* * *

Дзень слатой не імжыць —
б'е маланкамі ў грудзі.
Паспяшайцеся жыць,
болей часу не будзе!

Забывайце на ўсіх
дружбакоў выпадковых...
Думкі думайце ўслых,
каб пачула наўколле.

Хай усцешыць сабой
нарачанская пространь...
Варта жыць, — як з журбой,
так і з радасцю, — проста!

Ні бацькам, ні братам
не зайздросьце ў адчаі...
Нам усім дабрата
трэба ўдзень і начамі.

Нам вядома, — чаму
спакваля, крок за крокам,
шлях свой лёсу чыйму
аддаём ненарокам.

Клятва вернасці ёсць
прад магілай герояў...
Ёсць у нас маладосць —
бездакорная зброя!

* * *

Ну, нашто мне твой смех гучыць,
калі нельга яго злучыць
з веснавой залатой зарой,
з вечароваю бірузой?

Ну, нашто мне твой хатні гнеў,
калі ён мяне долу гне?..
Абывацелі, бы сычы,
не спыняюць за мной сачыць.

Але ў вокнах — мая зара!
Самалёт мой яе ўзараў!
Б'е мне ў грудзі мая ірдзень!
Самалёт даганяе цень...

Мець жадаю такіх сяброў,
каб яднала сяброў любоў!
Каб пасля без хлусні, прыкрас
гаварылі сябры пра нас...

Мне да сэрца сяброў гульба,
калі ў кожнага на губах,
хочаш — гронкі суніц спялі,
хочаш — скруху сваю спалі!

Гэй, калегі, за стол — гусцей!
Я люблю дарагіх гасцей.

...Дык навошта твой смех гучыць,
калі нельга яго злучыць
з веснавой залатой зарой,
з вечароваю бірузой?

* * *

У разлуцы я марыў нясцерпна
Пах далоняў тваіх піць нагбом...
А між намі — цвярозая цемра
І маўкліва-ўтрапёны агонь.
Дык адмоўся ад змрочнае сілы,
Ціха выйдзі на чысты прасцяг.
Пасярод расхвалёванай сіні
Прагучыць нашай песні працяг...
Адшукай маладымі вачыма
Мой гарачы і стомлены след —
Немагчымае стане магчымым,
Як адкрыецца вольны свет.
І сканае халодны вечар
Там, за вогненнай паласой...
І расплешчацца ранак вешчы
Над планетай жывых лясоў.
Зноў на промнях вясны палескай
Затрапеча твая каса.
Зноў між намі паспее песня
Без пачатку і без канца.

* * *

Мне вымавіць тваё імя —
што з галавой у прорву.
Усё — астатку больш няма! —
пазначана пароўну.

Мне — голай сутнасці зіма,
табе — вясна ілюзій.
Не абароніш іх сама —
не апраўдаюць людзі.

А я ганю — не праганю
яе, рэальнасць злую,
хоць да свайго плыву агню,
адным крылом вяслую...

Так абжываю новы край,
свабодны і бязлюдны!
Я пакараў сябе — карай
і ты сябе ў дзень судны.

Жыццё мне — самараскрыццё,
бязлітасная споведзь:
хоць памыляўся, ды з жыццём
не абарвана повязь...

А ўспомню, што цябе няма
на гэтым узбярэжжы,
драпежны птах — тваё імя! —
свет напалам разрэжа.

* * *

Прыгажуня ў ружовым плацці!
Будзь шчаслівай — ды не са мной!
Прахалода лагодзіць пальцы
развітальнаю чысцінёй.

Чым цікавіўся,— расказала,
і нічога тут не змяню
і паспешліва на вакзале
сам адкрыюся — не зманю...

На вагон пагляджу з'інела
і падумаю так, як ёсць:
па-зімоваму адзвінела
наша позняя маладосць!

Вечаровую прахалоду
замаркоціць адзін матыў:
я цябе назаўжды праводжу,
назаўжды — пакідаеш ты...

* * *

Яшчэ адна магіла безыменная,
яшчэ адна бязмерная загадка!
Спыняюцца адста́ўнікі ваенныя,
і следапыты, і ўдава-салдатка...

І кожны-кожны, хто яе наведае,
суровымі пачуццямі скаваны:
няўжо ніхто, няўжо ніхто не ведае,
урэшце, хто тут безыменна пахаваны?

Глухая тайна смерці невядомай
і мне гарачым грузам грудзі цісне...

Магчыма, той ляжыць у гэтым доле,
хто бараніць ішоў маё дзяцінства...

А калі той, які сваю істоту
спаліў крывёю мсціўцаў, што прадаў ён,
і нават у магіле, пад асотам,
не адшукаў для здрады апраўдання?!

Яшчэ адна магіла безыменная —
у лазняку, завеямі расхрыстаным...
Не супакоіцца ва мне стыхія ўзвейная,
пакуль не дакапаюся да ісціны.

* * *

Калі б попел не напамінаў аб
пажарах,
а цішыня — аб выбуховым громе,
калі б паветра ачысцілася нарэшце
ад паху крыві;
калі б я спакойна мог глядзець
на вечарова-велічнае неба,
не чакаючы небяспекі,
о, як бы я цудоўна адпачыў!
Пайшоў бы ў тэатр
ці ў чытальную залу,
слухаў бы сімфонію
ці гуляў бы ў шахматы...
Але —
што сімфанічны канцэрт
перад гулам стратэгічных
бамбавозаў!
Але —
што ўсе бібліятэкі
перад штодзённай кнігай
чалавечых страт.

## МЫ, САЛДАТЫ...

Мы, салдаты,—
тых маці сыны,
чые думкі
вайной стрыножаны.
Да іх ноччу прыходзяць сны
успамінам трывожным.
Страшны голас вайны —
самы цяжкі
з усіх галасоў.
Маёй маці гэтыя сны
прыбаўляюць сівых валасоў.
Маці марыць
пра шчасце сынава,
маці ўнукаў мець спадзяецца.
Мы, салдаты,—
салдатак дзеці,
набліжаем тую часіну,
калі зброю,
нібыта цацку,
кінуць людзі
ў марскія хвалі.
Будзе ў кожнага сына бацька.
І не будзе больш пахаваных!

## НА РАДЗІМЕ ВІНЦЭНТА

Прыслухайся, Маці-краіна,
як вусцішна — колькі ўжо год,
вітае Зямля свайго сына,
Зямля бласлаўляе ў палёт.

Скарынаву веліч мусова
нам словам азначыць — якім?
Ды слоўнік бяссільны, бо слова
няма адпаведнага ў ім.

Ёсць шчырая слава ў паэта,
спакою ў паэта няма.
Нябесным агнём абагрэта
ягонае Музы імя.

Сягоння на гэту паляну
сабраў нас прарочы твой дар...
Прымі ад нашчадкаў пашану
зямляк — неўтаймоўны дудар!

І кожнаму, хто ні спытае,
дзе жывіцца вечнасці ніць,
хай Люцынкі справа святая
світальна ў душы празвініць!

## ПРЫЙШЛІ

*Ахвярам і героям Чарнобыля*

Як верыў я вяснова і
ашчадна,
мая Айчына верная, табе!..
Сягоння перад памяццю
нашчадкаў
схіляюся ў жалобе і журбе.
Не сон, не сон...
Не прывідныя жахі.
Не міражы... У акне і
на сцяне —
аблокі, як атрутныя вужакі,
сівыя птушкі ў чорнай
сіняве.
А за сцяной — як боязна
спазніцца! —
Гарлае зноў гарловы
«марафон».
Ад стадыёна да маёй
бальніцы
запаланіў усе дарогі ён.
Яны ішлі тым палыновым шляхам,
які не зарасце і праз гады,
які не стане дабрадзейным
прахам,—
бацькі і дзеці, сёстры
і браты!..
Палескі край, Пасожжа,
Прыдняпроўе!
Пытацца буду, хоць
не спыніш час,
якою — грэшнай ці нявіннай —
кроўю,
хто апраўдае ў будучыні
нас.
Ды верыцца надзейна і
вяснова,

як гэтай вечна-нерушнай
траве,
што залатое слова
Багаслова
ланцуг хлусні-маўчання
разарве;
што гора адбаліць, боль
адпалае,
сустрэнуць рэха нашы
галасы...
Няздарма па-над Прыпяццю
кувае,
канаючы,— зязюля — ад
расы...

## СЛУХАЙ, ШАФЁР...

Аўтобус, бы човен, плыве па асфальце.
Людзі спяшаюцца — цесна, млосна.
Да мяне прыхінулася маці.
Ёй вёрстаў нямала прайсці давялося,
каб пабачыцца з воінам-сынам...
О сэрца матулі, клопатамі стрыножанае!
Гляджу я ў матчыны вочы сінія —
пяшчота агортвае.
...Але трывожна мне —
аўтобус імчыцца, аж стогнуць шыны.
Абапал дарогі — лес сцяною.
Слухай, шафёр: не гані так машыну —
маці старэнькая побач са мною.

## КАРАВАЙ

*У. Паўлаву*

Палажыце каравай на жыце,
перад маладымі палажыце!

Палажыце на стале-абрусе,
выпяканы ў радасці — не ў скрусе.

Вырастаў ён, слаўны, за гарою —
быццам месяц з чыстаю зарою.

Ясны месяц — малады Іванка,
а зара-зараначка — Мар'янка...

Каравай, убраны ў руту-мяту,
барадаты сват прынёс у хату.

Хай жаніх з нявестаю-красуняй
паспытаюць шлюбны пачастунак!

Ды спярша — паклон-падзяку маці,
што снуе, бы сонейка, па хаце.

Потым, прад вясельнаю нядзеляй,
урачыста каравай падзеляць...

Ну [redacted] мы, хаўруснікі і госці,
маладому шчыра пазайздросцім.

Дапазна — пакуль спяваюць зоры,
не заснуць нам — весела ў каморы!

Заўтра будзем шчасцейка жадаці,
падарункі гожыя даваці...

Каб жылося ім — як на пасадзе:
дзеці ў хаце, салаўі — у садзе!..

Быццам ружу, каравай на жыце
перад заручонымі лажыце.

Каравай вясельны — цвет мядовы,
хай заўжды красуе ад любові!

* * *

Напэўна, небам ты была калісьці,
лагодным небам над маёй калыскай,
бо я і сёння ў позірку тваім
уздрыгваю і плачу кожнай рыскай;

затым заззяла сонцам залатым,
якое аддае праменне тым,
хто жыў і памыляўся бескарысна
ў краіне ўсёмагутнай праваты.

Калі ж ты станеш, як і я, зямліцай,—
хай застанецца хоць адзіны друг,
што прыйдзе той зямліцы пакланіцца...

Як не сустрэне міласэрных рук,—
няхай не пабаіцца памыліцца
Ён — чалавек, ягоны сын ці ўнук...

## ГАРЫНЬ

*А. Кудласевічу*

Прастора!..
Зяленіва жытняга мора
вяслуе даверліва-спеўна —
туды, дзе разводдзе,
не знаючы зморы,
бушуе пагрозна і гнеўна.

Стагі — пад вадой
напамінкам аб лецe —
былі яшчэ ўчора сухімі...
О, вецер,
ты — самы магутны на свеце,
спыні наступленне стыхіі!
У цемрыве ночы ён дзіка рагоча
і хвалі шпурляе раўніва — пад ногі і ў вочы...
І двойчы, і тройчы!
Затоплена хлебная ніва!..

Цяклі ж як на згубу
да Прыпяці горкай
тры сотні,
дзве тысячы рэчак...
Ды толькі — як зорка,
Гарыньская горка
мігцела самотна ў цямрэчы.

А раніцай людзі
на свет ціха выйшлі —
ахвярна, маўкліва і дружна!..
Паводка шугала!..
Адзін Усявышні
глядзеў раўнадушна.

Глядзеў,
як змяшаліся хмары і стронцый,

людская даверлівасць,
слёзы...
Паклон, дружа,
нашай гаротнай старонцы!
Праклён ды «багам» безгалосым!

* * *

Матуля, хараство тваё не раз
якія песнятворцы не ўслаўлялі!
І твой пагляд, і голас твой ласкавы
гучаў на мове дабрыні ў адказ.

Усё стрывала сэрца ў грозны час:
журбу і гора, сынавы забавы...
Павер, не для выгод, не дзеля славы
цяпло любові матчынай — для нас!

Чаму ж, чаму мне так ніякавата
глядзець, як нехта плача вінавата
над каменем магільным: — Ма, даруй.

Як хтосьці шэпча: «Спі спакойна, мама»,—
як падае маланка-тэлеграма
сухім лістом на жухлую траву...

## ПЕСНЯ

Ты запей, запей, жавароначак...

I

Калі Пархоменка спявае,—
здаецца, песня працінае
навылет цела і душу;
хоць я стаю на светлым лузе,
мяне чамусь мінаюць людзі,
чым даверам даражу...

Стаю — нічога не кажу.

«Засеяла дзяўчынанька думанькамі поле,
чорнымі вачыма дый завалачыла,
дробнымі слязамі ўсё поле зрасіла.
— Ой, мілы, глуміўся ты мной:
сеяў палын на маім сэрцы
ды клаў агонь на маіх плячах,
рабіў скрыпкі ды з маіх рук...»

II

Калі Пархоменка спявае,—
здаецца, мама ўспамінае
свой гарацешны лёс, той час,
які прымусам ды чужынай,
у сорак трэцім дамавінай
не абмінаў, пракляты, нас!..

Нічога не скажу ў адказ...

«Прывыкайце, чорны вочы,
адны начаваці:
няма майго міленькага,
няма з кім размаўляці.

Няма майго міленькага,
няма гаспадара,
каму бы я пасцелечку
пухаву заслала.

Даўно свайго міленькага
ў паход выпраўляла,
з тых пор свае чорны вочы
слязьмі выцірала...»

III

Калі Пархоменка спявае,—
здаецца, грудзі спавівае
тым кужалёвым палатном,
што берасцейскія дзяўчаты
мяне абвязвалі,— на свята
я быў ім сватам-каралём!

Рунела песня за сталом:

«Колькі на небе зорачак —
то на караваі шышачак,
як на небе ясныя —
то на караваі красныя.

Яшчэ ў нашым караваі
да сямі нівак пшаніца,
да сямі крыніц вадзіца,
да сямі сальніц сальніца.

Да сямі сальніц сальніца,
да сямі курак яечка,
а навокал — сыр і масла,
пасярод — доля і шчасце!»

Калі Пархоменка спявае,—
ўсё пераражытае ўсплывае...

## ВЕЛІЧ МАКСІМА

### I

Вакол мяне кветкі прыгожа красуюць.
Маркотна між іх я хаджу адзінок...

*М. Багдановіч*

Пра што ні думаю цяпер,
пра што ні гавару,—
край блаславёны,
да цябе
схіляю галаву.

Тут — ані сябра, ні радні,
у галасах адчай;
мігцяць халодныя агні
ў расхрыстаных вачах.

З грашамі ты — сам д'ябал друг!
Хоць у трубу трубі —
ляцяць жыўцом з наіўных рук
рублі, як вераб'і.

Няма рублёў — глухі, нямы,
каціся ў бруд і пыл...
Тут нават кветкі, як дамы,—
ўсе на адзін капыл.

Усе кудысьці — угрунём!
Куды, каму нясуць
свой тлум бязладны,
бляск і гром,
бяссонна-сіні сум?..

Пра што ні думаю цяпер,
пра што ні гавару,—
мой родны краю,
да цябе
схіляю галаву!

II

Паломаны жыццём, чакаючы магілы...

*М. Багдановіч*

Як ні чакаем смерці мы,
яна заўжды прыходзіць рана.
І думкі аб магіле раняць,
як ні чакаем смерці мы...

Таму вось і пішу старанна
я два радкі сярод зімы:
«Як ні чакаем смерці мы,
яна заўжды прыходзіць рана».

III

...Хай судны час настане,—
Спакойна Музе ён і проста ў вочы гляне.

*М. Багдановіч*

Прыслухайся, Маці-краіна,
як скрушна — каторы ўжо год!..—
Зямля прыняла свайго сына,
Зямля благаславіла ў палёт.

Максімаву веліч мусова
нам словам азначыць — якім?
Ды слоўнік бяссільны, бо слова
няма адпаведнага ў ім.

Ёсць «вечная бухта» ў паэта,
спакою паэту няма...
Нябесным агнём абагрэта
ягонае Музы імя.

* * *

Прыгнула інеем бярозу,
галлё настылае звініць.
Набухлі дзверы ад марозу,
ды так, што цяжка адчыніць.

Рукой кранеш і — недарэчы
аб клямку апячэш далонь.
Там, дзе з Тамарай боль сустрэчы,
мігціць за шыбамі агонь.

Іграе водбліск ружаваты
на тонкім шкле, ва ўсіх кутках,
нібы румянец вінаваты
на маладых яе шчаках.

А помніш, Міша, як стаялі,
адным накрыўшыся плашчом,—
шчыглы ў галінах шчабяталі,
як вераб'і перад даждЖом.

І чуўся голас з верай шчырай
прад блізкім сіверам зімы:
— Як вернецца вясновы вырай,
з табою разам будзем мы.

І сёння шыбінай марознай
не разлучыў суровы лёс.
Хоць дочкі выраслі,— не позна
кахаць у слоту і ў мароз.

Табе, Міхась,
заўсёды быць...
Заўсёды бы...

## ПАМЯЦІ МІХАСЯ СТРАЛЬЦОВА

Між надмагільных
шэрых пліт
я адшукаў, дзе друг мой
спіць...

На камені агнём зары
ягоны высечан абрыс.
Пад тонкім сябравым абрысам —
дзве даты: нараджэнне, смерць.
Між датаў тых кароткай рысай
жыццё пазначана цяпер.
Біёграф бы ў архіў зарыўся:
«А што за рысай?..»
Я адкажу: за тою рысай —
таварыша трагічны лёс,
якому ён не пакарыўся:
ні змрочнай роспачы, ні слёз!
У памяці і ў снах маіх
яго жыццё — маланкі міг.
І ніякой, паверце, смерці
яго не выкрасліць — не сцерці.

## СТЫХІЯ

*Памяці Яўгена Крупенькі*

Млосна, амаль невыносна
слухаць, па грудзі ў траве,
як на высозныя сосны
звон стогалосы плыве.

Музыка ранішніх промняў
строма трапеча ўгары
і разліваецца роўна
па бурштыновай кары.

Моцна, выразна, арганна
ў згодзе струменяць ствалы
з неба, нібы з акіяна,
светлых мелодый валы...

Ценькае, свішча, спявае,
кліча, шчабеча, раве,
хвалямі зноў наплывае
і прападае ў траве!

Тут, загайданы гадамі,
спіць твой busліны пар,
як развінаюцца далі
над старажытным Дняпром;

як і пагрозна, і слёзна
край ад крыві палавеў...
Зноў на світальныя сосны
звон стогалосы плыве!

Сіла стыхіі суровай,
не заглушы — зберажы
ўсё, што не выказаць словам,
тое, што спее ў душы...

* * *

Шыпшыны куст — калючак не злічыць,
у садзе мак агністы, ды — п'яніць;
вунь маладзік — ён холадна блішчыць,
у белай цішы звон залеўны спіць...

Прыгожая, а змрочная — сасна,
духмяная, з атрутай — бузіна;
цудоўнай ноч была, але — адна,
хоць яркая маланка — міг яна!

Так з праўдай заручоная мана
прыцягвае — аж млосна галаве,
бо ў нас, людзей, мізэрная цана
ўсяму таму, што к нам само плыве...

І што нам неба грознае аблічча,
калі прад ім агні зямлі крынічаць!

* * *

Ці не таму даўжэлі нашы зімы,
што кожны раз пазніўся крыгаход,
што міма нас абрысамі радзімы
плылі аблокі ўсе на ўсход, на ўсход...

Ці не таму, што дух мой не растрачан,
я паступаю ненаўмысна так:
маўчу, калі навокал енк сабачы,
крычу, калі на сэрцы — немата.

## ДА МАЦІ

Неба — чыстае і высокае,
сонца коціцца па пляцу...
Я на двор стрымгалоў выскокваю...
Я бягу... Не бягу — лячу!

Сэрца стукае,
быццам дзяцел,
аж заходзіцца — так дзяўбе...
О, часіна спаткання з маці,
благаслаўляю навек цябе!

Блаславяючы, прыгадаю
калыханкі твае напеў —
ён пяшчотней гучыць з гадамі,
з кожным разам гучыць мацней!

Зноў прыгадваю дзень вясковы:
слова «Ма-ма», бы адкрыццё,
я па гуках склаў...
Гэта слова
стала першым на ўсё жыццё.

І пазней,
калі ў полі жніўным
падаў ніцма, ды і цяпер —
у прызнанні сваім наўным,
мама, думаю пра цябе!

Благаслаўляю твой хлеб і рукі,
што працягнуты з поўнай місай,
голас, поўны журбы-дакукі:
«Як жывецца, сынок? Стаміўся?..»

О, якое для сына шчасце —
кожны позірк твой, кожны гук!..
Я з табой разлучаўся часта,
каб зусім не было разлук.

Не трывожся
і вер таксама
ў мой зваротны і светлы шлях.
Я святы запавет твой, мама,
твой адзіны жывы працяг...

## САНЕТЫ

### I

Я не магу, каханая, нічым
утаймаваць душэўную палярнасць.
Ты — дня майго засмужанага радасць,
я — боль тваёй маланкавай начы.

Усё ў мяне з табой упершыню:
на золку — споведзь, вечарам прычасце...
Мы — дзве ракі, напоўненыя шчасцем,
мы — дзве рукі, што мкнуцца ў вышыню!

Я — сноў тваіх і летуценняў цень,
ты ж — зорка найвялікшае жадобы,
якая мне відна і ў хмарны дзень.

Яна гарыць агнём жывой аздобы,
каб я ніколі не губляў надзей
ні ў час уцех, ні ў журны час жалобы.

### II

Цябе хацеў я з сонцам параўнаць,
якое без прынукі шчодра свеціць
усім жывым і нежывым на свеце...
Каханая, ці ж сонцу ты радня?

Бо кожны дзень і месяц, кожны год
у звыклым і нястомным карагодзе,
куды зайшло — адтуль яно не ўсходзіць,
нябачнае, вяртаецца на ўсход...

Вяртаецца пад покрывам імглы,
дзе мы ніяк сустрэцца не змаглі
за дзесяць, сто гадоў да нараджэння...

Спыніся на світанні, шар зямны!
Хай свет убачыць: росы і званы
ўслаўляюць радасць нашага збліжэння.

III

Сустрэцца пажадаеш — акіян
цяпла знайду ў лядовым акіяне...
Бо што ўсе перашкоды прад каханнем,
няхай сабе атрутным — бы падман!

Расстацца загадаеш — я памру,
палёгкі не знаходзячы ў скананні,
як не знаходзіў радасці ў каханні:
не ў час прыйшло, пагасла не ў пару...

Ды я бяссільны зноўку памыліцца,
бо, як бы ў цішыні ні журбаваў,
мне ад цябе нічым не адмаліцца...

Даверлівасць — гаючае віно:
не лёду акіян, а мора траў,
бязмежжа святаянных траў — яно!

IV

Ні бляск маладзіковы на вадзе,
ні пах баравіковае паляны,
ні з клёна ліст, барвяны і каляны,
што на змярканні долу ападзе;

ні золкі вецер, млявы кагадзе,
ні звон у садзе яблыкаў крамяных,
ні пошум ямбаў пад рукой рахманай,
якімі верш мой гутарку вядзе,—

нішто... ніхто сягоння ўжо мяне
сваім дыханнем, гукам не кране;
я сам — клянуся — з месца не скрануся,

пакуль не буду ведаць: ёсць адна
лагодная душа, што давідна
мяне чакае ў непрытворнай скрусе.

V

О, колькі ўпала на зямлю лісця!
Калі б усё, што вырастае звеку,
было непадуладна чалавеку,
спыніўся б ход адвечнага жыцця?

Не, не! Такі наўкол кругаварот,
такая ўсюды прага раўнавагі,
што кожны ліст апалы без развагі
ўсё аддае наступнаму — штогод.

Ды новае шумлівае лісцё,
шкада, не помніць аб мінулагоднім,
прыбітым да зямлі дажджом халодным.

Мы ж — не лісцё! Аб продках забыццё
не стане нашай прышласці асновай
ні ў час асенні, ні парой вясновай.

VI

Ізноў зіма скавала ў дрэве сок!
Адзін лісток, што нават вецер — міма,
прымёрз да дрэва... О, забыты ўсімі
адзін-адзіны леташні лісток!

Ці ж не такі маёй любві выток?
Бязмоўны лісцік — мне як напамінак
аб навальнічна-велічных галінах...
За летам восень. За вітком — віток.

Ізноў тваё, каханая, гарэнне
ратуе, ахвяруючы, карэнне
маіх садоў ад маразоў глухіх...

Я благаслаўляю рух і чалавечнасць...
Маё жыццё — кароткае, бы міг,
твая любоў — бясконцая, як вечнасць!

## VII

О, як мне страшна прычакаць той дзень:
ты стаў шматком бязлікае істоты,
што ў судны час дрыжыць, маўляў — лістота...
Ты ўжо не чалавек, ты нечы цень!

І мысль твая, падхопленая ветрам,
як дыму слуп,— развеяна ў паветры...

Узбударажаць, апантае кроў
ідэя страху... Як агонь па дрэве,
яна памкне твой клопат без патрэбы;

і чым шчыльней раз'ятраны натоўп,—
прастору больш жаданням ваяўнічым
і лік ахвяр нявінных павялічан...

## VIII

На розных мовах размаўляе страсць.
Вяльможны позірк у адказ не ловіць
пагляд-маленне, вартае любові:
ці мала ў свеце безыменных страт...

Ашчадны і шчаслівы,— тоіць страх
за пачуццё сваё, што прыкіпела
да худасочна-спешчанага цела...
Ад страху нараджаецца кастрат!

Я ж разумею: ёсць яно, Імя,
у кожнай страты, у любой любові —
ёсць горды лёс і голас адмысловы
ў высакароднай страсці, як і ў Слове,
якому маці — горкая зямля,
якому месца на Зямлі няма...

## IX

Як мы падабаемся сабе —
у жыцці, на сцэне, ля мастацтва!
П'ём, гарлаем, скачам, каб — застацца...
І ніхто з нас пыху не саб'е.

Іншы саслабее, аж сапе:
адшукаў знаёмства ці сваяцтва —
пры пасадзе змог прыстасавацца,
стог дзяржаўны пакрысе скубе...

Быць навідавоку, жыць патайна,
нават спаць, бы заяц, запытальна:
а ці хлеб **зароблены** жуеш?

Дзе ты?.. З кім ты і — нарэшце, хто ты —
справы размяняў на анекдоты?..
Што пасееш, тое і сажнеш!

## X

Я — полымя, каханая — бы лёд.
Халодны лёд у вогнішчы праменняў
чамусь не растае — наадварот,
ён камянее ад маіх маленняў...

І светач мой — над прорваю начэй —
не гасне ад завеі пры спатканні,
а толькі разгараецца ярчэй
і спараджае новыя жаданні.

О, што за цуд і што за чарадзей!
Чаму агонь бяссільны перад лёдам,
што раўнадушна да маіх грудзей
прыстаў і непакоіць год за годам?..

Такое права, мусіць, у кахання —
яно змяняе ўсё без пакаяння.

* * *

Налятали вятры лавінай
і шпурлялі мне снег пад ногі...
Прагна сэрца маё лавіла
шчыры голас тваёй падмогі.

Па якой жа, якой арбіце
адшукаў ён мяне праз мілі?
Плыў навалай сляпой разбіты
карабель мой на голас мілы.

Уначы твая хустка сіняя
карабель да сябе прыцягвала...
І па-новаму, з новай сілаю
грудзі поўніліся прысягаю!

* * *

Я помню, як поўнік прынік
да ружы цнатліва-калючай...
Я не рабаўнік — ратаўнік
душы над узвышанай кручай.

Таму і пішу гэты ліст,
бо сёння шкада — і не трошкі —
сініцы заўчаснае свіст
і цвет запазнелай валошкі.

Нішто не паўторыцца больш
у сіняй падлеснай даліне:
ні вусціш сустрэчы, ні боль
зламанай у наквець каліны.

Знікае ў даліне туман —
ніякай рахубы ад згубы...
Былі саладзей за падман
твае спалавелыя губы!

Паверу, што дзень прынясе
не боль — суцяшэння ўспаміны;
ды ў кожнай сірочай слязе
мне бачыцца снег той каліны.

* * *

Каб быць шчаслівым,
шчасце аддаю —
табе!..
Твая любоў —
на ўзроўні сэрца...
Тут —
бачу постаць стройную тваю,
там —
чую,
голас твой ка мне нясецца.
Сумую,
радуюся,
гавару —
ва ўсім
тваё шукаю падабенства...
Лячу з гары,—
здаецца,—
на гару,
ўгару іду —
лячу,
здаецца,
ў бездань.
Што космас,
што зямля —
гармонія адна!..
Сціскаюся ў кулак,
брыду дахаты...
Стаю —
як снежны дэман —
ля акна,
дзе замарожана тваё дыханне...

* * *

Мне б вашы вусны — мёд бы піў
ды запіваў гарбатай,
адну-адзіную любіў
і быў бы тым багаты.

Мне б вашы вочы — іх, як вы,
не апускаў бы долу;
ад іх світальнай сінявы
не цьмеў бы свет ніколі!

Мне б вашы рукі — прад маной
іх не падняў бы ўгору;
сябры віталіся б са мной
у радасці і ў горы.

Мне б ваша сэрца — на далонь
не пакладу я сэрца.
Не для таго яго агонь,
каб мог нягоднік грэцца!

За кожны позірк свой і рух,
за думку ў кожнай фразе,
за чысціню душы і рук
я прад людзьмі ў адказе.

## РАСПЛАТА

Ні слуху ад цябе,
ні духу...
Калі жывеш —
дык з кім і дзе?
Я расказаў бы скруху
другу —
друг не ідзе.
О, крык той рэўнасці
адкрытай —
Як выбух —
аглушыў цябе...
Як ля разбітага карыта,
маўчу цяпер.
Цяпер ніхто не патрабуе
палаць,
трывожыцца,
цярпець.
Не пазаве,
не патрабуе
ніхто цяпер.
На гордасці маёй распята
твая нявінная душа.
І адзінота —
як расплата —
ка мне прыйшла...
Я ненавіджу адзіноту
і гэты змрочны,
млосны шум —
што, як няўцямную работу,
ў грудзях нашу.
Таму,
што цяжка жыць без веры
сярод няспраўджаных
надзей,
пакорліва гляджу на дзверы
ўначы і ўдзень.

Наўмысна пакідаю
                    дзверы
адкрытымі —
ўначы і ўдзень.
Хвалююся,
            чакаю,
                    веру.
Ты ж не ідзеш.
Ты ж не ідзеш...
Галосіць немата —
як быццам
тваёй душы няма нідзе.
Заснуць спрабую,
                    каб забыцца...
Сон не ідзе.
Сон не ідзе...
Пакуль бяссоннае
                    дыханне
тваіх вачэй
ва мне гарыць —
маё пякельнае каханне
павінна жыць,
павінна жыць.

## СКАЗ ПРА ГАЛІНУ

Галіна, ты была такою
гордаю!..
Хмялелі ўсе мы разам,
калі ўслед
табе глядзелі...
Нечакана з горада
прыехаў на «Пабедзе»
мой сусед.
Кроў з каньяком быў
хлопец — так гавораць,
ніхто яму як быццам
не раўня...
Да ранку ён спяваў
нешта пра горад,
за ім раўла-падцягвала
радня.
Праходзіў міма нас
і не спыняўся,
як на чужых, глядзеў
на нас — вясковых.
Ён распінаўся —
быццам распранаўся:
— Люблю цябе,
Галіначка, да скону!
Мы ў кулаках сціскалі
рэўнасць-сілу,
калі цябе, Галіна,
ён катаў
да рэчкі ў легкавушцы
светла-сіняй,
як вочы ў сакавіцкага
ката.
Вяселле... Ох, вяселле!
Бубен бохаў —
нібыта цвік пад сэрца
заганяў.
А малады сядзеў важней
за бога,

здаволенасць пад
важнасцю хаваў.
А сёння ты, пакінутая
мужам,
глядзіш няўтульна з
восенню ў вачах.
Такая блізкая, што
дакрануцца мушу
сваім плячом я да
твайго пляча.
Ты скардзішся:
— Ах горад, гэты горад...
(Нібыта ў ім —
адна з усіх прычын.)
Я так хачу суцішыць
тваё гора
і думаю:
«Тут горад ні пры чым».

## ВЕРШ, НАПІСАНЫ Ў ВАГОНЕ

Як я жыву?
Я так жыву,
што кожную ліхую ноч
лічу апошняй,
развітальнай...

За шыбінай падковамі грукочуць
неверагодныя гады...
Нібыта кантыненты —
гарады
кідаюцца самаахвярна ў вочы.

Аднак,
перш чым заснуць,
я абавязан
вычарпаць да дна пражыты дзень —
пакуль у галаве
ірдзеюць запаволеныя думы.

За шыбінай бязмежнага памеру —
гадоў шалёных шпаркая гайня...
Да непазбежна-гібельнага дня
павінен я мінулае праверыць.

«Ці вырасціў ты дрэва
хоць адно
ў дуброве роднай,
на зямлі бацькоўскай?
Лясы тваёй радзімы
Беларусі
радзеюць...

Ці склаў ты песню
хоць адну
пра свой народ
і для свайго народу?

У рэшце рэшт,
ці ўзгадаваў ты сына,
які б твой шлях прадоўжыў
і які б
не адцураўся мацярынскай мовы?..»

За шыбінай гамоняць людзі,
святлее ускапычаны тартак...
Даруйце, людзі,—
што зрабіў не так,
чаго зрабіць не здолеў —
не даруйце!

Я так жыву,
што кожны новы дзень
лічу найпершым днём...

Чым [redacted] жыву?
А тым вось і жыву,
што ўспамінаю...
Калі за кухлем вогненнага піва
сяджу я
моўчкі
з задуменным сябрам,
што быў калісьці ворагам маім,
я ўспамінаю ворагаў,
якія
клянуцца ў вечнай дружбе...

Калі
пагодлівым нядзельным ранкам
у вышыванай бацькавай кашулі,
шчаслівы,
крочу ад сваёй каханай,—
я ўспамінаю будні адзіноты,
адчужанасці апраметны холад...

Калі ж цалую трапяткія вусны
жаданай,
вернай

незямной жанчыны
і чую сарамлівы шэпт:
«Кахаю...»,—
я ўспамінаю іншую жанчыну,
якая здрадай апякла мяне,
якую ненавіджу...

Я у нястачы шчасце ўспамінаю,
на ворагаў гляджу —
сяброў прыгадваю,
у непагадзь
я помню пра вясну...

* * *

Вось і дзень...
Над узбуджанай плошчай
кучаравіцца сіні дымок...
І світаюць высокія вочы
маладых навакольных дамоў.

Першы дзень...
Толькі трохпавярховы,
што наводдаль,
нахмураны мур
непадступнасцю брамы суровай
нагадаў мне чамусьці турму...

Існавання і смерці граніца
перайшла за мяжу нематы...

Гэты дом называюць бальніцай,
тут часова прапісана ты.

# МІНУЛАГОДНІ ВАЛЬС

Ад вас, мае ўсе клопаты, ад вас,
равеснікі, сярдзітыя і родныя,
я ўвайду ў мінулагодні вальс —
як у ваду лагодна-прахалодную.

Падхопіць, загайдае плынь ракі...
І ўбачу я сваё з'яўленне новае,—
дзе пад сузор'ем Белае Рукі
струменіцца сяйво маладзіковае...

Адчую ў калыханні белых дрэў,
у гуках і дыханні ночы белае,
як ачарсцвелы свет памаладзеў,
як расцвілі пачуцці агрубелыя...

Мне даспадобы той пяшчотны вальс...
Але дзве сілы, што навек разлучаны,
дзве тайны зноўку аб'яднаюць нас:
каханне і канчына немінучая.

Да вас, мае сучаснікі, да вас,
ні вашых, ні сваіх няўдач не помнячы,
вярнуся я у досвіткавы час,
вярнуся я у час панурай цемначы...

## ЭЛЕГІЯ

Цень прадвесняга дня —
смутак мой вечаровы!
Ад відна да відна —
гукі музыкі, словы...
П'ю да дна, да канца
слодыч мілых мелодый —
як ваду забыцця,
як віно асалоды.

Над кудзельнай смугой —
барадатае сонца.
Я — ніколі з табой,
хоць і вольны бясконца.
Так цябе навучыў
твой прарок Заратустра?
Д'ябал нас разлучыў,
хто нас кіне насустрач?!

А былыя сябры —
як пустыя арэхі:
пагукай у бары —
не пачуеш і рэха.
Рызыкую не ўсім —
дабрабытам і славай,
да якіх мне зусім
абы-якая справа.

Я прыйшоў да цябе
не сугнеем няшчасным:
невыносна цярпець,
калі сэрца на часткі...
Я цябе дакараў,
ты ж ці ўсё даравала?
Дык не стой у дзвярах —
бы ў цясніне Дар'яла!..

Цень прадвесняга дня —
смутак мой вечаровы.

Ад відна да відна —
гукі музыкі, словы...
Гэты дзень карацей
за салоўчую песню:
прыгалубіць хацеў —
у грудзях стала цесна.

П'ю да дна, да канца
слодыч мілых мелодый —
як ваду забыцця,
як віно асалоды...
Хоць яно і гарчэй
ад любові расстайнай,
ды ямчэй і ярчэй,
чым жаночая тайна!
Хоць яно і гарчэй,
гарачэй смага-прысак:
не замружвай вачэй —
смутак роспачы высах...

Хай буяе быльнёг!..
Я сумую па часе,
калі побач было
невыноснае шчасце.

## КРОКІ

О, крокі гэтыя —
абцасаў вострых крыкі!
Ад іх ратунку не знайсці нідзе...
Яны дзяўбуць няшчадна,
быццам крыгі,
мой левы бераг —
мацярык надзей.

Няма ратунку,
бо няма спакою
ад крокаў-крыкаў
ні ўначы, ні ўдзень.
Вось так і замярзае паступова
мой левы бераг —
мацярык надзей.

Як рыбіна аб лёд —
зацята б'юся,
а не баюся,
што пайду пад лёд...
Баюся адзіноты і баюся
да вострых крокаў трапіць у палон.

## ПЕСНІ ЗАХОДНІХ ПАЛЕШУКОЎ

### Першая песня Кацярыны

Ціха ў полі, ціха ў лузе,
ціха каля вёскі.
Ходзіць вецер па акрузе,
гойдае бярозкі.
Ой, у полі вецер вее,
маё сэрца штосьці млее.
Нават думкамі прыстанеш,
калі мілага згадаеш.

Ой, вясна-красна,
ружа-кветачка.
Я ў бацькоў адна
доня-дзетачка.
Люлі-люлі, гэй,
весялейшая!..
За дзяўчат усіх
прыгажэйшая.

Адплываюць з неба зоркі,
быццам сны з падушкі.
Сонцам лашчацца узгоркі,
заспявалі птушкі.

Ой, заўсёды так бывае,
калі верна хто кахае,
хто не слухае нікога —
ані чорта, ані Бога!

Ой, вясна-красна,
ружа-кветачка.
Я ў бацькоў адна
доня-дзетачка.
Люлі-люлі, гэй,
весялейшая!..
За дзяўчат усіх
прыгажэйшая.

Ціха ў полі, ціха ў лузе,
ціха каля вёскі.
Ходзіць вецер па акрузе,
гойдае бярозкі...

Ой, вясна-красна,
ружа-кветачка.
Я ў бацькоў адна
доня-дзетачка.
Люлі-люлі, гэй,
весялейшая!..
За дзяўчат усіх
прыгажэйшая!..

**Другая песня Кацярыны**

Пакахала — як веснюю кветку
на змярканні расой паліла...
І паклічу я любага ў сведкі,
і паклічу каханага ў сведкі,
што няшчыраю з ім не была.

Плыве човен, вады повен,
не відно да краю...
Хто каму ў каханні ровен,—
долю запытаю,
долю запытаю.

Пах шыпшыны і яблыкаў спелых,
звон расы ў маладым мурагу,
на світанні салоўкавы спевы,
я ніколі салоўкавы спевы
палюбіць без яго не змагу...

Плыве човен, вады повен,
патанае ў лозах...
Хто каму ў каханні ровен,
ад каго мне слёзы?
Ад каго мне слёзы?

Ні дакорам, ні горкай замовай
я каханага не папракну.
Каб на камень не падалі словы,
тыя ціхія, шчырыя словы,
што ўпрыгожылі нашу вясну.

Плыве човен, вады повен,
знікла дно клянова.
Хто каму ў каханні ровен?
Словы песні новай.
Словы песні новай...

Плыве човен, вады повен,
да ракі Дунаю.
Хто каму ў каханні ровен,
песню запытаю,
песню запытаю.

**Песня карчмара**

Вунь шынок мой — пры дарозе,
даставай, што ёсць у возе!
Келіх брагі, кварта зелля
гарантуюць рай-вяселле.
Той не весел, хто не п'ян,
у карчомцы — кожны пан!
На вяселлі ўсе сваты,
каля пляшкі ўсе браты!

Самагон мой — першачок,
хто не п'е — той дурачок.
Усявышні так гавора:
алкаголік — гэта вораг...
Каб нячысціка любіць,
трэба моцны чэмер піць!
Далібог, кульнуў бы й бог,
каб спусціцца з неба мог...

Паглядзеў бы, што за дзіва,
а не кпліва,— ён на піва...

Выпіць хоча нават кот,
каб яму наліў хто ў рот.
Той удзень спіць і ўначы,
хто пакрэктвае, п'ючы...
Самагон мой, самагон,
хто не п'е — хай выйдзе вон!

Вунь шынок мой — пры дарозе,
даставай, што ёсць у возе!
Келіх брагі, кварта зелля
гарантуюць рай-вяселле.
Той не весел, хто не п'ян,
бо ў карчомцы кожны — пан!
На вяселлі ўсе сваты,
каля пляшкі ўсе браты!

**Песня манаха**

Я — манах, шырэй дарогу,
хто яшчэ гаруе?
Рай нябесны, слава богу,
мне грахі даруе.
Рай нябесны, слава богу,
мне грахі даруе!

Хто мяне частуе,
той не пашкадуе.
У нябесным раі
ўсіх любоў чакае,
ўсіх любоў чакае.

Чорту стаў бутыль ці свечку —
адзін д'ябал будзе.
Хто мне пеўня ці авечку,
выйдзе той у людзі.
Хто мне пеўня ці авечку,
выйдзе той у людзі!

Хто мяне частуе,
той не засумуе.

У нябесным раі
весялосць чакае,
весялосць чакае.

Плача маці, стогне татка,
хворы дзед завойкаў...
Няма рады ад падаткаў
і ад пана войта.
Няма рады ад падаткаў
і ад пана войта!

Хто мяне частуе,
той не забядуе,
таго ў божым раі
шчасцейка чакае,
шчасцейка чакае.

Хто мяне частуе,
той не забядуе,
таго ў божым раі
шчасцейка чакае,
шчасцейка чакае!

**Песня Сцяпана**

Белы голуб сеў на галаву,
што ты скажаш таму голубу?
Можаш плакаць, можаш вохкаці —
не прагнаць, не напалохаці...

Не шукай, сыночку,
дзеўку у цянёчку
і не ў карагодзе,
але ў агародзе.
У полі на ніве,
на шырокім жніве...

Сеў той голуб, не лятаючы,
прыгняздзіўся, не пытаючы.

Атуліўшы моўчкі крыламі,
прыгалубіў шыза-белымі...

Не шукай, сыночку,
дзеўку у цянёчку
і не ў карагодзе,
але ў агародзе.
У полі на ніве,
на шырокім жніве...

Чаму рана, гэтак раненька
прыляцеў ён як паранены?
Белы голуб сеў на галаву...
Што ты скажаш таму голубу.

Не шукай, сыночку,
дзеўку у цянёчку
і не ў карагодзе,
але ў агародзе.
У полі на ніве,
на шырокім жніве...

Не жаніся, сынку,
на скорую руку —
май на ўвазе, сынку,
бацькаву навуку.
Май на ўвазе, сынку,
бацькаву навуку!

**Песня таўкачыка**

Я на свет гляджу харобра,
мяне сорам не скубе.
Што ні робіш — усё добра,
калі гэта для сябе.
У таго не жонка — кобра,
хто віно і піва п'е...
Што ні робіш — усё добра,
калі гэта для сябе!

У нядзельку неспадзеўку
знойдзем дзеўку маладзеньку,
каб прыгожа і багата,
але трошкі,
але трошкі,
але трошкі — дурнавата.

Вунь стары, з жабрацкай торбай —
ад гарэлкі ледзь сапе...
Што ні робіш — усё добра,
калі гэта для сябе.
Нас манах-махляр не згорбіць,
галадранец не саб'е...
Што ні робіш — усё добра,
калі гэта для сябе!

У нядзельку неспадзеўку
знойдзем дзеўку маладзеньку,
каб прыгожа і багата,
але трошкі,
але трошкі,
але трошкі — дурнавата.

Я на свет гляджу харобра,
мяне сорам не скубе.
Што ні робіш — усё добра,
калі гэта для сябе.
Нас манах-махляр не згорбіць,
галадранец не саб'е...
Што ні робіш — усё добра,
калі гэта для сябе!

У нядзельку неспадзеўку
знойдзем дзеўку маладзеньку,
каб прыгожа і багата,
але трошкі,
але трошкі,
але трошкі — дурнавата!

**Песня суддзі**

Я суддзя, мне суд правесці —
гэта вам не лапаць сплесці.
Напляваць на ўсе законы,
калі вы са мной знаёмы.
Я — суддзя! Невінаваты,
калі дуж ты і багаты.
У каго кішэнь паўней,
для таго і суд спраўней.

Наш закон такі, як дышаль:
куды звернеш, там і выйшаў.
Наш закон такі, як дышаль:
куды звернеш, там і выйшаў!..

Я — суддзя. Заўсёды чысты,
бо ў юрыста д'яблаў трыста.
Вельмі лёгка з тым судзіцца,
хто Ўсявышняга баіцца.
Я — суддзя! Каму — астрог,
каму, Бог пашле,— пірог...
Проста так на трон не ўзлезеш:
не падмажаш — не паедзеш.

Наш закон такі, як дышаль:
куды звернеш, там і выйшаў!
Наш закон такі, як дышаль:
куды звернеш, там і выйшаў!..

Я суддзя, мне суд правесці —
гэта вам не лапаць сплесці.
Напляваць на ўсе законы,
калі вы са мной знаёмы!
Я — суддзя! Невінаваты,
калі дуж ты і багаты.
У каго кішэнь паўней,
для таго і суд спраўней,
для таго і суд спраўней!

* * *

Начныя птушкі пагасілі зоры.
Аблокі даганяючы, ляцеў —
як промень, ззяў у ранішняй прасторы
твой урачысты, летуценны спеў.

Зязюлі змоўклі, салавей не цёхкаў.
Тут цішыня без іх як навіна...
І я ўздыхнуў упершыню з палёгкай —
мне чуць твой спеў ніхто не замінаў.

Адной любові голас уладарыў!
Але — нарэшце зверху ўдарыў гром;
ён, з ветрам у хаўрусе, так ударыў,
што ўсё перавярнулася суздром.

Скакалі скалы, рэкі ракаталі,
зліліся гук і свіст на ўскоце дня.
І каб начныя птушкі не рыдалі,
за іх спявала ў паўзах цішыня.

## СОН

Тры ночы запар — грошы, грошы...
Хоць ты ў ахапак іх грабі!
Нібы лісцё з-за агароджы,
ляцяць купоны і рублі.

Яны ляцяць у бруд па волі
сляпой віхуры і дажджу.
А я спакойна і паволі
па мешаніне той іду.

Я ў сне, нібы наяве, бачу,
што нехта наўздагон бяжыць
і ледзь не плача, ледзь не плача
і штосьці няўцямнае крычыць.

Мяне сутонліва мінае,
крычыць і шэпча неўпапад...
Ніхто яму не замінае,
звініць вячысты лістапад!

І вось, лісты ў ахапак згробшы,
ідзе ён ціха, быццам цень...
Тры ночы запар — грошы, грошы...
Хутчэй настань, мой чысты дзень!

* * *

З правага боку — цёмныя вокны.
Людзі, няўжо вы шчаслівыя гэтак,
што можаце спаць спакойна?

А можа, для вас адзіная ўцеха —
ваш безмяцежна глыбокі сон?

З левага боку — светлыя вокны.
Людзі, няўжо вы бадзёрыя гэтак,
што вам не да сну?..

А можа, каб справы давесці да ладу,
вам не хапае дзённага часу?

* * *

Я й сам не магу перайначыць
жыццё нават блізкіх людзей...
А нехта спрабуе прадбачыць
мой лёс і мой заўтрашні дзень!

Прадбачце, але — не сурочце:
пахукайце ў рукі спярша.
Прабачце мне дзіркі ў сарочцы,
таму што ў іх свеціць душа...

* * *

Не шкадуй жа яго і не кліч,
маладога, дасужага, дужага!
Стане горка — не плач, а павер,
што надзеі не ўсе яшчэ страчаны.

Супакойся і ўспомні на міг
захапленне сваё запаветнае...
Намалюй на старым палатне
хату, луг і таполю высокую.

Дык малюй жа, малюй — не зважай,
што вясёлыя фарбы канчаюцца;
покуль пэндзаль у правай руцэ,
сэрца левай рукой падтрымлівай.

Дык малюй жа, малюй жа і вер
у магутнасць натхнення спрадвечнага.
З першым промнем удалым штрыхом
радасць першая увекавечыцца.

Вось тады і выходзь да людзей,
хоць шуміць мітульга неўтаймоўная;
хай журботную ўсмешку тваю
беласнежныя стрэлы пранізваюць!

* * *

Струменіць з-пад калматых броў
сінечаю барвовай
Дняпровых выспаў-берагоў
світанак чабаровы —

ірдзее ў нерушнай красе
і спеліцца на ўлонні,—
пакуль расу не атрасе
мне вецер на далоні...

Яго чмяліны гул і пах —
аж млосна ад сугуччаў! —
павольна стыне на губах
мелодыяй гаючай.

За ім з аддаленых палян
бруяцца ціхім звонам
багун,
сунічнік, дурнап'ян,
шыпшыны ліст зялёны...

Пад баравінаю густой,
у мох схаваны дбайна,
п'е з асалодаю настой
баравічок звычайны...

Я тут таксама за сялом,
у лес іду — бы ў хорам,
напоўнены яго святлом,
жывым птушыным хорам.

* * *

Яшчэ далёка да маёй канчыны...
Ды хто мне скажа,
па чыёй віне
цень таямнічай і чужой жанчыны
усё часцей наведвае мяне?
Хто скажа мне
за гаманкім сталом,
чаму яе пагляд —
нямы, патухшы,
нібыта ўзмах знясіленым крылом
загнанай у няволю гордай птушкі?
І я пытацца буду зноў і зноў
сябе і вас,
                    пакуль не зразумею,
чаму я чую навальнічны звон
у шуме вечаровае завеі...

* * *

Няхай ляцяць імгненні, як часіны.
Учора — ты, назаўтра ■ памру...
Ды немагчыма нам забыць аб Сыне,
які адкрыў нам зорную пару.

Калі ў цябе і вечнасць заглянула,
калі ты ў бездань, значыцца, глядзеў;
ад апраметна-попельнага гулу
ўжо адарвацца больш не захацеў.

Ці, можа, не хапіла божых сілаў,
і воля, аслабеючы, злягла,
і велічную цемру ўваскрасіла,
як памяць, апалёная зямля.

* * *

Калі зямны мой тэрмін завяршыцца,
калі настане час у век пайсці,—
не буду ні прасіцца, ні яршыцца,
хоць пашкадую, што не ўсё спасціг.

Пакорліва-знямажанае цела
аддам прыгожай заўсягды зямлі,
каб і пасля мяне яна квітнела,
каб вы жыццём нацешыцца змаглі.

Але — душа! Душа не памірае...
Ды вам, напэўна, трудна заўважаць —
як з вышыні надхмарнай пазірае,
нібыта зорка, ціхая душа...

Яна з’яўляцца будзе ў вашы спрэчкі
адносна пагадненняў і вайны,
у вашы развітальныя сустрэчы,
у вашы ашчаціненыя сны...

Вам будуць сніцца і баі і святы,
але няўцям, што гэтак жа — як вам:
балюча мне ад кожнай вашай страты
і крыўдна мне за кожны ваш падман.

* * *

Пакіньце адзінае права:
аддаць развітальны паклон
вось гэтым знявечаным травам,
што ўпалі пад струшчаны клён...

Наводшыбе роднай прыроды
прыціснуты ён да зямлі...
Якія былі тут народы?
Якія тут статкі былі?!

Якога стагоддзя бураны,
маланкі планеты якой
прайшлі так няшчадна старанна
па кроне яго маладой?

Тут марылі продкі вякамі
аб слаўнай часіне, калі
падружацца людзі з ваўкамі,
памірацца ўсе каралі...

Пад небам адчайна-чароўным
ніхто больш, ніхто больш не праў
прад гэтай лістотай чырвонай,
прад гэтым пажарышчам траў.

## СУСТРЭЧНЫ ПОГЛЯД

Сутонне сумных успамінаў
ахутала мой далягляд...
Але пачуў я голас сына —
з яго паглядам светла-сінім
ужо сустрэўся мой пагляд...

* * *

Я палюбіў асеннюю імжу,
калі крылатай цішыні літаўры
на барвы лета падаюць, бы лаўры,
лістотай засыпаючы мяжу.

Тут — цішыня, развага і спакой,
там — сумятня і клопат марнатраўны.
Ляціць імжа на стомленыя травы,
ляжыць мяжа між прошласцю і мной.

Ніхто нікога тут не ашукаў!
Аднойчы я прачнуўся на дасвецці:
душа ў сузор'ях, у кішэнях — вецер...
Знайшоў нарэшце тое, што шукаў!

Маўчалі непрыяцелі, сябры.
Жанчына штосьці прытворна мармытала.
І з вуліцы надрыўны гул метала
запаланіў кварталы і двары.

Я схамянуўся, ворагам сказаў:
— Ідзіце прэч! — Сябрам:
— Пастойце злева.

...Каханая сама ў пару залевы
скацілася нябачна, як сляза.

* * *

Да Новага года — хвіліна адна.
За што ж нам прыгубіць сягоння віна?
За шчасце, ці што, каб не мучыцца ў скрусе?
Не веру я ў шчасце, я з ім не ў хаўрусе.

А можа, нам выпіць віна за любоў?
Кахаў я аднойчы — не хочацца зноў.
За гора? Да д'ябла! За гора не п'юць!
За што ж нам глынуць?.. Бо куранты ўжо б'юць!

Ах, так ці не гэтак...
А мне ўсё адно!
Дык вып'ем за тое,
што ў чарках віно!

* * *

Ён пагражаў жыццю,
ледзь-ледзь падрос,
жыццё пакінуць кляўся
ўдзень і ўночы...
Яно ж само
знянацку,
без пагроз
пакінула яго аднойчы.

Павінен кожны
вычарпаць да дна,
што лёс паслаў...
Загадкавая тайна —
у смерці,
што прыйшла на схіле дня,
у вечнасці —
часінаю світальнай.

## З РУСКАЙ

### *Аляксандр* ПУШКІН

### ПРАРОК

Духоўна стомлены зусім,
з дарогі я ў пустыні збіўся,—
і шасцікрылы серафім
на раздарожжы мне з'явіўся.

Нячутным дотыкам, як сон,
павекаў ледзь крануўся ён,—
і іх напоўніў шум і звон:
пачуў я неба хваляванне,
завоблачных анёлаў лёт
і га́даў пад вадою ход,
лазы ў даліне прарастанне.

І каля вуснаў ён узнік
і вырваў грэшны мой язык,
і пустасловы, і каравы,
і джала мудрае змяі
ў вусны ўклаў і загаіў
сваёй дзясніцаю крывавай.

І грудзі мне рассек мячом,
і сэрца трапяткое выняў,
і жар, з яшчэ жывым агнём,
ён назаўжды ў грудзях пакінуў.

Як труп — ў пустыні я ляжаў,
ды голас боскі загадаў:
«Устань, прарок, як у дазоры,
і словам з іскрамі надзей,
абходзячы зямлю і моры,
запальвай сэрцы у людзей».

## *Мікалай НЯКРАСАЎ*

* * *

Замоўкні, Муза помсты і журботы,
Я сон чужы трывожыць не хачу.
Мне праклінаць жыццё няма ахвоты,
Адзін я паміраю — і маўчу.

Навошта плакаць, гледзячы на страты?
Каб хоць была палёгка ад таго!
Як вязню непадатлівыя краты,
Як рып дзвярэй... — так сэрца стук майго.

Канец жыццю. Глухою навальніцай
Мой цёмны шлях пазначан нездарма.
Заснула неба. Нават промень ніцы
Ў душы не блісне — дзесьці задрамаў...

Чароўны промень новае любові
Я так маліў — наяве, як у сне;
У працы і ў змаганні — жэстам, словам
Я клікаў, а ніхто не чуў мяне.

Нічога не відно ў чужым зеніце,
І ў бездані ні гука не зловіць...
Той сэрцам не навучыцца любіць,
Хто, як і я, стаміўся ненавідзець.

* * *

Святкуе вораг, друг, як вінаваты,
Хітае моўчкі хмурай галавой,
І вы пасталі ўсе ніякавата,
Хто ўчора быў нязменна прада мной,—
Вялікія ў пакутных позах цені,
Аб кім я гэтак горычна рыдаў.
Каля чыіх магіл схіляў калені
І клятву помсты грозна паўтараў...

Бязлікія ж усе, з набітым шлункам,
Спяшаліся ў абдымкі да раба,
Каб зноў яго ялейным пацалункам
Прыклеіць да ганебнага слупа.

* * *

Што ні год — памяншаюцца сілы,
кроў стамляецца, розум здае...
Родны краю! Дайду да магілы,—
не пабачыў бы волі твае!

Ды жадаю я ведаць прад сконам,
што абраў ты праменісты шлях,
што ратай твой над веснім загонам
бачыць ранак пагодны ў палях;

каб задумлівы вецер ад вёскі
гук адзіны да слыху данёс,
у якім не чутно адгалоскаў
чалавечага жалю і слёз...

**БУРА**

Любачка-суседка мне шапнула зранку —
разважала доўга: «Ведаеш альтанку
ў садзе... Як сцямнее — разумееш ты?..»
Я чакаў пакутна шчырай цемнаты!

Кроў жа — маладая: закіпіць — не жарты!
Ды пад вечар зблытаў мне Ўсявышні карты...
Неба аблажыла хмарамі кругом...
Ўдарыў дождж залеўны — пракаціўся гром!

Я нахмурыў бровы, на душы — адчай:
«Сёння з ёй сустрэцца — нават не жадай!»
Ах, галубка Любка — дзеўка-чараўніца,
За вароты ў буру выбегчы баіцца.

Пэўна, навальніца б ёй не замінала,
Каб яна, паненка, моцна пакахала...
Але ўсё ж, самотны, крочу я ў альтанку,
Падышоў і бачу — Любачку-каханку!

Вымакла да ніткі, скалянелі ногі...
Мне было прыемна абагрэць нябогу!
Ды з той ночкі болей броваў я не хмуру,
Усміхнуся толькі, як пачую буру...

## ЗІНЕ

Ты яшчэ на шчасце маеш права,
Я ж — у ланцугу бяды маёй.
Я памру — мая пагасне слава.
Не здзіўляйся — не тужы аб ёй!

Не ў хаўрусе я з бліскучым светам
І табе скажу як прад канцом:
Шкодзілі мне бойкім быць паэтам,
Песні заміналі быць байцом.

Хто, аддаючы пашану веку,
І жыццё за мэту аддае,—
Лёс аблегчыць брату чалавеку,—
Толькі той сябе пераржыве...

## *Аляксандр БЛОК*

### РАСІЯ

Як і калісьці — над краінай
Трымціць кастрычнік залаты,
І грузнуць спіцы ў каляінах,
І размываюцца сляды...

Расія, бедная Расія,
Яны — лаві іх, не лаві,—
Твае напевы ветравыя —
Як слёзы першыя любві.

Не пашкадую, бо не ўмею,
Як і раней, свой крыж нясу...
Якому хочаш чарадзею
Аддай разбойную красу!

Няхай забавяць сны і мары,—
Мінулае не адышло,
І толькі клопат зноў
захмарыць
Тваё прыгожае чало.

Ну што ж? Адной турботай
болей,
Яшчэ адной слязой — гарчэй,
А ты ўсё тая ж — з лесам,
полем
Ды ўзорнай хустай да вачэй.

І немагчымае магчыма,
І шлях — не доўгі і цяжкі,
Калі мільгне з вачэй жанчыны
Ласкавы позірк з-пад рукі
І празвініць журбой айчыннай
Глухая песня з-за ракі!..

## ГРУГАН

Груган за кругам робіць круг,
Груган над сонным лугам
кружыць,
На шэры і пустэльны луг
Глядзіць.— Над сынам маці
тужыць:
«Ня́ хлеба, грудзі на... Расці...
Расці пакорным, крыж нясі».
Стагоддзямі шуміць вайна,
У мяцяжах палаюць сёлы...
А пад крыламі гругана
Гавее край мой невясёлы.
Дакуль жа мацеры тужыць?
Дакуль драпежніку кружыць?

* * *

Была ты пяшчотнай часінай
прадвесняй.
Не крыўдуй на мяне, не кляні!
Мой поезд ляціць, як
цыганская песня,
Як беспаваротныя дні...
Усё, што любіла ты,— міма і
міма...
Наперадзе што? — я не ведаю,
друг...
Усё блаславёна і непрымірыма.
Беспаваротна... Даруй!

## МУЗА

Ёсць у песнях тваіх, як стыхія,
ад пагібельных вестак агні...
Ёсць праклён запаветных святыняў
і знявага людской дабрыні.

Сіла ёсць у напевах і словах,
што сцвярджаю і я — сам не свой,
быццам ты спакушала анёлаў,
асляпляючы боскай красой.

І калі ты над верай смяешся,
над табою нядрэмна гарыць
той халодны і шэры, бы месяц,
цьмяны круг, вечны круг — угары!

Зло, спагада, таемная слава —
што, скажы, заручона з табой?
Для адных ты — і цуд, і забава,
для мяне ты — пакута і боль.

Хто мне раптам усё перайначыў,
бо чаму я, пазбаўлены сіл,
не загінуў, як лік твой убачыў,
а тваіх суцяшэнняў прасіў?

Я не быў ні каханым, ні другам.
Дык за што падарыла мне ты
зорны купал над кветкавым лугам —
цень пякельнай тваёй пекнаты?

Халадней за паўночныя ранкі,
гарачэй за хмяльное аі,
карацей за абдымкі цыганкі
твае страшныя ласкі былі.

І была над святыняй пацеха —
як знявага і брудная плынь,
і для сэрца няўцямная ўцеха —
гэта горкая страсць, як палын!

* * *

Там чалавек згарэў...

*Фет*

Як цяжка мне хадзіць сярод
людзей
І падпяваць мажорным
струнам
І аб гульні узрушаных
страсцей
Апавядаць цнатлівым, юным...

І, ўбачыўшы свой вечаровы
твар,
Знайсці ў хаосе рытм жывога
танца,
Каб па знячэўных водблісках
мастацтва
Пазнаць жыцця раз'ятраны
пажар!

* * *

Я — Гамлет. Халадзее кроў,
Пляце каварства павуціну...
А ў сэрцы — першая любоў
Да неспазнанай, да адзінай!

Мая Афелія, цябе
Ахутаў змрок чужой краіны.
З атрутнай ранаю цяпер
Твой прынц у родным краі гіне.

## З ФРАНЦУЗСКАЙ

### *Арцюр РЭМБО*

### П'ЯНЫ КАРАБЕЛЬ

Я ішоў па цячэнню бязмежнай прасторы,
ды аднойчы я ўбачыў паўстанне рабоў.
Паганятых сваіх, перш чым кінуць у мора,
прывязалі яны да пярэстых слупоў.

Я ўцякаў ад каманды, пасланай у цёмнач.
І бавоўну, і збожжа — у прорву, на дно!
Толькі сціхнуў на палубе лямант: «На помач!»,—
лёс мне плыць загадаў, а куды — ўсё адно.

Апантанае мора знянацку шалёна
вырастала то справа, то злева сцяной.
Я імчаўся па волі стыхіі салёнай...
Хай вас Бог уратуе ад плыні такой!

Гэта сіла нячыстая ўдарыла ў трубы!
Быццам трэска, матляўся я дзесяць начэй,
дзе, паводле падання, гайдаюцца трупы
неўпрыкмет ад жывых чалавечых вачэй.

Дыхаў кіслым паветрам. Стырна не знаходзіў...
Якар струшчаны ўшчэнт, а зямлі не відаць...
Змыла з палубы вінныя плямы стагоддзяў
ашалелая хваля... у труме — вада!

Вось тады прада мной і паўстала паэма —
залатая паэма шматзорных глыбінь.
І адкрылася мне недаступная тэма,
аб якой знае толькі тапелец адзін.

І калі мне абрыдла па моры матляцца,
як імгненне, я тую надзею лавіў,

што гарчэй ад гарэлкі, вышэй ад мастацтва...
Непатольная, вечная прага любві!

Я спазнаў і прыбоі, і шквалы — я знаю,
як аблокі руінамі рушацца ўніз,
як агністаю птушкай зара узлятае...
Я запомніў ахвярнасць начных навальніц!

Там, дзе згубную слодыч кахання я зведаў,
дзе схавалася сонца за цёмнай гарой,
бушаваў акіян — як з антычных трагедый,
з неўміручых трагедый бунтоўны герой.

Там — завейная ноч. Мне прыснілася ноччу,
што далоні мае цалаваў акіян,
фасфарычныя пыркі сляпілі мне вочы...
Заляйцаў акаянную сілу ўраган!

Там — завейная ноч. Мне прыснілася ноччу.
Я глядзеў, як халодныя хвалі марскія
наступалі ў адчаі на рыф стрымгалоў.
Хто паверыць? — пяшчотныя ногі Марыі
ўтаймавалі настойлівы наступ валоў!

Колькі новых Фларыд я адкрыў без патрэбы!
Пераблытаны кветкі з вачамі звяроў.
Сцяганосна шуміць высакоснае неба
над бязмежжам панурых ліловых вятроў.

Я глядзеў, як гніе неабдымная туша
ды канае у невадзе Левіафан,
як раз'юшана хвалі ўгрызаюцца ў сушу,
як паблісквае бельмамі злы акіян.

Ледавік і залівы, сады, вадаспады...
Дзе хоць толькі крыху зачапіцца змаглі,—
там спляліся ў адно сотні рыб паласатых
і раслін карані ў перагноі зямлі.

...Налавіў бы я дзецям сярэбраных рыбак,
некранутых, што ўмеюць, як мы, размаўляць...

Пена шчасця шпурляла мой човен на рыфы,
у здранцвелым чаканні калела зямля.

Мора, мора, ты ў сне мае рукі лізала
і загойвала раны гаючай вадой,
у сузор'ях медуз непрытомна ляжала,
я стаяў на каленях — як перад святой.

А наяве — я плыў наўздагад, быццам востраў,
і пад шорах разгорнутых, велічных крыл
для няшчасных тапельцаў у наледзі вострай
паняволі я нанач абдымкі адкрыў...

Мы хаваліся ў бухце, глухой і дрымотнай.
Ды нарэшце я зноўку пачуў галасы,
што ляцелі ка мне з маніtораў грымотных —
галасы гандляроў старажытнай Ганзы.

Я — п'яны карабель! З небывалым імпэтам
разарваў туманы і завоблачны край
і здабыў — спадабацца павінна паэтам! —
толькі слізкую вільгаць ды сонца лішай.

У дзівосным хаосе агнёў электрычных
я, здаецца, знайшоў і прытулак і дом,
калі ў бездані звонкай ад выбухаў зычных
ізумруднае неба згарэла суздром.

Захлынаюся ў танцах вясельна-трывожных
і на дотык Мальштрэм пазнаю і на слых,—
я, спрадвечных пустэльняў жывы спадарожнік,
так сумую! — па вас, маладых і жывых...

Бачу зорныя архіпелагі, ды зноўку
для сугнея адкрыта азызлая ноч...
О, разгорнутасць крылаў — магутных і звонкіх,
дзе рашучасць твая, дзе бліскучы твой нож?

Значыць, праўда,— я плакаў? На небе скрыгоча,
нібы кола, гаркавае сонца адно...

Гэта смерці маёй хваля чорная хоча...
Захлынуцца б, упасці на белае дно!

Калі ж гэта Еўропа, дык хай яна будзе —
як самотная лужына ў зорным святле.
Адзінокі хлапчук, каб не бачылі людзі,
хай запусціць караблік з паперы ў яе.

Надакучыла мне ратавацца ад смагі,
надакучылі ветразі, млосныя дні!
Мне абрыдлі гандлёвыя шэрыя сцягі
і на страшных пантонах чужыя агні!

## ЗЛО

Тады як харкавінне злой карцечы
са скрыгатам ляціць за небасхіл,—
прад Каралём слухмяна, па-авечы
ідуць палкі ў агонь з апошніх сіл;

тады як жорны той пачварнай бойні
спяшаюцца змалоць людзей на гной,—
прырода раўнадушна і спакойна
цікуе за вар'яцкаю гульнёй.

Ёсць Усявышні — як блазнюк, рагоча
і з гора паствы бессаромна кпіць,
пасля, закалыханы хорам, спіць...

Нарэшце Бог апусціць долу вочы:
вось мацяркі... Яны прыйшлі — і што ж? —
Ён зверху ўбачыць іх апошні грош.

## ЗАЧАРОВАНЫЯ

Пяць хлапчукоў прыйшлі да склепа,
дзе хлеб пякуць... Сняжынкі слепа
на іх ляцяць.

Стаяць, не рухаюцца з месца —
на пекара, што месіць цеста,
яны глядзяць...

Вось ён, таўстун, відзён ім з вулкі,
пшанічныя тугія булкі
саджае ў печ.

О, як ім гэта многа значыць!
А той малых нібы не бачыць,
не гоніць прэч.

І летуценяць як аб цудзе,—
калі вымаць нарэшце будзе
ён з печы хлеб;

ажно зайграюць іх вантробы,
калі дзівосным пахам здобы
напоўняць склеп...

Тады й цвыркун-скрыпач ахвочы
спяваць да самай апаўночы —
звіні, жытло!

І скрозь халодны морак сцюжы
пад лахманы дзяцей і ў душы
плыве цяпло.

У малітоўна-шчырай позе
хрыстосікі на злым марозе —
каля вакна...

Здаецца ім, што там, у склепе,—
ўвесь белы свет... Адтуль найлепей
зямля відна!

Так, зачараваныя хлебам,
яны пад непрыветным небам
глядзяць на печ;

а вецер, цёмны і калючы,
зрывае бедныя кашулі
з іх плеч.

## СОН У ЛАГЧЫНЕ

У засені кустоў раўчук шчабеча,
шукаючы спакойнага жытла.
Над ім трымцяць уранку і пад вечар
струмені белапеннага святла.

Салдат-юнак, астрыжаны, без каскі,
у крапіве, калючай і сухой,
на дне лагчыны спіць, і, поўны ласкі,
ягоны твар ахутаны смугой.

З усмешкай хваравітай — воін, быццам
дзіця, што аніяк ад сну пазбыцца
не можа і калее на жарстве...

Не ўздрыгнуць ад лагоды нават вейкі
і сведчаць, што заснуў юнак навекі,
крывавыя дзве раны ў галаве.

## РУКІ ЖАННЫ-МАРЫІ

Далоні рук тваіх мазольных
і непрытульных да пары —
нібы асмужаныя золлю,
паружавелі на зары...

А можа, спёка асалоды
іх апаліла ў ранні час,
калі цябе з такой нагоды
пацалавалі першы раз?..

Ці ведзьмаковыя ўсе чары
на іх засмяглі, як загар,
калі круціць яму сігары
табе загадваў валадар?

Яны, напэўна, спрытным рухам
лавілі вогненных цыкад
і ўсмак, па кроплі, круг за кругам
цадзілі патаемны яд?

Якой жа мараю ў экстазе
нарэшце трызнілі яны,
залежныя ад тых фантазій,
што горш атрутнае маны?..

Не, то — не рукі прымадонны,
а пабрацімы ўсім рукам,
што пахнуць дымам і гудронам
і служаць, шчырыя, станкам.

Такія рукі, як і спіны,
ледзь разгінаюцца штодня —
працуюць болей, чым машыны,
спарней за волата-каня.

Хоць дужыя — ды не з жалеза,
стамлёныя, але — няўзнак;

калі ўзаўецца «Марсельеза»,
яны сціскаюцца ў кулак!

І не адзін паўстанец горды
працягваў ім сваю далонь,
бо ў Жан-Марыі нораў цвёрды,
а ў сэрцы — ярасны агонь.

Вось выступае пад загарам
выразна, грозна, нездарма —
галодны люд з азяблым тварам,
які стагоддзямі драмаў...

Спавітыя смугою рыжай,
пад сонцам гневу і вясны
сярод мяцежнага Парыжа —
яны ўжо ў чэраве вайны.

О, як да іх мы прыпадалі:
бы да святыняў — зноў і зноў,
пакуль знянацку не прапалі
яны ў бразгоце кайданоў.

Заўсёды ўздрыгваю ад мукі,
ледзь толькі ў непамысным сне
я ўбачу, як крывавяць рукі,
што ратавалі і мяне...

## *Міхай ЭМІНЕСКУ*

## ЛУЧА́ФЭР

**Паэма**

Жыла ў далёкія часы
спрадвеку тут, напэўна,
дзяўчына боскае красы —
патомная царэўна.

Расла адна, ёй на зямлі
амаль ніхто не роўня:
ні сонца досвітнага лік,
ні ў зорным небе поўня.

Кажнюткім вечарам яна
з'яўлялася з-за люстраў
да проймы золкага вакна
Лучафэру насустрач.

Глядзела ўдаль, дзе зноў і зноў
трымцеў ён зіхатліва
і караваны караблёў
па промню вёў імкліва.

За ноччу ноч, міналі дні —
у сэрцы сум хаваўся,
і сам Лучафэр з вышыні
ў царэўну закахаўся.

Калі ж да самага відна
ў палоне летуценняў
аб зорцы марыла яна,—
знікалі гукі, цені...

Ён, углядаючыся ўніз,
неміласэрна блішча,
ледзь толькі ўбачыць між байніц
дзявочае аблічча.

*

І вось, як полымя, за ёй
струменіцца па зале —
то затрапеча над сцяной,
то са сцяны спаўзае.

А як прымоўкнуць гукі ўсе,
калі засне дзяўчына,—
імкнецца прагна да яе
рукамі і вачыма.

Адлюстраваны, ён ураз
развее морак ночы,
і ўздрыгваюць — нібы ў адказ —
яе спрасоння вочы.

Усмешку шле яму, і ён
мігціць — як цень ад здані,
спяшаецца за ёю ў сон
і ловіць шэпт адданы.

І сэрца б’ецца ўсё званчэй,
калі яна ўздыхае:
«О, валадар маіх начэй!
Прыйдзі. Я так чакаю!

Лучафэр!.. Родны мой, прашу:
сыдзі ў мае пакоі.
Хачу, каб ты маю душу
навекі супакоіў!»

Ён бласлаўляе споведзь-крык
сваім мігценнем зорным...
І раптам, бы маланка, знік
у акіяне чорным.

Там, дзе пагашаны агні
на сотні міль наўкола,—
з непераможнай глыбіні
ўстае прыгожы волат.

Азораны, ідзе праз лёд,
трымае прад сабою —
са дна — бліскучастае жазло,
спавітае травою.

Ён — бытта воін пры мячы,
упэўнены, сабраны,
і сіні саван на плячы
тугім вузлом сабраны.

З жазлом ва ўчэпістых руках
юнак нячутна крочыць.
На бледным твары мерцвяка
гараць адчайна вочы.

«Адтуль, дзе лёс мяне насіў,
дзе ззяў я без патрэбы,
сышоў я, сын стыхійных сіл —
дзіця вады і неба.

Каб любавацца не здаля
маглі красой дзявочай,
маім святлом уся зямля
світаць сягоння хоча!

Ідзі са мной, сваіх забудзь
дзеля любві нябеснай.
Лучафэр я, а ты мне будзь
жаданаю нявестай.

У мой каралавы сезам
ты ўвойдзеш каралевай,
аддам усё табе і сам
схілюся — як прад Евай».

«О, ты лагодны — як у сне
анёл, што ўцёк з няволі;
ды ў твой палац, адкрыты мне,
я не ўвайду ніколі.

На глыбіні ці ў вышыні
ты паблажэў — не знаю...
Мне холадна ў тваім агні,
ты мёртвы, я — жывая».

*

Мінае дзень, і два, і тры —
як светач непагасны,
зноў над аблокамі зары
ўзышоў Лучафэр ясны.

Зноў вызваляецца ад сну,
хоць памяць і смуткуе,—
неспадзяваную вясну
яе душа святкуе.

«Лучафэр!.. Родны мой, прашу:
сыдзі ў мае пакоі.
Хачу, каб ты маю душу
навекі супакоіў!»

І вокамгненна ён пагас,
працяты палкім болем,
і неба скурчылася ўраз
ад незямной юдолі.

Кружыўся полымны язык
і бушаваў, барвовы,—
ды пасярод хаосу ўзнік
юначы лік суровы.

Над кучаравай галавой —
карона залатая:
то рассыпаецца расой,
то промнямі ўзлятае...

Але, кароны апрача,
няма ў аблічча руху.
Пад цёмным покрывам плашча
бялеюць воскам рукі.

І толькі горача бліщчаць
агромністыя вочы.
Іх позірк — верыць і кахаць
да забыцця — ахвочы.

«Адтуль, дзе лёс мяне насіў
як спадара самоты,
сышоў я, сын астральных сіл —
сын сонца і цямноты.

Хадзі са мной — людзей забудзь
дзеля вясны нябеснай.
Лучафэр я, а ты мне будзь
адданаю нявестай.

Анёл у локаны твае
ўпляце вянкі сузор'яў,
пяшчотай-ласкай абаўе
і назаве сястрою».

«О, ты цудоўны! Я і ў сне
аб гэтым жа малюся...
Але ў палац, адкрыты мне,
яшчэ ўвайсці баюся.

Ад пачуцця, як адкрыцця,
мне страшна — хоць і страсна
ўсе струны зморана трымцяць
журбою невыказнай».

«Чаму ж тады, мая мілосць,
гучыць твой плач з амбону?
Я неўміручы — быў і ёсць,
ты ж — смертная да скону».

«Не ведаю, дзе сіл займець,
каб выказаць прызнанне.
Цябе хацела б зразумець,
ды сэнсу слоў не знаю.

А сапраўды маёй любві
ты носіш вобраз светлы,—
спусціся з неба і жыві
між нас, як рыцар смертны».

«Ты неўміручасці маёй
за пацалунак хочаш?
Ну што ж, я прад такой цаной
не апускаю вочы.

Зноў нарадзіцца на зямлі
мне будзе вартай платай.
Вярнуся, вольныназусім
ад вечнасці праклятай.

Забуду ўсіх сяброў маіх,
пакорна ўдзячны лёсу...» —
Ён так сказаў і ў той жа міг
надоўга знік з нябёсаў.

*

Глядзеў пажадліва даўно
паж Каталін вясёлы,
што ў кубкі разліваў віно
гасцям падчас застолля,—

лісліва пазіраў у твар
царэўне — як ва ўгоду —
красун-манюка і махляр
без роду, без народу.

І колер шчокаў і пагляд
ягоны красамоўна
як гаварылі: быў бы рад
зрадніцца з ёю кроўна.

«Якою ружай расцвіла!
Ёй быць маёй дазвання!
Заняцца з ёй пара прыйшла
навукаю кахання».

І вось абняў, калі адзін
быў ля яе ў пакоі...
«Чаго ты хочаш, Каталін?
Пакінь мяне ў спакоі».

«Чаго хачу? Такі мой сказ:
каб ты не сумавала
і каб з усмешкай хоць бы раз
мяне пацалавала».

«Аб тым і слухаць не магу,
юрлівец бессаромны!..
Я ў сэрцы вернасць зберагу
Лучафэру ўсё роўна».

«Не можаш слухаць? Выкінь прэч
старыя забабоны!
Ты мне ў каханні не пярэч,
бо тут свае законы.

Так у спакуснае сіло
ляцяць нясмела птахі...
Сваю ж руку, нібы крыло,
ты мне давер без страху.

Я дакранаюся і — глянь! —
бяру цябе за плечы.
Хутчэй на пальчыкі прыўстань
маім губам насустрэчу.

Калі схілюся — твар наблізь
і раз, і два, і тройчы...
Вось так бы вечна зверху ўніз
глядзецца вочы ў вочы.

Чаму ж разгублена стаім
нібы на паўдарозе?
Хай пацалункі — мой з тваім —
зліваюцца ў знямозе!»

Яна глядзіць на блазнюка
і слухае здзіўлёна:
то ўверх узнімецца рука,
то ападзе бязвольна...

І кажа так яна хлапцу:
«Мы змалку побач разам.
Ты быў калісьці шалапут,
цяпер жа ты — пралаза!

Ды ўстане там, дзе ноч лягла,
Лучафэр зіхатлівы —
бяскрайнім будзе далягляд,
і мора, і залівы...

Мне сэрца поўніць смутак-жаль
і слёзы позірк засцяць,
калі імкнуцца хвалі ўдаль,
шалеючы ад страсці.

З якой любоўю незямной
ён свеціць мне здалёку!
Ды промень мілы нада мной
не падуладны воку.

Ён супыняе шпаркі бег
пакутлівага ззяння,
і мы асуджаны навек
таміцца без спаткання.

Таму й цягну я ношу дзён,
нібы ў пустэльні страшнай,
пакуль не завітае ў сон
цень мары недасяжнай».

«Дзіця, забудзь пра міражы!
Пакінем замак цесны
і ў невядомы свет збяжым
ад мітусні балеснай.

Мы будзем слаўна жыць удвух,
не ведаючы гора;
не будзе мучыцца твой дух
па безнадзейных зорах...»

*

Ляціць Лучафэр. Небасхіл
накрыў крылатым ценем.
І Млечны Шлях пад шорах крыл —
як вечнае імгненне.

Над ім — нязведаны сусвет,
унізе — вір сузор'яў.
А ён — як бліскавіцы след
між той і гэтай прорвай.

Застыў ён, злы на вышыню,
і праз касмічны морак
убачыў — як упершыню —
з'яўленне новых зорак.

Яны плывуць удалячынь
усцяж прасторы млечнай,
між туманоў і аблачын...
А ён — куды імкнецца?

Куды ляжыць яго палёт —
без часу, без граніцаў?..
Туды, дзе нават кволы плод
не можа нарадзіцца.

Нішто — прад шэраю зарой,
абложна — як у пушчы,
і цемры страшнае зяўро
ў хаосе невідушчым.

«Прашу мяне, мой валадар,
ад вечнасці пазбавіць,
і род людскі за гэты дар
цябе навек праславіць.

Ты можаш дараваць жыццё,
і смерць наслаць ты можаш...
Дык забяры ў мяне — што ёсць,
дай іншы лёс мне, Божа!

А я ўзамен — бяссмерця німб,
каб збыцца ад вярыгаў.
Ты надзялі мяне адным —
адным кахання мігам!

Пераржагні апошні раз
упэўненай рукою,
бо, створаны ў спакойны час,
я прагну зноў спакою».

«Ты — сын агню і сын вады,
хаўруснік розных лёсаў;
пакуль далёка да бяды —
не патрабуй дзівосаў.

Ты чалавекам хочаш стаць,
ва ўсім з людзьмі зраўняцца?
Ім накавана ўміраць,
як потым — нараджацца.

Змяняецца ад веку ў век
іх нораў акаянны.
Як хваля — кожны чалавек
у тлумным акіяне.

Каму — чакаць канца-бяды,
хто — стрымгалоў з адхону.
А мы — усюды і заўжды,
не ведаючы скону!

Зіма вянчаецца вясной —
ні волі, ні спакою.
Пагасне сонца — раніцой
запаліцца другое.

Яму стагоддзямі гарэць
над зорнасцю гарэзнай.
Што нараджаецца — памрэ,
каб потым уваскрэснуць.

А ты — Лучафэр, ім жа будзь,
ты пан сабе і служка.
Мой ясны свеце, не забудзь
парады гэтай слушнай.

Табе на голас дам правы —
стыхіі голас спеўны,
што горы, лес і паплавы
стварае з белай пены.

А пажадаеш моц займець
і ўладу без каварства,—
бяры найлепшую з зямель,
будуй айчыну-царства.

Я войска дам і караблі,
каб ты прайшоў, як воя,
удаль і ўшыр па ўсёй зямлі...
А смерці — не вымольвай!

І — можа, досыць слёзы ліць
па колішняй планеце?
Глянь зверху, калі так баліць:
што робіцца на свеце!»

*

І зноў Лучафэр як не свой:
з глухога абажура
струменіць шчырае святло
спакойна і панура.

Зара пагасла. Вецер сціх,
і ў цемрадзі халоднай
адзін бязлюдны маладзік
дрыжыць на гладзі воднай.

Відно ад бляску — прад вадой
часінай вечаровай
аблічча пары маладой
у засені ліповай.

«Дай прытуліцца да грудзей
пад гэтым небам ясным,
о ты — мілейшая з людзей
у парыванні страсным!

Як сэрцу нерушна, калі
яно ў святле цвярозым!..
Сваім дыханнем наталі
маю душу і розум.

Няхай ад роспачы любой
ратуе нас яднанне,—
найпершая мая любоў,
апошняе жаданне!»

Глядзіць на іх, як на святых,
Лучафэр неспадзеву:
вязьмом спляліся пальцы іх,
юнак цалуе дзеву.

Упаў пялёсткавы туман —
цнатлівы і спакусны,
і асыпаецца духмян
на рукі іх і вусны...

Ды, не чакаючы відна,
яна ўзнімае вочы,
і да Лучафэра яна
шле свой прывет дзявочы:

«Па тонкім промні слізгані,
мой светач, развітальна,
каб дні заззялі — як агні:
світальна і святарна!»

Ён, як бывала, затрымцеў
натхнёна і сурова —
нібыта зноўку захацеў
пачуць жывое слова...

Але не стаў насустрач плыць,
не ўпаў на дно марское:
«Усё адно табе, з кім быць —
з другім або са мною.

Я тут нічым не памагу,
жыві па-чалавечы.
А я іначай не магу,
мне холадна, я — вечны».

## БІЯГРАФІЧНАЯ ДАВЕДКА

Паэтычная зорка Міколы Федзюковіча ярка і непагасна гарыць на літаратурным небасхіле Беларусі. Дарэмна, ужо на значным адрэзку творчага шляху, ён шкадаваў, што «песні сваёй, запаветнай, не прапеў яшчэ народу свайму». Але гэтая песня ёсць, гэтая песня прапета, яна і сягоння гучыць далёка і высока, бо хапае ў ёй і шчырага болю, «і шчымлівай сялянскай любві да суровага, душнага поля, да крамянага лета з прыполам, поўным яблык, грыбоў, журавін».

Радзіма слыннага паэта — глыбінка Пінскага Палесся, тут, у вёсцы Гутава Драгічынскага раёна, 22 мая 1943 года ён нарадзіўся ў небагатай сялянскай сям'і.

Бацька, Мікалай Іванавіч, загінуў у вайну, маці, Ксенія Пракопаўна, працавала ў калгасе. Мікола Федзюковіч скончыў Гутаўскую сярэднюю школу і працаваў лабарантам у гэтай жа школе, фотакарэспандэнтам лунінецкай раённай газеты «Ленінскі шлях». Пасля службы ў Савецкай Арміі вучыўся на аддзяленні паэзіі Літаратурнага інстытута ў Маскве. З 1970 года — рэдактар выдавецтва «Народная асвета», загадчык аддзела літаратуры і мастацтва газеты «Чырвоная змена», рэдактар бюлетэня «Служба быту Беларусі». З 1993 года — літкансультант газеты «Белорусская нива» і адначасова кіраўнік літаб'яднання пры «Чырвонай змене». Дарэчы, маладым творцам паэт дапамагаў усё сваё нядоўгае жыццё.

Упершыню падборка вершаў Міколы Федзюковіча апублікавана ў лунінецкай раённай газеце. У рэспубліканскім друку выступаў з 1964 года. Друкаваўся ў калектыўных зборніках «Слава Арміі Савецкай», «Сэрцам загадана», «Песня любві», «Дзень паэзіі». Аўтар кніг «Зямля — магніт», «Мілавіца», «Птушыны грай», «Макаў цвет». У іх роздум над жыццём сучасніка, трывога за сваю краіну, вера ў перамогу дабра і любові. Чысцінёй пачуццяў, навізной успрыняцця навакольнага свету, свежасцю думкі і вобразнасцю хвалюе паэзія ягонай кнігі «Красадзён», якую паэт пры жыцці не паспеў выдаць. Вершы Міколы Федзюковіча перакладаліся на літоўскую, рускую, украінскую і іншыя мовы. У 1976 годзе ў перакладах І. Бурсава ў Маскве выйшла кніга паэзіі «Птичье дерево».

Мікола Федзюковіч як быццам прадчуваў свой лёс, бо менавіта яму належаць гэтыя шчымлівыя, пякучыя радкі:

Павінен кожны
вычарпаць да дна,—
што лёс паслаў...
Загадкавая тайна —
у смерці,
што прыйшла на схіле дня,
у вечнасці —
часінаю світальнай.

Так яно і здарылася на самай справе. Памёр Мікола Федзюковіч нечакана, раптоўна, і якраз на Каляды — 8 студзеня 1997 года. Выдатны беларускі паэт і таленавіты перакладчык знайшоў свой апошні прытулак на Паўночных могілках у Мінску.

## ЗМЕСТ

**Зямля — магніт**
**1968**



**Мілавіца**
**1971**

**Птушыны грай**
**1976**

**Макаў цвет**
**1979**

**Красадзён**
**Вершы з нявыдадзенай кнігі**

**Федзюковіч, М. М.**

Ф32 Красадзён : вершы, пераклады / Мікола Федзюковіч ; уклад. В. Гардзей.— Мінск : Маст. літ., 2009.— 319 с.— (Беларуская паэзія XX стагоддзя).

ISBN 978-985-02-1060-9.

Красадзён — шматгадовая травяністая расліна сямейства лілейных, якая на пачатку лета цвіце прыгожымі цёмна-аранжавымі кветкамі. Так хацеў назваць свой чарговы паэтычны зборнік Мікола Федзюковіч, але, на жаль, здаць рукапіс у выдавецтва не паспеў. Цяпер пад той жа назвай выйшла кніга выбраных вершаў паэта з яго не дужа і вялікай па аб'ёму спадчыны.

Паэзію Міколы Федзюковіча высока цанілі класікі беларускай літаратуры Янка Брыль, Уладзімір Караткевіч, Міхась Стральцоў. У кнігу «Красадзён» увайшлі лепшыя творы з прыжыццёвых зборнікаў паэта «Зямля — магніт», «Мілавіца», «Птушыны грай», «Макаў цвет», а таксама яго пераклады з еўрапейскіх моў.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84(4Беи)-5**

Літаратурна-мастацкае выданне

*Беларуская паэзія XX стагоддзя*

**ФЕДЗЮКОВІЧ** Мікола (Мікалай Мікалаевіч)

**КРАСАДЗЁН**

*Вершы, пераклады*

Рэдактар *В. К. Гардзей*
Мастак *А. І. Цароў*
Мастацкі рэдактар *В. І. Сенчанка*
Тэхнічны рэдактар *В. І. Барута*
Стылістычныя рэдактары *Л. Г. Ганчарэнка, Я. А. Бебель*

Падпісана да друку 09.12.08. Фармат 84×100$^{1}/_{32}$. Папера афсетная. Гарнітура Тып Таймс. Афсетны друк. Умоўн. друк. арк. 15,6. Улік.-выд. арк. 12,17. Тыраж 1500 экз. Заказ 3861.

Выдавецкае унітарнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
ЛИ № 02330/0056778 ад 17.02.2004.
Пр. Пераможцаў, 11, 220004, Мінск. www.mastlit.by;
e-mail: mail@mastlit.by

Адкрытае акцыянернае таварыства «Баранавіцкая ўзбуйненая друкарня». Вул. Савецкая, 80, 225409, Баранавічы.
ЛП № 02330/0131659 ад 02.02.2006 г.